

Літаратура і мастацтва

газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

16 КРАСАВІКА 1999г. № 15/3995 КОШТ 15000 РУБ.



**БУДЗЬМА РАЗАМ!**

*Шаноўныя чытачы! Ідзе падпіска на наш штотыднёвік на другі квартал 1999 года. На "ЛіМ" можна падпісацца ў любым паштовым аддзяленні. Кошт падпіскі на месяц — 70 тысяч рублёў, на два месяцы — 140 тысяч рублёў.*

**Наш індэкс — 63856.**



# Пасланцам лёсу — вечная ўдзячнасць

Да стагоддзя з дня нараджэння Лідзіі РЖЭЦКАЙ і Льва ЛІТВІНАВА

***Усё менш застаецца тэатралаў, якія глыбока перажывалі і ўспрымалі важныя эстэтычныя і маральна-этычныя імпульсы ад тых мастацкіх вобразаў, ад тых тэатральных увасабленняў чалавечых тыпаў, што стваралiся з удзелам гэтых выдатных дзеячаў беларускай драматычнай сцэны. Спектакль — з'ява, якая жыве і раскрываецца ва ўсім багацці пачуццёвага характара толькі ў непасрэдных кантактах і супольна артыстамі з гледачамі. І застаецца ў памяці, у сэрцы як тых, хто дзейнічае на падмостках, так і заўсёднікаў партэра і галёркі ў тэатры. Аб гэтым — аповед ветэрана нашага Купалаўскага тэатра.***

*(Працяг на стар. 10—11)*

На здымку: Лідзія РЖЭЦКАЯ.

Фота Ул. КРУКА



# КОЛА ДЗЁН

***Экран тэлебачання — акно ў свет. Блізкі і далёкі. Без яго, як без вады, — ні туды і ні сюды. І мы сядзім ля сваіх скрынак і глядзім. У вёсцы і ў горадзе. Толькі ж вось глядзець мясцовы канал ТБ — і сумна, і горка, і прыкра.***

***А глядзець гэты канал, які мае пашанотнае найменне "Беларускае тэлебачанне", свядомаму беларусу наогул балюча. Бо беларускасць яго вельмі адносная. Не аднабокая нават, а нейкая скасабочаная. Дэкаратыўная, ці што? Слову беларускаму тут вельмі няўтульна.***

***Як падчарцы пры мачасе: вымушана трываць. Нават дыктары-вядучыя раз-пораз пераходзяць на рускую мову, ёсць на тое прычына ці няма. А так званы жывы эфір наогул ігнаруе беларускую мову. Сядзяць, скажам, на экране мытнікі беларускай дзяржавы на чале з намеснікам старшыні Дзяржкамітэта (альбо работнікі Беларускага металургічнага завода на чале з генеральным дырэктарам), і за ўсю перадачу ніхто з іх не абзавецца беларускім словам, хоць бальшасць удзельнікаў яе — дзеці гэтай зямлі. Не абмовіцца беларускім словам і ніхто з двух-трох дзесяткаў будучых акцёраў і рэжысёраў беларускага тэатра на чале са сваёй акадэмічнай настаўніцай. Другі-трэці год не азываецца з тэлеэкрана беларускім словам ніводзін беларускі чыноўнік — ад самага высокага рангу да найніжэйшага, сельсавецка-калгаснага...***

***Зрэшты, якія могуць быць прэтэнзіі? БТ усяго толькі адлюстроўвае рэаліі нашага сённяшняга жыцця.***

***Ці стараецца, каб гэтыя рэаліі былі акурат такія...***

### ВІЗІТ ТЫДНЯ

Адбыўся кароткатэрміновы і досыць небяспечны (НАТА не гарантавала бяспеку палёту) візіт прэзідэнта РБ у Югаславію. Ён, як каментуе друк і ТБ, пакінуў больш пытанняў, чым адказаў. Такіх, напрыклад: гэта быў візіт падтрымкі Югаславіі ці паездка пасрэдніка між Масквою і Бялградам? А яшчэ больш пытанняў выклікае ініцыятыва Мілошавіча аб далучэнні Югаславіі да Саюза Беларусі і Расіі. Яе рацыянальнасць, апраўданасць і эфектыўнасць выклікаюць у журналістаў і палітыкаў сумненні...

### ТЫТУНЁК ТЫДНЯ

Газеты паведамляюць, што сёлета ўпершыню ў нашай краіне тры калгасы Пінскага раёна правядуць на плошчы ў 300 гектараў эксперымент па прамысловым вырошчванні тытуню. Што ж, тытунь на прамысловай аснове мо і сапраўды навіна для Беларусі, але толькі не сама гэтая расліна. Яе здаўна садзілі на гародах нашы дзяды і прадзеды і са смакам курылі не прывазны, а свой духмяны мультанок. Дык, можа, і пінскі прамысловы тытунёк будзе не горшы за турэцкі, балгарскі ды кубінскі, купляць які ў нас няма за што?

### ПРАДОЎЖКА ТЫДНЯ

У чарговы раз прадоўжаны тэрмін абарачэння чэкаў "Маёмасць", які першапачаткова быў вызначаны законам "Аб раздзяржаўленні і прыватызацыі" да 1 ліпеня сёлетняга года. Зараз на руках у людзей яшчэ знаходзяцца каля 270 мільёнаў чэкаў. Не прыносяць аніякай карысці чэкі "Маёмасць" і тым самым уладальнікам, якія паспелі іх нейкім чынам скарыстаць. Чэкавая прыватызацыя, па ўсім відаць, і ў нас скончыцца такім жа "пшыкам", як і ў Расіі. Ці не па гэтай прычыне новы тэрмін абарачэння чэкаў наогул не вызначаны...

### СВЕДЧАННЕ ТЫДНЯ

Незалежны інстытут сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў правёў апытанне адносна дачыненняў нашых людзей з рынкам. Выявіліся дзіўныя, узаемавыключальныя тэндэнцыі. Амаль 84 працэнты апытаных — за шырокі выбар якасных тавараў і паслуг па рынкавых цэнах, а сярод маладых людзей гэты працэнт дасягае ажно 96 працэнтаў. Аднак жа аднachасова амаль 70 працэнтаў апытаных — за дзяржаўнае рэгуляванне цэн. Вось такія мы: хочам мець ад рынкавай эканомікі ўсё станоўчае, звязанае з ёю (шырокі выбар якасных тавараў і паслуг, высокія заробкі і г.д.), але пазбегнуць пры гэтым яе выдаткаў (магчымасць страціць працу, неабходнасць актыўна шукаць заробак, пастаянна павышаць кваліфікацыю і г.д.). Адным словам, мы ўсё яшчэ савецкія...

### ПРАЎДА ТЫДНЯ

Сёлетняя паводка нарабіла шмат бяды. Тысячы людзей на сваіх селішчах пасля яе — як пасля вайны: не ведаюць, за што зачапіць рукі. Абяцаная дапамога дзяржавы? Так, дапамога аказана і аказваецца. Аднак суадносіны памераў бяды і дапамогі вельмі неадпаведныя. Так, агульная ацэнка нанесеных страт на Гомельшчыне вызначаецца ў 800 мільярдаў рублёў, а на дапамогу пацярпелым выдзелена 53 мільярды. Пра гэта красамоўна сказала жыхарка вёскі Азараны Жыткавіцкага раёна, словы якой прыводзіць карэспандэнт "Народнай газеты": "А што гэты мільён? Боты рыбацкія два мільёны каштуюць. Лепш бы ўзялі гэтыя грошы, з нас пакрысе сабралі ды агарадзілі б вёскі дамбамі — бо рана ці позна вада зноў прыйдзе". Святая прастата ці святая праўда?

### КАНЬЯК ТЫДНЯ

Куды падзеліся 40 бутэлек каньяку "Белы бусел", якія былі канфіскаваны ў доме былога старшыні "Рассвета" В.Старавойтава? Гэтым пацікавілася адвакат падсуднага В.Страмкоўская. нагадаўшы, што такім жа каньяком частаваліся госці на дні нараджэння следчага А.Смаленцава. Гэта было ўспрынята як "паклёп" на следства, і супраць адвакаты трэці раз узбуджана крымінальная справа. Карэспандэнту газеты "Навіны" В.Страмкоўская патлумачыла: "Канфіскаваны каньяк цягне больш чым на сто мільёнаў рублёў. Па рашэнні суда гэтыя грошы можа атрымаць казна, але калі рэчы раскрадуць, што вяртаць дзяржаве? Таму я не разумею, у чым мая віна, калі я прашу разабрацца з тым, як захоўваецца гэтая "маёмасць". Здаецца, цалкам лагічна...

### ПОШУК ТЫДНЯ

Вось ужо тыдзень ідзе пошук збеглай Тамары Віннікавай — былога старшыні Нацбанка. Сцвярджаецца, што пошук ідзе без шуму, але прафесійна. Але ў такім разе ў галовах людзей узнікае пытанне: чаму ж тады пошук гэты безвынікова? І ў грамадстве пачынаюць абгаворвацца самыя розныя, ажно да неверагодных, версіі: што Т.Віннікавай дапамаглі ўцячы, у тым ліку самі ж ахоўнікі, што яна адкупілася, што яе выкралі, што яе ўжо наогул няма на свеце... Калі ж прафесіяналы скажуць сваё важкае слова?

ФЕСТЫВАЛІ

# "Вясна" — радасць і сум...

Днямі завяршыўся Міжнародны музычны фестываль "Мінская вясна". Нагадаем, што сёлета ён прысвячаўся Яе Вялікасці скрыпцы. Многія канцэрты поўніліся творчай энергіяй маладых выканаўцаў. Апроч струннікаў — выхаванцаў Рэспубліканскага каледжа пры Беларускай акадэміі музыкі, студэнтаў Акадэміі, нашых гасцей з Расіі ды з Францыі, ярка паказалі сябе піяністы. Была вялікая цікавасць публікі, быў святочны настрой, быў сапраўдны бляск майстэрства на канцэрце маладых "зорак" беларускай фартэпіяннай школы — Андрэя Сікорскага, Юрыя Блінова, Іосіфа Сяргея, Андрэя Паначэўнага, Канстанціна Красніцкага, Сяргея Смірнова, якія перад гэтым трыумфавалі ў Брэсце, дзе, як вядома, прайшоў 1 Міжнародны фестываль-конкурс піяністаў.

Адметнасцю "Вясны" сталіся і радасць спатканняў з мастацтвам юных, і ўвага да сталых майстроў. Кранальнай атрымалася сустрэча мінчукоў з Аляксандрам Крамаровым — колішнім нашым суайчыннікам, цяпер германскім скрыпачом. Цёпла прымалі заўсёдніку сталічнай філармоніі прафесара Эдуарда Грача — саліста, настаўніка, стваральніка і мастацкага кіраўніка камернага аркестра "Масковія". Захаваюцца ў памяці меламанаў два першыя фестывальныя канцэрты, якія нашы знаныя госці Наталля Гутман ды Элісо Вірсаладзе па ўласнай ініцыятыве далі ў памяць пра беларускага сябра і калегу Юрыя Цырука.

Дзіўны збег акалічнасцяў! Менавіта ў дні нашага фестывалю па ГРТ прайшла прэм'ера французскага дакументальнага фільма "Рыхтэр, няскораны". Узрушаныя тэлегледачы, абменьваючыся назаўтра ўражаннямі ад пачутага-пабачанага на экране, асабліва адзначалі унікальныя кадры супольнага выступлення Рыхтэра з Дзяржаўным камерным аркестрам Беларусі пад кіраўніцтвам Юрыя Цырука: Масква, Музей выяўленчых мастацтваў, "Снежаньскія вечары"... Знаёмыя твары музыкантаў. Цырук, Рыхтэр. Праграма, якую сёй-той з нас меў шчасце наведаць у Мінску...

Заключны сімфанічны канцэрт у Беларускай дзяржаўнай філармоніі прайшоў пад кіраўніцтвам прафесара Генадзя Праваторава. Увага і павага да традыцый, пераемнасць пакаленняў, радасны і трывожны настрой, які часцяком прыходзіць да нас увесну, — многае ўвабраў у сябе той вечар. Гучалі незабыўныя творы Ф.Шуберта і Я.Сібеліуса, гучала новая музыка С.Бельцюковa. У яго "Канцэрце для чатырох" салiравалі флейтыстка Даша Бельцюкова, скрыпачка Лідзія Дабржынец, піяніст Сяргей Смірноў, віяланчэліст Дзмітрый Цыпкін — маладосць і надзея беларускага выканальніцкага мастацтва.

**С.Б.**

ВЫСТАВЫ

# Вайна — зблізку

"Мая чужая вайна" — так назваў сваю фотавыставу Ігар Пешахонаў. Вайну ў Афганістане ён бачыў не здалёк. Яму давялося браць непасрэдны ўдзел у баявых акцыях "абмежаванага вайсковага кантынгенту". Першае, аб чым пытаюцца наведвальнікі, гэта тое, якім чынам Ігар здолеў зрабіць гэты фоталетапіс. Вядома, што ў раёне баявых дзеянняў забаронена весці дзённікі, фатаграфаваць і гэтак далей. За гэтым павінны пільна сачыць так званыя "асабісты". Тым не менш, немалую колькасць негатываў Ігар Пешахонаў даслаў дадому праз палявую пошту... Іншы раз даслаць гэтую "кантрабанду" ў СССР яму дапамагалі афіцэры ягонай часці, з якімі ён меў амаль што сяброўскія дачыненні. Рэч у тым, што сярод іх таксама былі фотааматары, якім так і карцела ў парушэнне загаду фіксаваць на стужцы гэтую чужую краіну і сваю прысутнасць у ёй. Парады Ігара, прафесійнага фатографа, былі ім вельмі дарэчы...

Штосьці здымаў салдат для вайсковай нагляднай агітацыі. Напрыклад, сцэны палітвучобы ў баявых умовах, афіцыйныя ўрачыстасці з удзелам савецкіх і афганскіх вайскоўцаў. Цяпер гэтыя кадры глядзяцца ў іншым кантэксце і яшчэ болей падкрэсліваюць абсурднасць той вайны.

На здымках фотавыставы няма баёў. Гэта хутчэй побыт. Калі, зразумела, паняцці "побыт" і "баявыя дзеянні" ўвогуле стасуюцца. Але, зрэшты, і ў турме, і на вайне людзі неяк атабарваюцца, неяк жывуць, неяк абстаўляюць сваё жыццё ўтульнасцямі. Гэта выстава пра тое, як людзі прыстасоўваюцца да вайны. Тут няма рытуальнай нянавісці да ворага, няма паказнога гераізму — ёсць цяжкая праца, пачуццё небяспекі і... адзіноты. А яшчэ ўсведамленне сваёй чужароднасці сярод гэтых гор і гэтага неба. Вайна — мая і чужая адначасова. "Мая", бо давялося праз яе прайсці. "Чужая" — бо непатрэбная. У такой вайне перамога і параза ў роўнай ступені бессэнсоўныя.

Ігар Пешахонаў марыць зрабіць вялікі фотаальбом. Можа, і атрымаецца... А пакуль з фоталетапісам "чужой" вайны можна пазнаёміцца ў галерэі "Nova" (бібліятэка імя Янкі Купалы).

**П. В.**

# Ушанавалі памяць паэта

Паказальна, што падзея, якая адбылася, выклікала вялікую цікавасць у многіх людзей. На адкрыццё дошкі, якая засведчыла, што ў сталіцы з'явілася вуліца Максіма Танка, сабраліся студэнты, жыхары навакольных дамоў, прадстаўнікі прэсы, настаўнікі. Ладзілі мерапрыемства Саюз пісьменнікаў і ўпраўленне культуры Мінгарвыканкама.

Адкрываючы ўрачыстасць, намеснік старшыні творчага саюза Навум Гальпяровіч адзначыў, што адзін з выдатнейшых сыноў Беларусі па праву заняў месца сярод тых, чыімі імёнамі названы вуліцы і плошчы Мінска, што ў памяці народа гэтая велічная постаць застаецца на вякі.

Старшыня камісіі па творчай спадчыне М.Танка пісьменнік В.Рагойша падзякаваў адміністрацыі Прэзідэнта за тое, што там з павагай і разуменнем паставіліся да ўшанавання памяці народнага паэта Беларусі.

Сваімі ўспамінамі пра Яўгена Іванавіча падзяліліся Мікола Аўрамчык і Паўлюк Пранузa.

**Н.К.**

# Звінець цымбалам і гармоніку!

У мэтах далейшага развіцця і папулярызацыі традыцый народна-інструментальнай творчасці, павышэння выканальніцкага майстэрства калектываў і асобных выканаўцаў, узбагачэння іх рэпертуару, пашырэння і ўмацавання культурных сувязей паміж народамі Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь і Пастаўскі райвыканкам вырашылі правесці 11—13 чэрвеня 1999 года ў г. Паставы Віцебскай вобласці IV Міжнародны фестываль народнай музыкі "Звіняць цымбалы і гармонік".

У фестывальных мерапрыемствах прымаюць удзел лепшыя аматарскія інструментальныя калектывы, ансамблі народнай музыкі, індывідуальныя выканаўцы на народных музычных інструментах Беларусі, Венгрыі, Літвы, Малдовы, Польшчы, Расіі, Славакіі, Украіны, Югаславіі.

Рэспубліку Беларусь прадстаўляюць творчыя дэлегацыі ад кожнай вобласці і г. Мінска. У склад дэлегацыі ўваходзяць (агульная колькасць да 30 чалавек разам з вадзіцелямі транспартных сродкаў):

— адзін інструментальны калектыў ці ансамбль народнай музыкі;

— да трох індывідуальных выканаўцаў на народных інструментах (гармонік, цымбалы, скрыпка, драўляныя духавыя інструменты, шумавыя і ўдарныя інструменты і інш.);

— інструментальны дуэт (трыо, квартэт)?

— два выканаўцы прыпевак;

— майстар па вырабе музычных інструментаў;

— спецыяліст па інструментальнаму жанру абласнога цэнтра народнай творчасці;

— кіраўнік дэлегацыі (прадстаўнік абласнога ўпраўлення культуры ці цэнтра народнай творчасці).

Замежныя краіны прадстаўляюць інструментальныя калектывы і асобныя выканаўцы ў складзе да 15 чалавек.

Рэпертуар удзельнікаў фестывалю павінен адлюстроўваць мясцовыя асаблівасці рэгіёна, які яны прадстаўляюць.

У час фестывальных мерапрыемстваў адбудуцца:

— прэзентацыя ўдзельнікаў (1 нумар);

— "Пастаўскі баль" (выступленне да 10 хвілін);

— конкурс "Хто каго?" сярод індывідуальных выканаўцаў: салістаў-інструменталістаў, прыпевачнікаў, сямейных ансамбляў, дуэтаў, трыо (да 10 хвілін);

— выступленні на канцэртных пляцоўках Пастаўскага раёна Віцебскай вобласці (да 1,5 гадзіны);

— удзел у гала-канцэрце.

Абласныя цэнтры народнай творчасці да 10 мая 1999 года павінны накіроўваць на адрас аргкамітэта (Міністэрства культуры, пр. Машэрава, 11, г. Мінск, 220004) па тры экзэмпляры спіска ўдзельнікаў з указаннем ролі ў складзе дэлегацыі, творчых характарыстык, твораў канцэртнай і конкурснай праграм, фотакартку (памерам 10х15 ці 13х18).

У парадку выключэння асобныя выканаўцы могуць падаваць заяўкі ў аргкамітэт, рашэнне па якіх будзе прымацца асобна.

НОВАЕ

# На "Еўропе-2000" — у наступнае тысячагоддзе

...У маі 2000 года ад лісабонскага вакзала Сант-Апалонія адправіцца незвычайны цягнік — літаратурны экспрэс "Еўропа-2000". Праз Пірэнейскі паўвостраў ён накіруецца ў Францыю, а далей — у Бельгію, Германію, Польшчу, краіны Балтыі, Расію, а з Масквы зноў возьме курс на Захад. 7 ліпеня гэты цягнік прыбудзе ў сталіцу Рэспублікі Беларусь Мінск, дзе спыніцца на тры дні, а 10 ліпеня будзе ўжо ў пагранічным Брэсце, адкуль пасля кароткачасовага прыпынку накіруецца далей, у Берлін. Пасажырамі гэтага незвычайнага экспрэса стануць 220 чалавек — пісьменнікі з розных краін Еўропы (у тым ліку трое беларускіх літаратараў), а таксама тыя, хто іх суправаджае.

Арганізатары гэтай паездкі стагоддзя плануюць прапанаваць падарожнікам цікавую і разнастайную праграму. Прынамсі, у Мадрыдзе мяркуецца правесці "Свята іберыйскіх культур". У Бардо гасцей чакае не менш прыемнае мерапрыемства: выстаўка "Архітэктура вінаробства" з дэгустацыяй лепшых напіткаў. Багатая культурная праграма мае адбыцца ў Парыжы: на вакзале Гар Д'Аўстэрліц выступіць тэатральная трупа "Спектакль Жаканеллі". Выстаўкі будуць наладжаны ў Луўры і ў Цэнтры Жоржа Пампіду, якія зноў адчыняцца пасля рамонту. Латвія якраз будзе святкаваць сваё 800-годдзе. Прадугледжана ўсё, каб экспрэс "упісаўся" ў гэтыя ўрачыстасці. Не застанецца ўбаку і іншыя вялікія гарады, праз якія пройдзе шлях цягніка.

А як рыхтуемся да гэтага мы, беларусы?

У краіне створаны аргкамітэт па падрыхтоўцы і правядзенні гэтых мерапрыемстваў на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь. У яго ўвайшлі прадстаўнікі міністэрстваў і ведамстваў, творчых саюзаў, Мінскага гарвыканкама і Брэсцкага аблвыканкама. На сваім першым пасяджэнні аргкамітэт абмеркаваў асноўныя накірункі работы па сустрэчы гасцей і іх размяшчэнні, а таксама стварэння для іх належнай культурнай праграмы.

Такая вялікая ўвага экспрэсу "Еўропа-2000" удзяляецца невыпадкова. Ініцыятары арганізацыі яго (каардынацыйны цэнтр знаходзіцца ў Берліне) распрацавалі праект, паводле якога прымаюцца захады аб аб'яднанні ўсіх еўрапейскіх дзяржаў у адзіную культурную прастору, а паездка ў экспрэсе і стане штуршком для кансалідацыі літаратараў з розных краін. Дарэчы, мяркуецца, што вынікам гэтай двухмесячнай паездкі стане і калектыўная кніга, якая будзе выдадзена на ўсіх краінах Еўропы. З'явіцца яна і ў Беларусі. Мяркуецца, што гэта будзе беларускамоўны варыянт. Што да матэрыялаў, прадстаўленых у ёй, дык імі стануць развагі ўдзельнікаў паездкі на агульную тэму "Аб Еўропе".

**Н. К.**

# Да сяброў з Беласточчыны

З хвалюючай і змястоўнай паездкі ў Польшчу вярнуўся лідскі ансамбль народнай песні "Калі ласка" (мастацкі кіраўнік Уладзімір Гарачаў). Вядомы калектыў пабываў у суседняй краіне па запрашэнні тамтэйшага Беларускага грамадска-культурнага таварыства і на працягу двух дзён даваў канцэрты ў шэрагу мястэчак. Не толькі беларусы, а і многія палякі зацікавіліся творчасцю лідчан.

Адметна, што вядучым канцэртных выступленняў быў загадчык аддзела культуры Лідскага гарвыканкама Уладзімір Самсонаў. Ён і дырэктар метадычнага кабінета райаддзела культуры Ганна Бабрык паказаліся перад замежнымі гледачамі ў абліччах незабыўных Купалавых вобразаў — Паўлінкі ды Адольфа Быкоўскага.

Паўсюдна беластоцкая публіка выказвала гасцям сваю ўдзячнасць дружнымі апладысментамі і воклічамі "біс" ды "брава".

**Алесь ЖАЛКОЎСКІ**

ВАРУНКІ

# Прадаваць — не будаваць

Што сення трымае творцу ў творчым саюзе? Магчымасць прафесійнага сумоўя, натуральнае імкненне быць у коле аднадумцаў, пачуццё сацыяльнай абароненасці? Магчыма, і гэта. Але найперш — наяўнасць агульнай маёмасці. Прынамсі, такія справы ў Беларускім саюзе мастакоў. Сёння на балансе СБМ некалькі вытворчых камбінатаў, Палац мастацтваў у Мінску і выставачныя залы ў іншых гарадах краіны, майстэрні. Майстэрні рана ці позна будуць прыватызаваныя, а вось што рабіць з іншымі названымі аб'ектамі — невядома. Ніхто сёння не ведае, як ва ўмовах "рынкавага сацыялізму" захаваць усё гэта для беларускай культуры.

Люстэрка гэтых праблем — сітуацыя вакол Барысаўскага камбіната прыкладнога мастацтва. Калісь гэта было вельмі рэнтабельнае прадпрыемства, дзякуючы якому някепска жылі найперш мастакі-прыкладнікі, але і манументалісты і станкавісты. Значныя адлічэнні ішлі і на кіраўнічы апарат Саюза мастакоў. Цяпер камбінат, як прынята казаць, "на картатэцы". Як, дарэчы, і ўвесь Беларускі саюз мастакоў... Пра тое, што камбінат з яго унікальнымі тэхналагічнымі магчымасцямі і кваліфікаванымі кадрамі паціху гібее, гаворацць даўно. З таго часу, як знік дзяржзаказ і адначасова рэзка панізіліся даходы асноўнай часткі насельніцтва. Калі няма чым заплаціць за кватэру, тады не да аздобы інтэр'ераў...

Некалькі год назад, калі на пасаду дырэктара камбіната рашэннем кіраўніцтва БСМ быў прызначаны спадар С.Падпорынаў, было спадзяванне, што нешта зменіцца ў лепшы бок. Паколькі такіх змен не адбылося, а камбінат усё глыбей залазіў у даўгавую яму, на апошнім з'ездзе БСМ было вырашана дырэктара звольніць, а на вакансію знайсці больш кампетэнтную асобу. Рашэнне было прынята на падставе рэкамендацый секцый дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва і ткацтва, чыя дзейнасць наўпрост залежыць ад жыццядзейнасці Барысаўскага камбіната. Рашэнне з'езда потым пацвердзіла новаабраная рада саюза і прэзідыум рады. Аднак сакратарыят, нягледзячы на гэта, заключыў са спадаром Падпорынавым кантракт на паўгода. Мауляў, сёння яго няма кім замяніць.

Адначасова з гэтым на прэзідыум вынесена пытанне аб частковым продажы камбіната альбо ягоным акцыянаванні. Прычым прадаць прапаноўваюць габеленавы ўчастак, на якім вытканы ўсе слаўтыя нашыя габелены апошніх двух дзесяцігоддзяў (у тым ліку і "Габелен стагоддзя" Аляксандра Кішчанкі), і керамічную вытворчасць — інакш кажучы, тое, што па сваёй тэхналагічнай узброенасці не мае аналагаў на тэрыторыі былога СССР.

Што ж датычыць магчымага акцыянавання, дык тут складваецца парадаксальная сітуацыя: мастакам будзе прапанавана выкупіць акцыі камбіната. Гэта, скажам шчыра, патыхае абсурдам. Камбінат ствараўся для мастакоў. Камбінат належыць Саюзу мастакоў. Чаму ж тады сябры Саюза мастакоў павінны выкупляць маёмасць, якая і так ім належыць? Юрысты, якія кансультуюць БСМ па пытаннях акцыянавання, прама гавораць: "Акцыянаванне — не панацэя, усіх праблем не вырашае". Складваецца ўражанне (хацелася б памыліцца...), што ўсе гэтыя гульні патрэбныя толькі дзеля таго, каб перадаць камбінат — маёмасць БСМ, у прыватную ўласнасць невялікай групы блізкіх да "кармушкі" людзей з Мінска і Барысава.

У гульні вакол камбіната ўключыліся і гарадскія ўлады Барысава. Хоць камбінат належыць грамадскай арганізацыі (БСМ) са штаб-кватэрай у Мінску, але стаіць ён на барысаўскай зямлі. А паколькі цяпер усе навучыліся лічыць грошы (асабліва чужыя), дык чаму б барысаўскаму начальству не адхапіць чагосьці пры размеркаванні альбо акцыянаванні?

Кажуць: нішчыць — не будаваць, душа не баліць. Страціўшы гэту унікальную вытворчую базу, мы наўрад ці здолеем падбудаваць нешта падобнае ў бліжэйшыя гадоў дзваццаць—трыццаць. Акцыянаванне — кепска. Продаж — кепска. Але ж і пакінуць усё як ёсць — нельга. Што ж рабіць?

На нядаўняй радзе БСМ ад імя секцыі дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва (старшыня А.Зіменка) і секцыі ткацтва (старшыня Н.Сухаверхава) была прапанова стварыць у Мінску эксперыментальную творчую базу для ўсіх відаў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, а ў Барысаве захаваць базу вытворчую. Ідэя вартая, і яе рэалізацыя магла б вырашыць адну з галоўных супярэчнасцяў паміж Мінскам і Барысавам. Рэч у тым, што Барысаўскі камбінат абслугоўвае ў асноўным мінскіх мастакоў. А па сённяшнім часе (калі "час" і "грошы" — сінонімы) марнаваць штодня чатыры гадзіны на паездкі сюды-туды ніхто не хоча. Так што сапраўды мае сэнс падзяліць у імя агульнай згоды вытворчасць і творчасць. Спонсарам гэтага праекта А.Зіменка і Н.Сухаверхава бачаць Міністэрства культуры і Міністэрства замежных спраў. Інфармацыю аб Барысаўскім камбінаце і мастаках, якія рэалізоўвалі на гэтай вытворчай базе свае праекты, — у Інтэрнэт. Шукаць заказчыкаў за мяжою, адкінуць убок фанабэрыю, акцэнтаваць увагу патэнцыяльных заказчыкаў на тым, што ў нас у Барысаве заходнееўрапейская якасць па ўсходнееўрапейскай цане. Калі трывала станем на ногі, тады загаворым іншай мовай... Атрымаўшы дзяржаўную падтрымку, камбінат у сваю чаргу будзе дзяліцца з дзяржавай прыбыткамі.

Мяркую: гэта выйсце. Гэта лепей, чым прадаваць — адразу альбо па частках.

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

АБСЯГІ

ГОМЕЛЬ...

## Фестывалі маладых

У вялікай зале Дома тэхнічнай і мастацкай творчасці настаўнікаў прайшоў другі гарадскі фестываль песеннай і паэтычнай творчасці школьнікаў і педагогаў "Жывы гук" і абласны маладзёжны фестываль паэзіі і аўтарскай песні. Сотні выканаўцаў паказалі свой талент, свае дасягненні ў творчасці.

## Дабрачынцы — ветэранам

Вось ужо трэці год раз у месяц у абласным драматычным тэатры праходзяць дабрачынныя спектаклі для ветэранаў. Фундатар — абласное аддзяленне Партыі народнай згоды. У рэпертуары — беларуская драматургія, творы рускіх класікаў. Нядаўна адбыўся спектакль паводле п'есы А. Астроўскага "Лес".

## Выступае Бранскі камерны

У Гомель са сваімі праграмамі часта прыязджаюць артысты з Бранска. Асабліва цесныя сувязі ўсталяваліся паміж драматычнымі тэатрамі двух гарадоў. Днямі на сцэне Гомельскага тэатра выступіў Бранскі камерны аркестр пад кіраўніцтвам Эдуарда Амбарцумяна. У выкананні расійскіх музыкантаў прагучалі "Кармэн-Сюіта" Бізэ-Шчадрына, папулярныя творы рускіх і замежных кампазітараў.

**Аляксей ШНЫПАРКОЎ**

ГРОДНА...

## Афорты Леаніда Марчанкі

Выстава, прысвечаная памяці беларускага мастака Леаніда Марчанкі, адкрылася ў Гродзенскім гісторыка-археалагічным музеі. Яе арганізацыя стала магчымай дзякуючы актыўнаму ўдзелу удавы майстра Ніны Паўлаўны Марчанкі. Мастак прайшоў нядоўгі, але багаты жыццёвы і творчы шлях. Шмат падарожнічаў, працаваў на Далёкай Поўначы, прайшоў ад Мурманска да Краснаярска па Вялікім Паўночным марскім шляху, вандраваў па Туркменіі, Азербайджане, Прыбалтыцы і Украіне, бываў у Іспаніі, Польшчы, Германіі, Сірыі, Даніі. І адусюль вяртаўся з багатымі творчымі набыткамі. І ўсё ж большасць работ у ягонай спадчыне прасякнута любоўю да гожых куткоў Беларусі. Большасць твораў Марчанкі створаны ў складанай і працаёмкай тэхніцы афорта, усе этапы якой мастак звычайна выконваў уласнаручна.

Калекцыя музея папоўнілася адной з прац мастака — літаграфіяй "Дуб. Свіцязь", якую падаравала ўдава аўтара.

**Лілія НАВІЦКАЯ**

ВІЦЕБСК...

## Юбілей мастацкай школы

Сёлета Віцебскай мастацкай школе — 80 гадоў. Юбілей адзначаецца шырока. У выставачных залах горада адкрылася адразу чатыры экспазіцыі. Сапраўднай падзеяй стала выстава з фондаў Мастацкага музея і прыватных калекцый.

— Да апошняга часу ў Віцебску амаль не было арыгінальных работ славутых пачынальнікаў — выкладчыкаў Віцебскага народнага мастацкага вучылішча, — адзначыла дырэктар абласнога краязнаўчага музея Вольга Акуневіч. — Дзякуючы пошукам нашых мастацтвазнаўцаў цяпер мы набылі унікальныя жывапісныя, графічныя і скульптурныя работы Д. Якерсона, А. Рома, В. Мініна, С. Гершова, Н. Міхалапа. Усе знаходкі цяпер прадстаўлены ў Віцебскім мастацкім музеі.

**Святлана ГУК**

БРЭСТ...

## "Русалачка" на самадзейнай сцэне

У мюзікле паводле вядомай казкі Андэрсена "Русалачка", прэм'ера якога адбылася ў райцэнтры Іванава, занята каля сотні юных акцёраў-вучняў музычнага аддзялення гарадской сярэдняй школы N 4. Лібрэта і музыку напісаў педагог і кампазітар Валянцін Перапёлкін, ажыццявілі пастаноўку рэжысёр Анжаліка Сацута, харэограф Уладзімір Галавін, гукааператар Юрый Губараў і цэлая група мастакоў-дэкаратараў і касцюмераў. Матэрыяльную дапамогу ў стварэнні грандыёзнага спектакля аказалі Іванаўскі райвыканкам, а таксама бацькі школьнікаў. Прэм'ера прайшла з вялікім поспехам. Яе ўдзельнікаў горача віншавалі паўтысячы гледачоў, сярод якіх былі не толькі дзеці, але і дарослыя.

**Сымон АКСЕНІН**

МАГІЛЁЎ...

## Яшчэ раз пра спадчыну Куляшова

У Магілёўскім дзяржаўным педагагічным універсітэце днямі адбылася навукова-практычная канферэнцыя, прысвечаная паэту-земляку Аркадзю Куляшову. Выкладчыкі і студэнты гэтай навучальнай установы сустрэліся таксама з пісьменнікамі Навумам Гальпяровічам і Міколам Аўрамчыкам.

## Першы прыз — у зямлячкі

Напрыканцы сакавіка ў Балгарыі праходзіў міжнародны музычны фестываль "Дыскаверы". У межах яго адбыўся традыцыйны конкурс маладых выканаўцаў. Бралі ў конкурсе ўдзел і спевакі і музыканты з Беларусі. Прыемна, што першая прэмія і спецыяльны прыз міжнароднага журы былі прысуджаны былой магіляўчанцы Ірыне Дарафеевай. Ёй таксама быў уручаны прыз Балгарскага нацыянальнага радыё. Ірына атрымала запрашэнне на ўдзел у музычных святах у Македоніі і на прэстыжны фестываль "Голас Азіі".

## Ажылі пушкінскія творы

У Горках у Доме народных рамёстваў прайшоў раённы конкурс жывапісная і дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, прысвечаны 200-годдзю з дня нараджэння Аляксандра Пушкіна. Адмысловымі вынікамі работы самадзейных мастакоў і майстроў дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва змаглі таксама пазнаёміцца і наведвальнікі выставы, якая адкрылася ў Горацкай карціннай галерэі. У тэматычнай экспазіцыі прадстаўлены знакамітыя сюжэты і героі вядомых пушкінскіх казак, паэм, вершаў.

**Алесь ПЯТРОВІЧ**

## "Чырвоная змена" — як "філіял" БДУ

**Факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта і рэдакцыя беларускай маладзёжнай газеты "Чырвоная змена" дамовіліся аб правядзенні сумеснага творчага конкурсу, мэта якога — выяўленне таленавітай моладзі, схільнай у далейшым да прафесійнай журналісцкай дзейнасці. Конкурс праводзіцца з 1 ліпеня 1999 года да 30 мая 2000 года. Удзельнічаць у ім могуць вучні выпускных (11-х) класаў сярэдніх школ, ліцэяў, гімназій краіны, а таксама юнакі і дзяўчаты з сярэдняй адукацыяй, якія праяўляюць цікавасць да журналістыкі і хочуць паступаць на журфак у наступным — 2000 годзе. Конкурс праводзіцца ў чатыры туры. Першы — у ліпені-верасні сёлетняга года, а вынікі яго будуць падведзены ў кастрычніку. Газета апублікавала заданні першага тура, які называецца "Ад школы сучаснай — да школы будучыні". Падрабязней пра ўмовы конкурсу можна даведацца ў рэдакцыі "Чырвонай змены". А галоўнай узнагародай для пераможцаў конкурсу з'явіцца льгота для паступлення на журфак у 2000 годзе. За пісьмовы экзамен "Творчае сачыненне" (ён ацэньваецца дзвюма адзнакамі — за змест, глыбіню і паўнату раскрыцця тэмы; за пісьменнасць), пераможцы конкурсу аўтаматычна атрымаюць адзнаку "пяць—пяць".**

## Слухай сваё!

**У мінскім клубе "Акварыум" адбылася прэзентацыя кампакт-дыска беларускіх выканаўцаў "Слухай сваё". Гэта мерапрыемства праходзіла ў рамках кампаніі пад назваю "Вольныя танцы" і было прымеркавана да 81-ай гадавіны абвяшчэння Беларускай Народнай Рэспублікі. Атмасфера свята не пакідала публіку: нягледзячы на забарону ахоўнікаў і міліцыянтаў, у зале з'яўляліся бел-чырвона-белыя сцягі, неаднаразова гучалі воклічы "Жыве Беларусь!", а ўсё піва ў бары было выпіта яшчэ задоўга да заканчэння канцэрта. Акцыя праходзіла ў два этапы — 25 сакавіка і 1 красавіка. І кожны раз зала была перапоўнена да такой ступені, што выйсці да сцэны і вольна патанчыць было практычна немагчыма. Гэта пры тым, што кошты квіткоў не назавеш малымі. Сярод прычын такой нечаканай папулярнасці беларускай музыкі можна назваць вясенняе абуджэнне актыўнасці моладзі і добрую арганізацыю мерапрыемства. Так у прэзентацыі кампакт-дыска бралі ўдзел музыкі, што граюць зусім розную музыку. Тут блюзавая "Крама" і панкавы "Deviation", фолькавы "Крыві" і дурнотны "Нейро-Дюбель". Акрамя таго, такія монстры беларускага року, як N.R.M., "Уліс", "Новае Неба", "Мясцовы час", суседнічалі з адносна маладымі "Склеп", "Зніч", "Exist". Карацей кажучы, песні на любы густ! Усіх удзельнікаў праекта цяжка пералічыць, але можна набыць CD і паслухаць. Гэтага, мяркую, будзе дастаткова, каб зразумець НАША не горшае за рускую і англамоўную прадукцыю.**

**Спадзяемся, не за гарамі той час, калі і ды-джэі мінскіх радыё ўцямяць, што нацыянальнае можа мець попыт у насельніцтва. Трэба толькі слухаць і прапагандаваць сваё!**

**Вадзім ДОЎНАР**

## Дыпломы аднаго вяскоўца

**На Лідчыне многія ведаюць самабытнага майстра разьбы па дрэве Мікалая Антонавіча Рышкевіча. Нядаўна яму ўручаны Дыплом лаўрэата I фестывалю мастацтваў нашай краіны "Беларусь — мая песня".**

**Народны мастак з вёскі Бешанкі звярнуў на сябе ўвагу ў пачатку 80-х гадоў. Тады ж запрасілі яго на семінар у Мінск, пасля чаго Мікалай Антонавіч стаў захапляцца скульптурай. Звыш паўсотні скульптурных работ М. Рышкевіча набыта музеямі.**

**А яшчэ дзед Коля вырабляе арыгінальную мэблю. Напрыклад, адмысловыя крэслы, што выкананы па заказе ксяндзоў з мястэчак Астрына і Васілішкі, іншых людзей. Нейкі грош у хаце селяніна ніколі не быў лішні, тым больш пры невялікай пенсіі і нястрымнай дарагоўлі. А тут яшчэ дзеці і ўнукі з горада чакаюць дапамогі.**

**Нягледзячы на свой шаноўны век (Мікалаю Антонавічу ідзе 75-ы год), ён мяркуе ў канцы лета прыняць удзел у рэспубліканскім пленэры разьбяроў і скульптараў па дрэве, што плануецца правесці ў Міры.**

**Алесь ЖАЛКОЎСКІ**

# Прыняты ў Саюз пісьменнікаў

ГІРУЦЬ-РУСАКЕВІЧ Валянціна Францаўна. Нарадзілася ў 1953 годзе ў вёсцы Міхайлоўшчына Ашмянскага раёна. Скончыла Беларускі Дзяржаўны універсітэт (1975). Загадвае аддзелам рэдакцыі валожынскай раённай газеты "Працоўная слава".

Літаратурную працу пачала ў 1969 годзе.

Аўтар кнігі паэзіі "Я адкрываю вам душу" (1996).

ДАВЫДАЎ Алесь Нарыманавіч. Нарадзіўся ў 1965 годзе ў вёсцы Крысін (Паляноўка) Веткаўскага раёна. Скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт (1991). Загадвае аддзелам рэдакцыі газеты "Сям'я".

Літаратурную працу пачаў у 1987 годзе.

Аўтар кнігі паэзіі "Пройма" (1996).

ЕРМАЛАЕЎ Уладзімір Фаміч. Нарадзіўся ў 1933 годзе ў вёсцы Галавічы Дрыбінскага раёна. Скончыў Мсціслаўскае педагагічнае вучылішча (1953), Мінскі дзяржаўны педагагічны інстытут А.М.Горкага (1958).

Літаратурную працу пачаў у 1955 годзе.

Аўтар кніг сатыры і гумару "Хто не смяецца, той не есць!" (1994), "Пераход кольксацці ў колкасці" (1997), "Радком па кумпалу" (1998).

КУРЫЛА Міхаіл Аляксеевіч. Нарадзіўся ў 1956 годзе ў вёсцы Захвільцы Валожынскага раёна. Скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт (1982). Кіраўнік гуртка "Мастацкае слова", што працуе ў Цэнтры дзіцячай творчасці г.Валожына.

Літаратурную працу пачаў у 1975 годзе.

Аўтар кнігі паэзіі "Белы птах" (1996).

САБІНА Пятро Іосіфавіч. Нарадзіўся ў 1947 годзе ў вёсцы Міхалкавічы Лагойскага раёна. Скончыў Беларускі дзяржаўны універсітэт (1974). Старшы рэдактар Галоўнай рэдакцыі літаратурна-драматычных праграм Беларускага радыё.

Літаратурную працу пачаў у 1963 годзе.

Аўтар кніг публіцыстыкі, нарысаў "Крылатыя хлебаробы" (1983), "Плач вады" (1995).

ШАБОВІЧ Мікола Віктаравіч. Нарадзіўся ў 1959 годзе ў вёсцы Бадзені Мядзельскага раёна. Скончыў Мінскі педагагічны інстытут імя А.М.Горкага (1991). Выкладчык Беларускага дзяржаўнага педагагічнага універсітэта імя Максіма Танка.

Літаратурную працу пачаў у 1976 годзе.

Аўтар кніг паэзіі "Каб вымавіць" (1984), "Дом" (1996), "Яшчэ пакуль не лістапад" (1996).

# "Любіць Беларусь лепей здалёк..."

***Алег Васільевіч Рудакоў — старшыня рады Іркуцкага таварыства беларускай культуры. Родам з вёскі Бяздзедавічы, што ў Полацкім раёне. У свой час закончыў Цюменскую вайсковую вучэльню, служыў у Віцебскай ракетнай дывізіі, што месціцца ў Іркуцку. Зараз — настаўнік гісторыі адной з тамтэйшых сярэдніх школ. У траўні 96-га стварыў Іркуцкае таварыства беларускай культуры. Арганізацыя ўвайшла ў склад Аб'яднання беларусаў свету "Бацькаўшчына", Таварыства беларускай мовы імя Францыска Скарыны, Асацыяцыі народаў Расіі... Напрыканцы сакавіка А. Рудакоў завітаў у рэдакцыю "ЛіМа".***

**— Алег, дык як узнікла беларуская суполка ў Іркуцку?**

— Суполка ўзнікла на хвалі колішняга ўсеагульнага нацыянальнага Адраджэння. У сярэдзіне 90-х я прыняў удзел у чацвёртым з'ездзе Таварыства беларускай мовы. Прамова Ніла Гілевіча, сама атмасфера з'езда ўразілі незвычайна. Мы — беларусы, мы — нацыя. Ды проста лягчэй дыхаць стала! Вярнуўся ў Іркуцк і ў мясцовай рэгіянальнай газеце змясціў артыкул, дзе заклікаў мясцовых беларусаў адгукнуцца. Адгукнулася спачатку пяць чалавек. Людзі гэтыя, свядомыя, годныя, родам хто з Салігорска, хто са Слуцка, хто з Гомельшчыны, і ўтварылі арганізацыйны камітэт. Вось з гэтага і пачалося ўсё...

**— Таварыства носіць імя Яна Чэрскага. Вядома ж, невыпадкова...**

— Так. 31 траўня 96-га (дзень гэты лічым Днём іркуцкіх беларусаў) на першым з'ездзе беларусаў Іркуцкай вобласці зацвердзілі назву, эмблему і статут нашай арганізацыі. Адразу ж паступіла прапанова прысвоіць таварыству імя Яна Дамінікавіча Чэрскага — земляка-беларуса, які нарадзіўся ў маёнтку Сволна Віцебскай губерні. За ўдзел у паўстанні Каліноўскага пасля 1863 года ён быў сасланы ў Сібір. Геолаг і географ па адукацыі, Чэрскі — аўтар першай дакладнай геалагічнай карты Байкала, адзін з ініцыятараў стварэння Іркуцкага краязнаўчага музея. Сібір для Яна Дамінікавіча, як і для кожнага з нас, стала другой радзімай. Яго імя — сімвал стойкасці, вернасці свайму абавязку, Бацькаўшчыне і пастаўленай мэце.

**— Чым жыве беларуская іркуцкая дыяспара?**

— Тым, чым і кожная іншая, да прыкладу, у Канадзе ці Аўстраліі. Патомных беларусаў у Сібіры вельмі шмат. Таму адраджэнне духу беларускага, развіццё культурнай спадчыны, не надзейнае захаванне — для нас не пусты гук, не высокія словы, а канкрэтная штодзённая праца. Абавязак сумлення і годнасці, калі жадаеце. Наша таварыства — адкрытая арганізацыя, усё ў ёй пабудавана на сяброўскіх адносінах. Членамі яе могуць быць паўналетнія грамадзяне незалежна ад нацыянальнасці. Галоўны крытэрый — свядомае жаданне супрацоўнічаць дзеля захавання Беларушчыны. Так што ніякіх прымусаў, толькі добраахвотны ўдзел. На сёння ў таварыства 75 сяброў (з адпаведнымі пасведчаннямі). На імпрэзы ж нашыя збіраецца іншым разам і па некалькі соцень чалавек — патэнцыяльных сяброў арганізацыі. Беларуская культура не пакідае абыякавым нікога. Штогод праводзім нацыянальныя святы: "Каляды", "Гуканне вясны", "Сёмуха", "Купалле", "Дзяды". Штомесяц выпускаем газету "Маланка". Вядзём гістарычныя даследаванні "Беларусы ва Усходняй Сібіры". Шмат клопатаў па развіцці песеннай фальклорнай творчасці. Зусім нядаўна адкрылі ў Іркуцку бібліятэку беларускай літаратуры. Карацей, дыяспара жыццястойкая, дружная.

**— Хто дапамагае грашыма?**

— Збоку — ніхто. Тут мы ў прамым сэнсе слова самыя незалежныя. Фінансавання не маем ні з боку Расіі, ні тым больш з боку Беларусі. Таварыства жыве і дзейнічае на грашовыя складкі сваіх сяброў. Дапамагае і тое, што ўваходзім у Іркуцкі савет некамерцыйных аб'яднанняў. Трынаццаць нацыянальных цэнтраў у горадзе, а ў названы савет уваходзіць толькі беларуская суполка. Доказ нашай высокай грамадскай актыўнасці. Цесна супрацоўнічаем з некамерцыйнымі аб'яднаннямі, дапамагаем адзін аднаму, як можам. Свядомыя людзі з намі лічацца. "Маланку" чытаюць у ЗША, Канадзе, Прыбалтыцы, на Украіне, натуральна, у Беларусі. На дзейнасць нашу звярнуў увагу Вітаўт Кіпель — дырэктар Беларускага інстытута культуры і мастацтва ў Нью-Йорку. На дзяржаўным узроўні не столькі грошы нам патрэбны, колькі маральная падтрымка і паразуменне. Але далей слоў справа не ідзе. Калі пры выпадку сустракаюся ў Мінску з чыноўнікамі Міністэрства культуры, камітэта па рэлігіях, чую ад іх толькі адно: "Беларуская суполка ў Іркуцку? Цудоўна! Карысная справа. Працягвайце!" Дзякуй Богу, што не забараняюць. Відаць, не зацікаўлены беларускі ўрад у падтрымцы суполак беларусаў...

**— А як пачуваюць сябе ў гэтых адносінах іншыя, узгаданыя вамі нацыянальныя цэнтры Іркуцка?**

— Цудоўна! Бурацкі, скажам, ці чувашскі фінансуе абласная адміністрацыя. Нямецкі, польскі, яўрэйскі грашова падтрымлівае кожная з родных дзяржаў. А беларускае Таварыства — арганізацыя, як я казаў, ад беларускага ўрада незалежная. Крыўдна, але што зробіш. Працуем мы не дзеля ўрада, а дзеля Беларушчыны. І выбару ў свядомага беларуса няма — альбо адстойваць сваю мову, культуру, годнасць, альбо знікнуць. Вось і адстойваем сваё самі.

**— Алег, вы займаецеся палітыкай?**

— Ды ні ў якім разе? Хіба толькі на хворую галаву палітыкай можна назваць адраджэнне і развіццё нацыянальнай беларускай культуры. Мы прапагандуем і развіваем па меры магчымасцяў духоўную спадчыну нашых продкаў на тэрыторыі Іркуцкай вобласці. Не больш, не менш. Робім гэта актыўна і адкрыта: мясцовая адміністрацыя хоць і не падтрымлівае матэрыяльна, але ўсё ж ставіцца да нас паважліва. Відаць, уражвае нашае некамерцыйнае грамадскае шчыраванне.

**— Вы былі ўдзельнікам першага з'езда беларусаў Расіі, які прайшоў днямі ў Маскве. Якія ўражанні?**

— Самыя абнадзейваючыя. На з'езд, які адбыўся ў ЦДЛ 27 сакавіка, прыехалі людзі, якія сапраўды жадаюць рабіць дзеля Беларушчыны і, самае галоўнае, робяць. Ініцыятыва правесці такі з'езд належала Маскоўскаму таварыству беларускай культуры імя Францыска Скарыны (старшыня Генадзь Лех) і Беларускаму культурна-грамадскаму таварыству Санкт-Пецярбурга (старшыня Валянцін Грыцкевіч). Намер гэты спачатку падтрымалі Міністэрства нацыянальных адносін Расіі, мэр Масквы Лужкоў. Але, як нам стала вядома, умяшалася беларуская амбасада ў Расіі. Маўляў, з'езд павінен падтрымаць сённяшнюю ўрадавую палітыку Беларусі. Але ж мы не займаемся палітыкай! Галоўная мэта з'езда — абмеркаванне пытанняў культурнага накірунку. І толькі. Набыўшы білет у Маскву, звязаўся праз абласную адміністрацыю са сталіцай. Адказалі, што з'езд 27 сакавіка будзе лічыцца несапраўдным. Бэнээфаўцы, маўляў, на яго збіраюцца. А афіцыйнае мерапрыемства намечана на 2—3 красавіка.

**— Але тым не менш "неафіцыйны" з'езд адбыўся...**

— Безумоўна. І пры вялікім жаданні хтосьці можа заўважыць: беларусы Расіі абмяркоўвалі хваравіты стан дзяржаўнай палітыкі на этнічнай радзіме. Яшчэ раз паўтаруся: калі да палітычных пытанняў можна аднесці нашу трывогу за нацыянальную культуру, то так усё і было. У кожнага сваё ўяўленне аб рэальнасці. Для кагосьці і яўная хлусня — самая бясспрэчная праўда... З'езд адбыўся. З'ехаліся шэсць беларускіх суполак. Іркуцкая, Цюменская, Маскоўская, дзве з Санкт-Пецярбурга і Краснаярская нацыянальная аўтаномія "Беларусь"... Беларусы знікаюць на роднай зямлі, знікаюць і ў Расіі. Так што найпершая карысць ад з'езда, што суполкі нашы аб'ядналіся. Мы зацвердзілі назву: "Міжрэгіянальнае аб'яднанне беларусаў Расіі". Натуральна, гэта не аб'яднанне ўсіх расійскіх беларусаў. Мы проста кажам: хто хоча далучыцца да нас дзеля адраджэння і развіцця беларускай культуры — калі ласка! Зацвердзілі статут, абралі раду. Старшыня аб'яднання — Генадзь Лех, першы намеснік — Валянцін Грыцкевіч, другі намеснік — я.

**— Вы хацелі б вярнуцца на радзіму, ці Беларусь лягчэй любіць здалёк?**

— Як ні дзіўна гэта прагучыць зараз, але на Беларусь нам спадзявацца няма чаго. І ў час з'ездаўскіх выступленняў гучала аднадушна: "Няма ў нас Беларусі!". Калі ў рэспубліцы няма ашчаднага падыходу да нацыянальнага, дык у Іркуцкай суполкі меркаванне на гэты конт адзінае: любіць трэба тую радзіму, якую мы самі ствараем для сябе, а не тую, якую нам прапаноўваюць у выглядзе неабачлівай мачахі.

Калі мы размаўляем па-беларуску на іркуцкіх вуліцах, гараджане рэагуюць адмыслова: вунь, кажуць, хахлы пайшлі... Расія не разумее беларусаў, проста кепска ведае іх. Іркуцкім палякам лягчэй — за імі Польшча, за немцамі — Германія. Але нас, беларусаў, ратуе тое, што наша Беларусь — у нашым сэрцы. І працуем дзеля таго, каб так і было надалей.

**— Поспехаў вам, Алег, і вялікі дзякуй за размову!**

**Гутарыў Яўген РАГІН**

**P. S.** Як паведамілі дзяржаўныя сродкі інфармацыі, у Маскве на пачатку красавіка адбудзецца з'езд беларусаў Расіі. Афіцыйны, сапраўдны...

# "...Гаспадыняй на роднай зямлі"

## СТАРШЫНЯ ТАВАРЫСТВА БЕЛАРУСКАЙ МОВЫ імя Ф. СКАРЫНЫ Генадзь БУРАЎКІН АДКАЗВАЕ НА ПЫТАННІ КАРЭСПАНДЭНТА "ЛіМа" НАПЯРЭДАДНІ З'ЕЗДА ТБМ

**— "Страта нацыянальнай мовы ідзе поруч з заняпадам нацыянальнай культуры і вядзе за сабою паступовае знікненне народа як самабытнай этнакультурнай супольнасці" (вытрымка са Статута ТБМ). Генадзь Мікалаевіч, здаецца, што нам, і ў прыватнасці вашай арганізацыі, не зусім удаецца супрацьстаяць падобным негатыўным працэсам. Як пачуваецца ТБМ цяпер, калі чарговая хваля Адраджэння заняпала альбо, прынамсі, запаволілася? Дзесяць жа гадоў таму, нават пяць гадоў таму, настроі былі куды аптымістычней...**

— Што паробіш, калі ў нас такі лёс, такая гісторыя, такая дзяржава. Можна выказваць незадавальненне і гаварыць нават больш сур'ёзныя рэчы, але мы ад гэтага нікуды не схаваемся. Належных адносінаў, на жаль, не толькі да мовы, а і да ўсяго нацыянальнага не знаходзіцца як у высокіх чыноўнікаў, гэтак і ў многіх нашых суайчыннікаў. Усё гэта ідзе ад дзяржаўнай і палітычнай нясталасці і недастатковай нацыянальнай годнасці ў беларускім характары. Таму і не дзіва, што паназ'яўлялася ў Беларусі розных прыхадняў і прыблуд, чые інтарэсы і амбіцыі перапляліся з настроямі тутэйшых манкуртаў. Асабліва ж усталяваліся антыбеларускія тэндэнцыі пасля вядомых рэферэндумаў. Вынішчэнне мовы чынавенства вырашыла абставіць канстытуцыйна. І падобнае ігнараванне мовы, якую мы павінны берагчы як самае святое, як першасную ўласную адметнасць, адбываецца тады, калі ў той жа Расіі, наадварот, патрыятычныя настроі на ўздыме і імі нават спекулююць у палітычных мэтах.

Калі мы не цэнім, а то і зневажаем беларускую мову, — значыць, не хочам быць беларусамі. Чаму? Што, беларусы — нацыя, да якой не варта належыць? Мне давялося працаваць у ААН, у якую ўваходзілі на той час 183 краіны, і я смела заяўляю, што беларусы — абсалютна дастойныя людзі ў свеце. Адзінае, у чым нас не разумеюць, дык гэта ў абыякавасці да роднага, у першую чаргу да мовы. А менавіта яе папулярызацыяй і займаецца Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны. На жаль, у апошнія гады даводзіцца гэта рабіць у вельмі цяжкіх умовах. У параўнанні з парой "перабудовы", калі пайшла хваля Адраджэння. Тады ТБМ стала арганізацыяй даволі ўплывовай, якая дзейнічала пры падтрымцы дзяржавы. Мы мелі больш дзесятка сяброў у складзе Вярхоўнага Савета 12-га склікання і каля сотні ў мясцовых органах улады. Аднак далей працэсы беларусізацыі пачалі згортвацца, прычым імкліва і цынічна. Супраць ТБМ чыноўнікі прымянілі жорсткія эканамічныя санкцыі. Дзяржава спыніла дапамогу на выданне газеты "Наша слова". Рэзка ўзрасла арэндная плата за памяшканне нашай сядзібы, былі адключаны тэлефоны і электраэнергія. Нас у рэшце рэшт па пастанове Мінскага гаспадарчага суда выселілі. Але, нягледзячы на ўсё гэта, мы здолелі выжыць. Прычым выключна на энтузіязме беларусаў. Аднавілі выданне "Нашага слова" і вярнуліся ў сваю сядзібу на вуліцы Румянцава ў Мінску. Вылезлі з глыбокай даўгавой ямы без рубля дзяржаўнай дапамогі. Працягваем абараняць родную мову, служым матчынаму слову.

**— Выправіць моўную сітуацыю ў беларускіх рэаліях уяўляецца магчымым толькі на непасрэдна дзяржаўным уладным узроўні. Ад грамадскай добраахвотнай арганізацыі залежыць па сутнасці небагата што. Гэта раней сябры Таварыства беларускай мовы бралі плённы ўдзел, як прымалі Закон аб мовах, Закон аб культуры, Закон аб адукацыі і г. д. Тое ўсё сапраўды згорнута. Чым займаецца ва ўмовах білінгвізму ў чаканні светлых часоў ТБМ? Дзейнічае па прынцыпе — абы не страціць, што ёсць?**

— Я не лічу, што плённа спрыяць адраджэнню і функцыянаванню мовы магчыма толькі пры непасрэдным удзеле дзяржавы. Хаця, безумоўна, роля ўладных структур тут вельмі важная. Я б не сказаў таксама, што ў цяперашніх умовах ад ТБМ мала што залежыць. Гэта не так. Што рэальна мы можам? Паколькі дзяржава — інструмент, які павінен абараняць інтарэсы і будучыню нацыі, мы патрабуем ад улад паважлівых адносін да мовы, паважлівых адносін да нашай гісторыі, да беларусаў як да карэннай нацыі краіны. Мы добра ставімся да ўсіх, хто тут жыве — і да рускіх, і да татараў, і да ўкраінцаў, і да яўрэяў, — але ж трэба паважаць і саміх сябе, думаць і пра саміх сябе. Натуральна, што беларуская мова наўрад ці можа пачуваць сябе гаспадыняй у Татарыі, у Польшчы, на Украіне ці ў Расіі. Беларуская мова можа і павінна быць гаспадыняй на беларускай зямлі! Чаму вось гэтых элементарных рэчаў не разумеюць альбо не хочуць разумець нашыя нават самыя высокія чыноўнікі — для мяне загадка. Гэта ў многім ідзе ад невысокай культуры, малой адукацыі, дрэннай выхаванасці, аднак як можна не паважаць свой народ, людзей, якія так высока вас узнеслі?! Гавараць, што Беларусі не ўдасца выжыць у свеце без некага — значыць, прыніжаць народ, здзекавацца з яго. Чаму іншыя могуць, а мы — не?..

Мяне дужа радуе, што сярод сучаснай моладзі адстойванне суверэнітэту Беларусі, ужыванне беларускай мовы робяцца прэстыжнымі. Матчына мова стала нават своеасаблівай модай. Хай гэта не зусім тое, на чым павінна трымацца вяртанне да нацыянальных святыняў, да сапраўднай дзяржаўнасці, але яно дарэчы. Хацелася б толькі, каб гэта з цягам часу трансфармавалася ў нешта большае і глыбокае. Менавіта на моладзь ускладаю я самыя вялікія надзеі. На моладзь і, безумоўна, інтэлігенцыю, якая апошняе дзесяцігоддзе паводзіла ды, на жаль, і зараз паводзіць сябе залішне памяркоўна. Вось і, сапраўды, у нас стаіць задача не страціць таго, што ёсць. А трацім жа шмат чаго.

**— Наколькі, на вашую думку, рэферэндумы спрыяюць, праз эфект бумеранга, вяртанню насельніцтва ў мову ці хаця б да мовы?**

— Я не выключаю гэтага. Ёсць у чалавечым характары такое, што калі бачыш несправядлівасць, нараджаецца рашучы пратэст. Але я хацеў бы, каб нацыянальная годнасць, любоў да роднай мовы ў маіх землякоў абуджаліся іншым чынам. Не метадам бумеранга, а праз цывілізаванае, эвалюцыйнае развіццё, праз высокую свядомасць і адукаванасць.

**— А мова стала больш за ўласна мову?**

— Калі ставіцца пад пагрозу лёс дзяржавы, нацыі, мова, безумоўна, робіцца нечым большым, чым уласна мова. Янка Купала, Якуб Колас, Максім Багдановіч не проста пісалі — яны абуджалі людзей, вучылі іх, натхнялі на барацьбу за свае правы. На беларускай мове выказвае вельмі сучасныя, мудрыя думкі Васіль Быкаў... Вядома, што Купала выдатна ведаў польскую мову, пісаў нават па-польску, Багдановіч пісаў і па-руску. Аднак самае лепшае, самае істотнае, самае важкае яны сказалі па-беларуску. Толькі на роднай мове найбольш поўна выяў-ляецца дух, сутнасць генія. Лагічна правесці праекцыю і на ўвесь народ. Нездарма ж Біблія пачынаецца: "Спачатку было слова".

**— ТБМ — своеасаблівы кантрольны орган, з якім у краіне, на жаль, не лічацца. Дастаткова прайсціся па вуліцах сталіцы...**

— У дачыненні да Таварыства беларускай мовы я такое азначэнне не ўжываў бы. Мы не мелі і не маем падобных намераў. Мова павінна жыць натуральна, без прымусовых дзеянняў ці то ў адзін, ці то ў другі бок. А натуральна яна будзе жыць тады, як стане патрэбнай у грамадстве. Калі чалавек, які ідзе са сваімі бедамі ў суд, вядзе дзіця ў школу, выходзіць на трыбуну падзяліцца з кімсьці думкамі, пры гэтым не звяртаецца да беларускай мовы, значыць, яна яму непатрэбна. У нас любяць крычаць пра ўціск у перыяд "беларусізацыі", пра нібыта сілавое "абеларушванне" ў свой час, забываючыся чамусьці на дзесяцігоддзі гвалтоўнай русіфікацыі, калі нават газеты для вясковых жыхароў пераводзіліся на мову рускую. Іншая справа, што неабходна цвяроза разумець: не кожны чалавек можа дасканала ведаць і адчуваць мову, так, напрыклад, як Янка Брыль ці Рыгор Барадулін. Трэба давяраць спецыялістам, майстрам, як мы давяраем рабочаму, купляючы выробленую ім рэч, альбо ўрачу, калі ідзём да яго лячыцца. Шкада, што гэткага ў нас няма.

Паглядзіце, што і як гучыць на Беларускім тэлебачанні і ўжо на радыё. Жах! А дыктары ж павінны валодаць мовай ідэальна. Дарэчы, гэта яшчэ адна ілюстрацыя да таго, як ставяцца ўлады да роднай мовы: ім абы падавалі інфармацыю, а якім чынам гэта робіцца, зусім не важна. І на такія прыкрыя рэчы мы стараемся звяртаць увагу грамадства і ў першую чаргу тых, ад каго залежыць выхаванне культуры мовы.

**— Памятаецца, як на пачатку 90-х гадоў нават ухваляліся тыя, хто імкнуўся ўжываць беларускую мову, як бы карава яны ні гаварылі.**

— Дык то ж не дыктары, якія проста абавязаны даваць узор маўлення. А тады быў пераходны этап, час "прыходу" да мовы. Мы давалі тэрмін і магчымасці прыйсці пакрысе да натуральнага карыстання мовай. Увогуле не варта смяяцца з тых людзей, што недасканала размаўляюць па-беларуску. Не яны часцей за ўсё ў тым вінаватыя. Вінаватыя дзяржава і дзяржаўная сістэма адукацыі і выхавання.

**— Аднак жа нават той першы этап не завяршыўся ўдала?**

— На жаль. Па вялікім рахунку, мы займаемся гэтым і зараз. Вось, напрыклад, не перастаём звяртацца да архітэктараў, адказных асоб выканкамаў з просьбай сачыць



за рэкламай, шыльдамі, якія павінны быць не толькі пісьменнымі, але і несці адзнакі культуры. Прайдзіцеся па Парыжы — там вуліцы названыя ў гонар французскіх кампазітараў, палкаводцаў, вучоных, пісьменнікаў. Гэта пры тым, што французская сталіца даўно і надзвычайна звязана з сусветнай гісторыяй. А прашпацыруйце па нашых гарадах — па Мінску, Полацку, Гомелі... Нават у цэнтры практычна няма аніводнага беларускага імя (ну, у Мінску — праспект Ф. Скарыны) — усюды дзекабрысты, падпольшчыкі, стаханаўцы. Добра, што мы паважаем герояў суседніх народаў, але вядома, варта ўшаноўваць найперш сваіх славутых суайчыннікаў. Аднак тут ТБМ можа толькі прасіць, раіць. Вырашаць, прымушаць мы не можам. Гэта могуць рабіць іншыя. А яны ня-рэдка замест таго, каб нармальна рэагаваць, замяніць, напрыклад, тую ці іншую шыльду, адкідаюць беларускі тэкст наогул.

**— Апошнім часам неяк нанова актывізаваліся развагі вакол двух "Т": "тарашкевіцы" і "трасянкі". "Трасянку" абараняюць такім чынам: яна быццам бы дапамагае захоўваць беларускую мову ў хаця б якім-небудзь выглядзе. Зварот да "тарашкевіцы", за што нядаўна спрабавалі судзіць "Нашу ніву", называюць панацэяй у адраджэнні і ачышчэнні мовы. Якая пазіцыя тут у таварыства?**

— У адным мы перакананы цвёрда: не суду вырашаць спецыяльныя моўныя праблемы. Таму мы былі катэгарычна супраць таго працэсу над "Нашай нівай". А непасрэдна наконт "тарашкевіцы" адзінства ў меркаваннях няма. Мая асабістая пазіцыя наступная: не варта шырока разгортваць гэтую няпростую дыскусію, пакуль гаворка ідзе наогул пра лёс нашай мовы, пакуль ёй пагражаюць заняпад і знікненне. Трэба дачакацца, каб яна стала дзяржаўнай насамрэч, а не паводле запісу ў Канстытуцыі. Я не выключаю "тарашкевіцы". Я, напрыклад, рашуча за выкарыстанне мяккага знака, а вось з іншым не спяшаўся б. На "наркамаўцы" вырасла некалькі пакаленняў. Сярод тых, хто пісаў на ёй, выдатныя таленты — Куляшоў, Мележ, Караткевіч, Панчанка... Што да "трасянкі", то гэта — праява відавочнай непісьменнасці, калі калечацца і вялікая руская, і наша родная мовы.

**— Вы ўпарта выдаяце заявы пра гаротны стан роднай мовы, пра перавагі беларускамоўнасці і беларускасці наогул. Пастаянна агучваеце чорныя лічбы, якія маюць адну тэндэнцыю — становіцца больш жалобнымі. І як заведзеныя заклікаеце "не пакідаць..." Як гэта адгукваецца ў народзе? Здаецца, назіраецца таксама эфект бумеранга. Вы ж самі гаварылі (у інтэрв'ю "Белорусской деловой газете" ад 12.03.99. — *К. П.*), што ў нацыянальным характары беларусаў закладзены нейкі парадокс.**

— Мы напамінаем, што ёсць мова, дадзеная Богам, ёсць нацыянальны абавязак. Многія кажуць, што нашыя шматлікія заявы і звароты марныя. Не хачу з гэтым пагадзіцца. Мы спадзяёмся, што хай не ўсе, але той-сёй пачуе нас. Нашыя дакументы — гэта "крык, што жыве Беларусь!" Мова будзе жыць, пакуль б'ецца хаця б адно трывожнае беларускае сэрца. І мы верым, што — пройдзе час, нашчадкі ўспомняць, што ў цяжкі перыяд былі людзі, якія рабілі дзеля Радзімы, што маглі.

**— ТБМ строга паставілася да нядаўна праведзенага перапісу, дзе моўныя пытанні з'яўляліся самымі цікавымі і значнымі, а таму вельмі рэзананснымі. Цікава, а як тут, калі можна пра гэта гаварыць, варункаваўся айчынны феномен парадаксальнасці?**

— Я не хацеў бы сцвярджаць, што падчас перапісу нейкім чынам выяўляліся парадоксы ў нацыянальным характары. Хутчэй за ўсё была непрыхаваная спроба згуляць на некаторых асаблівасцях менталітэту беларусаў, паказаць, у тым ліку самому народу, што нас нібыта як нацыі амаль не засталося, давесці, што беларуская мова ў Беларусі з'яўляецца ледзь не "чужой". Вядома, дзеля чаго — "каб з дапамогай статыстыкі яшчэ раз абгрунтаваць непазбежнасць і неабходнасць "інтэграцыйных" працэсаў. Мы, як маглі, уплывалі на падрыхтоўчыя перапісныя мерапрыемствы. Менавіта па патрабаваннях сяброў ТБМ у анкеты ўключылі пытанне аб роднай мове. Менавіта ТБМ настаяла на тым, каб былі надрукаваныя беларускамоўныя бланкі. Уважліва сачылі і за ходам перапісу, які вызначаўся мноствам парушэнняў. Да нас паступіла больш шасцідзесяці званкоў і пісьмовых заяў са скаргамі. Каб уявіць тое, што рабілася, дастаткова прывесці два прыклады. У вёсцы Упірава Іванаўскага раёна, запаўняючы ліст сямідзесяцітрохгадовай бабулі, перапісчыца запісала, што тая гаворыць дома па-руску, хаця старая ніколі не пакідала родных мясцін і карыстаецца выключна заходнепалескай гаворкай. А ў ваенным гарадку Печы афіцэр загадваў падначаленым запісваць роднай тую мову, на якой іх вучылі ў школе. Натуральна, лёгка здагадацца, якія чакаліся адказы. Дарэчы, многія перапісчыкі прызнаваліся, што атрымалі ўстаноўку на карысць рускай мовы, некаторыя з іх, не ведаючы нават на элементарным узроўні беларускай мовы, былі не здольныя запаўняць беларускамоўныя перапісныя лісты. Такім чынам, мы маем усе падставы сумнявацца ў дакладнасці і аб'ектыўнасці праведзенага перапісу.

**— А што, Генадзь Мікалаевіч, чакаецца на бліжэйшым з'ездзе ТБМ, апрача таго, што зноўку будуць агалошвацца сумныя статыстычныя дадзеныя. Каб каму не падалося, што ТБМ крызісуе, хаця спраў па вушы?**

— Паміж папярэднім, пятым, і гэтым, шостым, з'ездамі прайшлі два вельмі цяжкія гады, калі была нават пагроза існаванню таварыства. На шчасце, удалося самае небяспечнае пераадолець, у тым ліку і крызіс унутры ТБМ, калі некаторыя суполкі згарнулі сваю дзейнасць і ціха каналі, а новыя амаль не з'яўляліся. На шчасце, гэта мінаецца, а, можа, і мінулася. Будзем імкнуцца усё болей набываць баявітасці і дысцыплінаванасці, чакаем у свае шэрагі новых актыўных людзей. Наперадзе — будзённая, штодзённая праца.

На з'ездзе мы выкажамся па самых разнастайных праблемах — і аб месцы беларускай мовы ў духоўным жыцці, і аб яе прысутнасці ў школах і ВНУ, і аб неабходнасці стварэння Нацыянальнага універсітэта — карацей, пра ўсё тое, што па-ранейшаму застаецца вострым і значным. Хочацца паслухаць нашых сяброў з глыбінкі, абмеркаваць планы аднаўлення выдавецкай дзейнасці. Чакаецца, што ў рабоце з'езда возьмуць удзел вядомыя майстры слова, прадстаўнікі Міністэрстваў адукацыі і культуры, настаўнікі, журналісты. Мы вітаем любыя грамадскія сілы ў іх шчырым жаданні і гатоўнасці спрыяць развіццю роднай мовы — найгалоўнейшаму, святому скарбу нашай Бацькаўшчыны.

**Кірыла ПАЗНЯК**

ЛіМ **ЧАСАПІС**

## *Далучыўся і Санкт-Пецярбург*




**Выхад гэтай кнігі — знамянальная падзея ў культурным жыцці беларускай дыяспары. Раней былі вядомыя "Запісы" Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Нью-Йорку, пазней з'явіліся падобныя выданні ў Лондане, Беластоку, Будапешце і Маскве. Нарэшце беларусістыка займела і першы выпуск "Беларускага зборніка", падрыхтаванага Санкт-Пецярбургскай асацыяцыяй беларусістаў.**

**У зборніку прадстаўлены арыгінальныя артыкулы і матэрыялы, падрыхтаваныя на аснове дакладаў і паведамленняў навукоўцаў з Расіі, Беларусі і Польшчы, што абмяркоўваліся на штогадовых канферэнцыях "Санкт-Пецярбург і беларуская культура". Гэтыя канферэнцыі Расійская нацыянальная бібліятэка (былая публічная бібліятэка імя М. Салтыкова-Шчадрына) ладзіць пачынаючы з 1993 года.**

**Адкрываецца зборнік артыкулам дацэнта Санкт-Пецярбургскай дзяржаўнай акадэміі культуры В. Грыцкевіча "Сённяшнія клопаты беларускай гістарыяграфіі", у якой вучоны, вылучаючы чатыры галоўныя накірункі ў гістарыяграфіі Беларусі (крытычны, традыцыйны, вычакальны, захаваўчы), спрабуе ахапіць агульныя тэндэнцыі развіцця беларускай гістарычнай навукі.**

**Разнастайнасцю і шырынёй ахопу факталагічнага матэрыялу вызначаюцца артыкулы А. Мыльнікава "Белорусы: этнос и этноним в польской, немецкой и шведской исторической мысли XVI—XVII вв.", Б. Сапунова "Печатные белорусские книги в русских библиотеках второй половины XVI—XVII вв.", І. Маціеўскага "Беларуская мастацкая плынь у фармаванні еўрапейскага абрысу музычнай культуры Санкт-Пецярбурга", Д. Левіна "Первые столичные рецензии на Памятные книжки Виленской губернии (1852—1854 гг.)", Г. Таўлая "Антон Грыневіч — першы музыкант-фальклярыст з кагорты пецярбургскіх беларусаў".**

**Цікавейшую старонку ў беларуска-рускіх гандлёвых стасунках старажытнага перыяду адкрывае А. Раздорскі, аналізуючы курскія мытныя кнігі 1640-х гадоў.**

**У раздзеле "Паведамленні і заметкі" ўвагу прыцягваюць матэрыялы пра памінальную практыку ў Маскоўскай Русі і Вялікім княстве Літоўскім (А. Аляксееў), выдавецкую дзейнасць Віленскай навучальнай акругі (В. Бабук), асвятляецца пецярбургскі перыяд у жыцці Вацлава Ластоўскага (Ю. Туронак) і інш.**

**Аўтары "Беларускага зборніка" ўключылі ў яго і рэцэнзію В. Антонава і М. Нікалаева на кнігу "Памяць", прысвечаную Наваградскаму раёну. Гэта сур'ёзны крытычны разгляд шматлікіх хібаў і недакладнасцей, дапушчаных складальнікамі і аўтарамі калектыўнай працы, у пэўным сэнсе гэта перасцярога для тых, хто будзе рыхтаваць іншыя тамы унікальнай серыі.**

**Апраўдана і публікацыя спіса дакладаў, прачытаных на штогадовых навуковых канферэнцыях "Санкт-Пецярбург і беларуская культура", які сведчыць аб плённай і мэтанакіраванай працы прадстаўнікоў розных навуковых галін на ніве беларускасці, дае спадзяванні на новыя адкрыцці.**

**Асноўную чарнавую работу па падрыхтоўцы "Беларускага зборніка" ажыццявіў шчыры сябра Беларусі, наш зямляк, актыўны папулярызатар і клапатлівы захавальнік усяго беларускага ў Расійскай нацыянальнай бібліятэцы доктар філалагічных навук Мікалай Нікалаеў. Пабольш бы нам такіх беларусаў!**

**М. ПРЫГОДЗІЧ**

# На беларускім шляху

КОЖНЫ З МАЛЫХ ці вялікіх народаў мае свой асабісты лёс, адметныя культурна-асветніцкія, літаратурныя традыцыі і гісторыю. Між тым, у размаітым сусвеце этнасаў, народнасцей і нацый сустракаюцца народы з падобнымі гістарычнымі лёсамі. Гэта абумоўлівае пэўныя аб'ектыўныя заканамернасці, тыпалагічныя падабенствы, часам нават падабенствы культурна-гістарычных шляхоў гэтых народаў.

Вывучаючы культурна-літаратурную супольнасць славянскіх народаў многа гадоў, даследчыца Галіна Тварановіч, адзін з айчынных літаратуразнаўцаў-тыполагаў, выявіла шэраг супадзенняў у разгортванні асветніцкіх і літаратурных тэндэнцый у беларусаў і славенцаў. Яшчэ ў 1986 г. чытач, зацікаўлены праблемамі літаратуразнаўства, змог пазнаёміцца з сістэматызаваным параўнальным даследаваннем Г. Тварановіч маральна-этычнага, патрыятычна-гуманістычнага вопыту беларускай і югаслаўскай ваеннай прозы (глядзіце яе кнігу "Нравственный мир героя").

У 1991 г. выйшла яшчэ адна кніга Г. Тварановіч — "Пакутаю здабыты мір". У ёй даследчыца на матэрыяле беларускай і славенскай прозы В. Быкава, А. Асіпенкі, І. Шамякіна, А. Кудраўца, Ц. Космача, К. Грабельшака, Н. Крайгер, Б. Чопіча і некаторых іншых зацікаўлена вывучае тыпалагічныя асаблівасці характараў герояў праз "псіхалогію вяртання" чалавека з вайны.

Ужо гэта літаратуразнаўчая праца засведчыла сталую і выніковую ўвагу Г. Тварановіч да тыпалогіі як дзейснага сродку параўнальнага даследавання літаратур, што ўспрымаюцца як пэўная культурная цэласнасць, як тып. Адштурхоўваючыся ад тагачаснага ўзроўню айчыннай кампаратывістыкі, напрацовак вядучых беларускіх тыполагаў, і найперш Алеся Яскевіча, Г. Тварановіч зрабіла сістэмнае даследаванне псіхалагічна складаных і розных характараў-тыпаў у беларускай і славенскай прозе. Літаратуразнаўца паведаміла многа цікавага, раней невядомага філалагічнаму і проста культурна адукаванаму чытачу аб супадзенні жыццёвага трагізму беларусаў і славенцаў. Так, напрыклад, мовы абодвух народаў доўгі час былі пад забаронаю. Славенцы перажылі італьянскую агрэсію, анямечванне, а беларусы — паланізацыю і русіфікацыю... Аказваецца, у славенскіх вучоных і сёння папулярная гіпотэза аб паходжанні славенскага народа з беларускага Палесся, адкуль потым прашчуры славенцаў перасяліліся на паўднёвы захад, на тэрыторыю сучаснай Славеніі.

Апошняя кніга Г. Тварановіч "Беларуская літаратура. Паўднёваславянскі кантэкст" (Мн., 1996) — гэта наватарскае тэарэтыка-літаратуразнаўчае даследаванне беларускага духоўнага шляху, і перадусім, літаратурна-асветніцкага, культурнага, у шырокім параўнанні з духоўным патэнцыялам не толькі славенцаў, але сербаў і харватаў. Як выяўляецца, культурныя адносіны паміж беларусамі і паўднёваславянскімі народамі завязаліся здаўна, з часоў Кірылы і Мяфодзія, і падтрымліваюцца на працягу многіх стагоддзяў.

У кнізе створаны абагульнены малюнак тыпалагічнага развіцця беларускіх і паўднёваславянскіх літаратурна-асветніцкіх узаемадзеянняў на працягу амаль тысячагоддзя, да XIX стагоддзя ўключна. Пры гэтым акрэслены некалькі іх асноўных перыядаў. Самы ранні, які дае магчымасць для адносна прадметнага вывучэння характару гэтых культурна-гістарычных кантактаў, — час зараджэння ўласна літаратурнай традыцыі. І прыпадае ён на сярэднія вякі.

У гэты ж час, як сцвярджае літаратуразнаўца, і пад непасрэдным візантыйскім уплывам разгортвалася асветніцка-літаратурнае жыццё Полацкага княства, а затым і іншых беларускіх зямель. Аб гэтым сведчыць дзейнасць беларускіх падзвіжнікаў Еўфрасінні Полацкай, Кірылы Тураўскага, іх паплечнікаў і паслядоўнікаў. Гэта быў час апасродкаваных асветніцка-літаратурных кантактаў, абумоўленых тады яшчэ адзінствам праваслаўнага свету.

Эпоха ж непасрэдных беларуска-паўднёваславянскіх уплываў, як сцвярджае Г. Тварановіч, прыпадае на XIV—XVI стагоддзі, на часы росквіту Вялікага княства Літоўскага. Даследчыца аргументавана паказвае інтэнсіўнасць, насычанасць і вялікае ўзаемнае значэнне гэтых кантактаў для станаўлення ўласных літаратурных традыцый. Пераканаўча ўпісана ва ўсходнеславянскі кантэкст дзейнасць канстанцінопальскіх місіянераў — мітрапаліта Кіпрыяна і яго пляменніка Грыгорыя Цамблака. Надзвычай пазнавальныя для чытача, які цікавіцца айчыннай гісторыяй, культурай і літаратурай, старонкі аб дзейнасці іх у Вялікім княстве Літоўскім і ў Масковіі. На падставе асобных фактаў з рэдкіх крыніц Г. Тварановіч удалося грунтоўна распавесці аб дзейнасці Г. Цамблака, які, высвятляецца, карыстаўся палітычнай і, відаць, сяброўскай, апякунскай падтрымкай вялікага князя Вітаўта. Даследчыца выказвае зусім слушную версію, што толькі пры падтрымцы аўтарытэтнага для Усходняй Еўропы палітычнага і дзяржаўнага дзеяча, якім быў Вітаўт, Г. Цамблак змог стаць кіеўскім мітрапалітам. Яго знаходжанне ў Вялікім княстве Літоўскім Г. Тварановіч называе вельмі плённым і выніковым.

Бясспрэчна, што творчасць Г. Цамблака, — а ў літоўска-рускі перыяд ён напісаў каля дзесяці твораў, — аказвала вялікі ўплыў на тагачасную літаратуру Вялікага княства Літоўскага. Больш таго, яго літаратурная і грамадска-місіянерская дзейнасць ва ўмовах вострай барацьбы беларускага народа супраць палітыкі акаталічвання і паланізацыі феадальных колаў, што здраджвалі сваёй мове і культуры, дапамагала абараніць і захаваць гэтыя духоўныя каштоўнасці, што відавочна, развіваліся і выспявалі пераважна ў рэчышчы ўсходнеславянскай праваслаўнай царквы.

Раздзел кнігі "Эпоха паўднёваславянскіх уплываў" (непасрэднасць кантактаў, узаемін) змяшчае шэраг новых фактаў аб даволі інтэнсіўных і рознабаковых кантактах беларусаў з тагачасным паўднёваславянскім светам. Так, напрыклад, паведамляецца, што ў князёў Астрожскіх была добрая традыцыя — гасцінны прыём паўднёваславянскіх місіянераў-асветнікаў, абаронцаў праваслаўя. І сапраўды, мітрапаліт Бялградскі Лука ў 1599 г. разам з князем Канстанцінам Астрожскім бараніў веру на Брэсцкім саборы...

XVI—XVIII стагоддзі, лічыць Г. Тварановіч, сталі наступным этапам, калі выразна праявіліся беларуска-паўднёваславянскія літаратурна-асветніцкія кантакты. Даследчыца абгрунтоўвае цікавую версію, што першы сербскі гістарычны твор "Запіскі янычара" Канстанціна Міхайловіча стварауся ў беларуска-польскім культурным асяроддзі Вялікага княства Літоўскага. На карысць гэтай версіі сведчыць і тое, што "Запіскі янычара" — адзін з першых твораў на польскай мове, аддрукаваны на кірыліцы — быў у дзярэчынскай бібліятэцы Сапегаў. Аб гэтым захаваўся ўспамін настаўніка віленскай гімназіі Яна Закрэўскага. Г. Тварановіч знаходзіць доказы таму, што К. Міхайловіч жыў у Вялікім княстве Літоўскім. Усе яны ўказваюць на багаты вопыт сувязей нашых продкаў з паўднёвымі славянамі.

Прааналізаваўшы "Запіскі янычара", даследчыца заўважыла, што яны ў жанрава-стылёвых адносінах блізкія да тагачасных твораў беларускай літаратуры. Менавіта тады адыходзіў жанр летапісаў і хронік, саступаючы месца ўласна літаратурнай творчасці. У гэтым плане цікавы параўнальны аналіз "Запісак янычара" з "Хронікай Быхаўца". Г. Тварановіч дае свой, у значнай меры новы, навуковы каментарый да "Хронікі Быхаўца", выдатнага помніка нашай літаратуры XVI стагоддзя.

Узбагачэнню беларускай навуковай думкі будуць спрыяць і філасофска-культуралагічныя развагі Г. Тварановіч аб двух варыянтах еўрапейскага адраджэння. Першы, заходнееўрапейскі, лічыць яна, дастаткова распрацаваны і асвоены сусветным культурным працэсам. Другі, усходнееўрапейскі, пакуль распрацоўваецца і часта не называецца сваім імем "па прычыне дамінавання з нейкай пары ў чалавечым універсуме прагматычнага, утылітарнага пачатку над духоўным". Устрывожаная, як і ўсе мы, невылечнай экалогіяй, эксплуатацыяй "нібыта мірнага" атама, Г. Тварановіч задумваецца і прымушае задумацца нас: ці быў той жа рэнесансавы гуманізм сапраўды гуманізмам і дабротаю на шляху чалавецтва. "Ці не аказаліся на справе свабода і самакаштоўнасць асобы і бязмежная вера і ў яе стваральныя сілы той сумніцельнай ніццю, якая завяла нас у складаны лабірынт, з якога цяжка прарвацца ў асэнсаванне сапраўднай прыроды чалавека, вялікаснай ролі і прызначэння чалавечага лёсу ў Сусвеце?"

Зыходзячы з супярэчлівых рэалій, даследчыца мяркуе, што філасофская думка павінна ўзняць праблему духоўнай стратнасці агульнай канцэпцыі заходнееўрапейскага Адраджэння ў яго арыентацыі на антычнасць і катэгарычнае адмаўленне ад традыцыйных, вечных хрысціянскіх каштоўнасцей.

Думаецца, што ў такой пастаноўцы праблемы змястоўнасці і духоўнасці еўрапейскага Адраджэння ў Г. Тварановіч будуць і прыхільнікі, і апаненты. Аднак нельга не згадзіцца з даследчыцай, якая не лічыць страту хрысціянскага кантынууму бясспрэчнай перамогай чалавечага духу. "Над чым перамога?" — слушна і своечасова, з трывогай за лёс чалавецтва пытаецца яна. Аўтар прыходзіць да нечаканай і глыбокай высновы, што "...заходнееўрапейскі Рэнесанс быў паразаю ў строях пераможцы".

Г. Тварановіч настойвае на неабходнасці побач з заходнееўрапейскім і візантыйска-славянскім Адраджэннем вывучаць сваю, уласна-беларускую культурна-асветніцкую і хрысціянска-філасофскую традыцыю, цэлыя старонкі якой па розных прычынах засталіся прапушчанымі і непрачытанымі.

На многіх старонках кнігі Г. Тварановіч дае аб'ектыўную і вельмі патрэбную для нашага літаратуразнаўства і грамадства ў цэлым ацэнку хрысціянства як светапогляду і яго ролі ў развіцці канцэпцыі асобы, у станаўленні свядомасці і духоўнасці чалавецтва. У большасці выпадкаў аўтару ўдаецца быць пераканальнай, хаця часам і ўзнікае ўражанне: там, дзе не хапае аб'ектыўных фактычных гісторыка-літаратурных аргументаў, іх замяшчае шчырая эмоцыя і непахісная вера даследчыцы, што ўсё менавіта так, а не інакш.

Упершыню ў нашым літаратуразнаўстве Г. Тварановіч выяўляе "Тыпалогію сутнасцей" (тэрмін даследчыцы) у дзейнасці Ф. Скарыны і К. Міхайловіча, ацаніўшы іх спадчыну. Аўтар сыходзіць з аспекту ўнутранага плана абодвух асветнікаў — высакароднасці іх намераў. Магчыма, гэта якраз і недастатковая, і не падмацаваная фактамі аргументацыя. Але гэта адзін з тых выпадкаў, калі аўтарская пераканананасць перадаецца і чытачу: "Мэта, сэнс жыцця Скарыны — асвета люду паспалітага, абуджэнне, навучанне Ісціне, ратаванне нораваў ад спакус веку. Мэта, сэнс жыцця К. Міхайловіча — ратаванне свабоды, вызваленне ад фізічнага і духоўнага гнёту... Абодва яны шчыра, наколькі ім дазвалялі абставіны, спраўдзіліся ў сваіх шляхотных намерах".

Г. Тварановіч удалося пашырыць уяўленні беларускага чытача аб дуброўніцка-далмацінскай літаратуры, у прыватнасці, змястоўна параўнаць "Песню пра зубра" М. Гусоўскага з паўднёваславянскім эпасам "Асман" Івана Гундуліча, сцвердзіць, што з гэтых твораў пачынаецца эпоха "вялікага славянскага будзіцельства". Гэта выявілася ў пафасе барацьбы з агрэсіўным мусульманскім захопнікам, і пафас гэты адшукваецца ў літаратуры і культуры ўсяго славянскага свету. Ідэя барацьбы супраць агрэсіі мусульманства з'явілася, на думку Г. Тварановіч, важным кампанентам славянскіх літаратур як тыпу. Сапраўды, у многім па-новаму, змястоўна прачытваецца беларуская паэма "Песня пра зубра" ў паўднёваславянскім кантэксце побач з паэмай Марка Маруліча "Малітва супраць турак" і іншымі творамі дуброўніцкіх і далмацінскіх паэтаў. Аднак ці стае аргументаў, каб князя Вітаўта, героя паэмы М. Гусоўскага, у першую чаргу лічыць "хрысціянскім неафітам", які "разбураў паганскія кумірні як помнікі здзічэння веры продкаў"?..

У цэлым жа выснова Г. Тварановіч аб тым, што вайна славянства з мусульманскім светам "стала той аб'ектыўнай рэчаіснасцю, якая ўплывала на працэс станаўлення славянскіх літаратур як тыпаў, культурных цэласнасцей", уяўляецца не толькі слушнай, навуковай, але і перспектыўнай у многіх адносінах.

Пераканальна гаворыць Г. Тварановіч аб судакранальнасці дзейнасці С. Буднага, В. Цяпінскага і пачынальніка славенскага пісьма і літаратуры Прымажа Трубара, аб рэзанансе творчасці С. Полацкага сярод сербскіх літаратараў.

З цікавасцю чытаюцца насычаныя інфармацыяй і навуковым роздумам старонкі аб стваральнай сіле этнічнай традыцыі ў спадчыне С. Богуш-Сестранцэвіча, З. Даленга-Хадакоўскага, А. Міцкевіча...

Неаспрэчнай вартасцю літаратуразнаўчых пошукаў Г. Тварановіч з'яўляецца зварот да архетыпавых, менталітэтных пачаткаў як стэрэатыпу паводзін этнічнага соцыуму, інварыянта псіхічнага складу, які стаў зародкам нацыянальнай эстэтыкі. Даследчыца дапамагае айчыннаму літаратуразнаўству пераадолець традыцыйна спрошчанае ўяўленне аб заходнееўрапейскіх уплывах на беларускае культурна-гістарычнае жыццё толькі праз польскае пасрэдніцтва. Гэта кніга не толькі істотна ўзбагачае беларускае кампаравістычнае літаратуразнаўства, але і практычнае беларусазнаўства. У прапанаваным паўднёваславянскім кантэксце ўзбуйненымі бачацца і набываюць еўрапейскую значнасць постаці і літаратурна-асветніцкая дзейнасць С. Буднага, М. Гусоўскага В. Цяпінскага, М. Сматрыцкага і іх многіх паслядоўнікаў у наступныя эпохі. І ўвесь духоўны, літаратурна-асветніцкі шлях беларусаў набывае годны еўрапейскі кантэкст.

Кнігу "Беларуская літаратура. Паўднёваславянскі кантэкст" Г. Тварановіч прысвяціла светлай памяці свайго навуковага кіраўніка Алеся Міхайлавіча Адамовіча — чалавека-зоркі, што ўжо з недасяжнай вышыні шле на беларускі шлях чыстую энергетыку духоўнасці.

**Зоя МЕЛЬНІКАВА**

*г. Брэст*

КНІГАРНЯ

# Млын на ветразях часу

На сённяшні дзень па сутнасці толькі два дзяржаўныя выдавецтвы — "Юнацтва" і "Полымя", нягледзячы на ўсе складанасці, рэгулярна выпускаюць літаратуру гістарычнай тэматыкі. І што важна — гэта, як правіла, кнігі, пасля знаёмства з якімі застаецца глыбокі след у душы. Юнацкаўскі зборнік беларускіх народных легенд і паданняў "Млын на сямі колах" (запіс і літаратурная апрацоўка Ірыны Масляніцынай) — з шэрагу апошніх. Маладая пісьменніца (а І. Масляніцына добра вядома і як празаік, драматург, плённа працуе ў галіне гісторыка-краязнаўчай літаратуры) сабрала творы, дзякуючы якім можна даведацца пра паходжанне назваў асобных вёсак, мястэчак, гарадоў і нават пэўных мясцін, пра якія ў народзе засталіся пэўныя згадкі.

Канечне, нельга сказаць, што І. Масляніцына ступае па цаліку. Для прыкладу, ці не дваццаць гадоў назад у выдавецтве "Навука і тэхніка" пабачыў свет аб'ёмны том "Легенды і паданні", што папоўніў серыю "Беларуская народная творчасць", якая, дарэчы, выходзіць па сённяшні дзень, толькі ў выдавецтве "Беларуская навука". Успамінаецца і добрае пачынанне А. Ненадаўца, які для выдавецтва "Беларусь" задумаў серыю "Мой родны кут", што ў перспектыве дасць шэсць кніг, прысвечаных кожнай вобласці нашай краіны, і гэтаксама паводле легенд тлумачыць паходжанне назваў населеных пунктаў кожнай вобласці. Выйшлі, як вядома, першыя два тамы — "брэсцкі" і "мінскі".

Аднак згаданыя прыклады — толькі пацвярджэнне таму, наколькі вялікую цікавасць выклікае гэтая тэма як у пісьменнікаў, так і вучоных-даследчыкаў. У той жа час кніга І. Масляніцынай (каб мае права, дык прозвішча яе вынес бы на вокладку) гэта — не толькі запісаныя ёю легенды і паданні. І не толькі апрацаваныя. Ёсць падставы гаварыць менавіта пра кнігу **аўтарскую**. І. Масляніцына выступае не столькі нарысістам, эсэістам, колькі празаікам. Асабліва, калі бярэцца за асэнсаванне вядомых сюжэтаў, па іншых выданнях.

Ці не найлепшае пацвярджэнне таму — апавяданне (а я б жанр гэтага твора вызначыў акурат гэтак) "Чорная дама Нясвіжа". Пра тое, што ў нясвіжскім замку па начах многія бачылі прывід Барбары Радзівіл, расказвалася неаднаразова. Даводзілася пра гэта пісаць і мне ў сваёй кнізе "Зерне да зерня". Аднак у І. Масляніцынай свая інтэрпрэтацыя вядомага факта (бадай, пры ўсёй неверагоднасці гэтага, трэба паверыць, што і сапраўды пад скляпеннямі замка па начах блукае здань). Яна менш за ўсё ідзе, так сказаць, за падзейным ходам падання, а заглыбляецца ў сутнасць саміх падзей. Тых, якія ўсяму гэтаму і папярэднічалі. "Чорная дама Нясвіжа" — гэта сама гісторыя аднаго кахання — яркага, палымянага, самаадданага і ўзаемнага. Каханне Барбары і Жыгімонта Аўгуста (чамусьці ў творы ён называецца Зыгмундам), сына ўсемагутнай Боны Сфорцы. Каханне, якое здатна пераадолець любыя перашкоды. Як вядома, Жыгімонт ажаніўся на Барбары супраць матчынай волі. Але адметнасць апавядання нават не ў гэтым, бо пра каханне гаворыцца як бы мімаходзь. І. Масляніцына спрабуе (і гэта ёй удаецца) прыадкрыць таямніцу таго, як жа сталася, што Барбара Радзівіл па сённяшні дзень не ведае спакою, ператварыўшыся ў прывід.

Па-свойму падыходзіць І. Масляніцына і да асэнсавання легенды, якая ў пэўнай ступені тлумачыць паходжанне назвы сталіцы Беларусі горада Мінска, — колішняга Менска, а яшчэ раней Мянеска ("Млын на сямі колах"). Галоўны герой твора, вядома, Мянеск — сын млынара. На яго долю выпала нямала выпрабаванняў. Асабліва, калі ён мусіў абараняць Радзіму ад чужынцаў. Тыя аказаліся дастойным ворагам. І тады Мянеск прыдумаў, як зламаць іх супраціўленне: "...быў перанесены на цвёрдую глебу стары млын. Яго паставілі на шэсць колаў. Вялікае кола, якое варочала шмат гадоў жорны, прыстасавалі як стырнавое. І надышоў дзень, калі насустрач варожаму войску з лесу выкацілася дзіўная драўляная крэпасць на колах. Яна рухалася пры дапамозе моцных парываў ветру". А з байніц ляцелі роем у чужынцаў стрэлы. Тыя, кідаючы зброю, у страху разбегліся... Пасля гэтага ўдзячныя землякі абралі Мянеска князем. Ён узяў сабе ў жонкі дзяўчыну-прыгажуню Свіслач. Пазней, пасля смерці Мянеска, сталі называць паселішча яго імем.

А вось у "Перакрэсленым крыжы" тлумачыцца паходжанне мястэчка Мір. Адбываецца вяртанне ў глыбокую даўніну, калі магутнае Навагрудскае княства часта ўступала ў барацьбу з рыцарамі-крыжакамі. Падчас некаторых сутычак навагрудцы здзівіліся, што чарговы атрад чужакоў, які ўзначальваў Готфрыд фон Фірбак, не спяшаецца вяртацца на Радзіму. Як высветлілася, там на Готфрыда з'явіўся паклёп, а таму "вернецца эльзасец пераможцам ці пераможаным, будзе ён схоплены, кінуты ў цямніцу і пасля катаванняў спалены на кастры разам з воінамі..." Князь Юрый з малодшым братам князем Васількам, даведаўшыся пра гэта, вырашыў пераманіць заваёўніка на свой бок, што ў рэшце рэшт ім і ўдалося. А маленькая вёсачка, у якой праціўнікі падалі адзін аднаму рукі для перамір'я ("а потым скідалі эльзасцы плашчы на веснавую зямлю; і нехта са світы братоў-князёў смалой праводзіў па чорных крыжах рысу, перакрэсліваў іх, робячы з чатырохканцовых каталіцкіх — шасціканцовыя праваслаўныя"), ператварылася ў мястэчка і атрымала назоў Мір.

Прыгожая легенда... Праўда, як гэта звычайна бывае з паданнямі, цяжка вызначыць, дзе праўда, а дзе народны домысел. А можа, і не трэба рабіць гэтага? Важней глыбей задумацца над гэтай і іншымі гісторыямі, каб лепш зразумець, наколькі багатая наша нацыянальная даўніна. Спасцігаць яе — далучацца да гістарычнай памяці. А гэта не менш важна, чым захаваць сваю мову, традыцыі, звычаі. Бо без гістарычнай памяці — чалавек нішто, без яе ён і ператвараецца ў манкурта.

Гістарычную памяць і вяртае з небыцця І. Масляніцына, асэнсоўваючы падзеі, што мелі месца (ці маглі мець) у розныя часы. Альбо адбывалася нешта падобнае, пра што расказваецца ў легендах і паданнях.

Гаворку аўтар "Млына на сямі колах" пачынае яшчэ з таго перыяду, калі народ прымусова пазбаўлялі яго спрадвечнай язычніцкай (чамусьці не падабаецца слова — паганскай) веры. І гэта рабілася так, што людзі не маглі разабрацца, у чым жа новая, хрысціянская, лепшая за ранейшую. Таму супраціўляліся, як маглі, зменам.

У легендзе "Выбар веры", якой кніга адкрываецца, пісьменніца і расказвае, як нежаданне людзей здрадзіць сваім ранейшым багам прывяло да ўратавання. Калі пачалася навальніца, а возера, каля якога месцілася паселішча, выйшла з берагоў, разбурыла царкоўны крыж. Тады прыгажуня Лебедзь, язычніцкая дзяўчына, паклікала суплеменнікаў за сабой, смела пакрочыўшы ў раз'юшаныя хвалі. І дзіўна — яны расступіліся. А ўратаваўся толькі той, "хто па-сапраўднаму паверыў у свае сілы".

Хочаш — вер, хочаш — не, але заканчэнне легенды сведчыць якраз на карысць першага: "Тым, хто сумняваецца, што ўсё было менавіта так, трэба прыехаць у вёску Лукава, што пад Маларытай. Там і да гэтага часу захаваўся гаючы камень-валун, на якім назаўсёды адбіўся маленькі босы жаночы ступачок — след Лебедзі". Дарэчы, падобным прыёмам І. Масляніцына карыстаецца неаднойчы. Розніца толькі ў тым, што "дакументальнае" сведчанне можа з'явіцца і ў пачатку твора (як у апавяданні "Душа народа": "Недалёка ад Лунінца знаходзіцца незвычайнае па сваёй прыгажосці возера Белае. Ціхае яно і празрыстае, быццам не вада ў ім, а слёзы, светлыя слёзы. Шмат стагоддзяў захоўваецца ў народзе адно паданне..."

Гісторый, якія выклікаюць не толькі зразумелую чытацкую цікаўнасць, а і прымушаюць усвядоміць сябе сынам менавіта гэтай зямлі, гэтага народа, гэтай краіны, шмат. Праўда, калі быць шчырым, асобныя з паданняў друкаваліся, няхай і ў іншых інтэрпрэтацыях, неаднойчы. Хоць бы ўзяць "Смерць Машэкі", "Дуб і сасна"... Прасцей сказаць, што іх не трэба было ў кнігу ўключаць. А падумаўшы, дык і добра, што яны ўвайшлі ў зборнік. "Млын на сямі колах" у першую чаргу адрасуецца сярэдняму і старэйшаму школьнаму ўзросту. А гэта значыць — найбольш удзячнаму чытачу. І чытачу, які часам нічога не чуў і пра таго ж Машэку. А прачытаўшы, і з сябрамі падзеліцца тым, што даведаўся. Калі нешта глыбока западзе ў душу, цікавасць да нацыянальнай мінуўшчыны на гэтай кнізе не спыніцца. А каб яна не спынілася, трэба каб Камітэт па друку не забываў пра выданні гістарычнай тэматыкі і спрыяў іх з'яўленню. У планах і таго ж "Юнацтва", і "Полымя" значацца яны і на наступны год. Каб жа толькі выйшлі.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

# Кніга на кожны дзень

Самаасэнсаванне патрыятызму ўзбагачае духоўнае жыццё асобы. Яно абуджае індывідуальнае пачуццё ўласнай годнасці і нацыянальны гонар для таго, каб справіцца з цывілізацыйным выклікам. Яно таксама патрэбна для стварэння новых духоўных каштоўнасцей.

Гэтае асэнсаванне чалавека як часткі гістарычна ўкшталтаванай калектыўнай тоеснасці, якая ахоплівае мінулыя і будучыя пакаленні, трывае нават тады, калі яе тлумяць, выяўляецца ў адчуванні супольнасці лёсу, адказнасці за мінулае і будучае, гэта значыць, залежыць ад успрымання назапашанага даробку ў галіне нацыянальна-культурнай тоеснасці (індэнтыфікацыі).

Чаму ж гэты даробак такі важны? Колькі б пра нацыю ні казалі навукоўцы і палітыкі звонку, а назіранні навукоўцаў сваёй нацыі ўсё ж істотней. За два стагоддзі напісана шмат прац пра сутнасць канкрэтных нацый, але адзінаю асэнсаванаю высноваю са стоса літаратуры было тое сцвярджэнне, што "нацыя ёсць група, якая хутчэй акрэслівае сама сябе, чым яе акрэсліваюць іншыя".

У даследаваннях па нацыянальным пытанні была прызнанай такая думка, згодна якой няможна адэкватна ўявіць сабе нацыю без удакладнення ў першую чаргу пункта погляду ўдзельнікаў і стваральнікаў духоўнай культуры нацыі.

Менавіта гуманітарная нацыянальная інтэлігенцыя, як мяркуюць сучасныя даследчыкі, фармуе адчуванне нацыі, — зразумела, толькі пры наяўнасці першаснай нацыянальнай свядомасці. Чэшскія "будзіцелі"-адраджэнцы канца XVIII—першай паловы XX стагоддзя дапамаглі чэшскаму сялянству і гараджанам умацаваць іхняе пачуццё чэхаў. Невыпадкова нехта казаў, што нацыя падобная да спячай прыгажуні, якую абуджае пацалунак нацыянальных ідэолагаў.

Агледзець цалкам меркаванні, якія выказваліся беларускімі мысліцелямі, навукоўцамі, праваслаўнымі і каталіцкімі дзеячамі, публіцыстамі, палітыкамі на працягу нашага стагоддзя аб нацыянальнай тоеснасці беларускай нацыі, раней уяўлялася немагчымым. Усе гэтыя каштоўныя думкі былі раскіданымі па розных выданнях — беларускіх замежных і часткова айчынных, і былі напісаныя па-беларуску, па-руску, па-польску, што, зразумела, абцяжарвала асэнсаванне культурна-цывілізацыйных асноў беларускага этнасу і нацыі. Ключавыя фактары фармавання і этапы развіцця нацыянальнай самасвядомасці ў гэтых умовах прасачыць было даволі цяжка. Выданні, у якіх такія меркаванні выказваліся, былі ў бальшыні сваёй недасягальныя або маладасягальныя для тых, хто імкнуўся асэнсаваць сваё месца ў нацыянальным жыцці і міжнацыянальных адносінах.

Гэты недахоп запоўніла складзеная Юрыем Гарбінскім анталогія "Беларуская думка XX стагоддзя. Філасофія, рэлігія, культура" (Варшава, Інстытут славістыкі Польскай акадэміі навук, 1998). У кнізе сабраныя працы шасці дзесяткаў аўтараў за восемдзесят з лішкам год. Тут прадстаўлены розныя канцэпцыі, пункты погляду, меркаванні адносна месца Беларусі ў Еўропе, як цэнтра культурна-цывілізацыйнага ўзаемадзеяння Усходу і Захаду. У анталогіі аналізуюцца вынікі шматгадовага тэарэтычнага і практычнага пошуку культурна-нацыянальнага сінтэзу і асэнсавання ролі праваслаўя, рыма-каталіцызму і грэка-каталіцызму (уніяцтва) у гісторыі беларускай нацыі і ў працэсах этнічнага і нацыянальнага станаўлення беларусаў.

Пералічваць аўтараў і назовы іхніх прац, што змешчаны ў анталогіі, і сэнсу не мае. Дастаткова адзначыць, што пераважная бальшыня тэкстаў гучыць актуальна, нягледзячы на даўнія даты іхняга складання. Геапалітычныя фактары, якія паўплывалі на стварэнне гэтых тэкстаў, за стагоддзе не змяніліся і змяніцца проста не маглі. Сто год, на працягу якіх пісаліся прадстаўленыя ў кнізе працы, — у гісторыі, як вядома, толькі імгненне.

Варта адзначыць іншае: аўтары некаторых прынцыповых абагульняючых твораў падчас іхняга напісання мелі даволі малады ўзрост: Антону Луцкевічу было трыццаць год, Максіму Багдановічу і Ігнату Канчэўскаму ўсяго па дваццаць пяць. Але якую эрудыцыю і дасведчанасць, якую начытанасць і ўменне разбірацца ў сутнасці справы выказвалі яны ў сваіх творах! Бачна, што адукацыя гэтых асоб у дарэвалюцыйныя часы была даволі грунтоўнай — і дзякуючы дарэвалюцыйнай адукацыйнай сістэме, і дзякуючы іхняй самаадукацыі, якой так часта сёння грэбуюць. А веды замежных моваў аўтарамі прыведзеных у анталогіі прац! Дзякуй Богу, зараз у нашай творчай моладзі хапае жадання самаадукоўвацца, што дае надзею на лепшае.

Як мне здаецца, анталогія "Беларуская думка XX стагоддзя" павінна стаць штодзённым чытаннем (не перабольшваючы) для кожнага настаўніка, асабліва гуманітарыя, каб ён і сам ішоў па шляху ўдасканалення сваіх ведаў у галіне нацыянальных духоўных каштоўнасцей, і меў магчымасць выхоўваць іншых у духу пашаны сваёй нацыянальнай духоўнай спадчыны.

**Валянцін ГРЫЦКЕВІЧ**

*ЧЫТАЦКІ ДЗЁННІК*
*КРЫТЫКА*

# Прарок і народ

*Іван Франко. Фрагменты з паэмы "Майсей". Пераклад В. Зуёнка. "Полымя", 1998, N 10.*

Калі зірнуць на нашу сучасную літаратуру ў кантэксце яе гісторыі, няцяжка заўважыць, як папярэднікі прадвызначаюць яе шляхі ў розных накірунках: жанравым, стылёвым, тэматычным. Гэта відаць не толькі ў арыгінальных творах, але і ў перакладах. Асабліва тых, за якія перакладчык бярэцца не з нагоды юбілею, ці якой іншай аказіі, а паводле жадання ўласнай душы.

"Прарок і народ.

Свабода і рабства.

Ці хаця б імкненне да свабоды і гатоўнасць жыць у рабскай пакоры...

І хто ёсць прарок: той, у каго адказы на ўсе пытанні простыя і прымітыўна ясныя, хто абяцае імгненныя рашэнні і сам жа патанае ў гэтых абяцаннях, топячы заадно і народ; ці той, хто бачыць шляхі да свабоды ісцінныя, а таму і цяжкія, і няўдзячныя для ўласнай прарочай славы..."

Так напісаў Васіль Зуёнак ва ўступе да свайго перакладу паэмы І. Франко "Майсей". Той самы Васіль Зуёнак, якому належаць афарыстычныя радкі: "Плошча Незалежнасці — плошча нежалезнасці"...

"Майсей" — толькі адна з паэм І. Франко, дзе ідзе непрыхаванае перагукванне-супрацьстаянне з Адамам Міцкевічам. Як і міцкевічаўскі Вальтэр Альф ("Конрад Валенрод"), будучы прарок Майсей з дзяцінства выхоўваўся ў чужацкай няволі і быў не разам са сваімі супляменнікамі, а пры двары фараона.

Як і Вальтэр Альф, ён не забыўся пра сваё паходжанне і пра свой народ, які яму было наканавана вывесці з няволі. Аднак у адрозненне ад Міцкевіча, у творы І. Франко прысутнічае яшчэ адзін надзвычай важны момант. Гэта матыў чорнай няўдзячнасці, падазрэнняў і абвінавачванняў (здрады наадварот), якімі плаціць народ свайму прароку.

***Сорак год нёс я слова твае,***
***Сорак год навучаў з маленства,***
***Каб з рабоў нарадзіўся народ***
***Па твайму падабенству.***

***Сорак год, як каваль, гартаваў***
***Сэрцы іх і сумленне,***
***А прыйшоў да таго, што пайшоў***
***Ад іх злога камення.***

Жаліцца Майсей І. Франко, звяртаючыся да свайго бога Іеговы. Але гэта скарга не толькі Майсея, гэта і споведзь самога ўкраінскага паэта, якога сучаснікі не раз абвінавачвалі ў валенрадызме, у здрадзе нацыянальным інтарэсам.

Народам, якія жывуць свабодна і заможна, прарокі патрэбныя не настолькі, наколькі тым, у якіх пад пагрозай будучае этнічнае існаванне. І калі для рускага прарока дастаткова абстрактнага заклiку: "глаголом жечь сердца людей", то для беларусаў і ўкраінцаў усё інакш.

***Паўстань з народу нашага, прарок,***
***Праяваў бураломных варажбіт,***
***І мудрым словам скінь з народу ўрок,***
***Якім быў век праз ворага спавіт,***

— заклікаў Янка Купала. І не ягоная віна, што ў беларускай гісторыі чаканне прарока набыло хранічны характар. Народ аказаўся ці то занадта пераборлівым, ці то занадта няўдзячным. А, можа, уся бяда ў тым, што паводле слоў С. Яновіча, Бог пусціў у свет нашых супляменнікаў "толькі з шырока разяўленым горлам".

Можа, адсюль і прарочая купалаўская скруха:

***— Па колькі ж нам дасі чырвонцаў,***
***Калі мы пойдзем за табой?***

Можа, адгэтуль і з'едліва безвыходная горыч быкаўскай "Трубы" і "Народных мсціўцаў".

**Галіна ТЫЧКА**



## ЧАСАПІС

## "Бераг"

Паэзія любому ўзросту падуладна. У гэтым лішні раз пераконвае творчасць Івана Чыгрына, які добра вядомы як літаратуразнавец: ён аўтар пяці манаграфій — "Станаўленне беларускай прозы і фальклор. Дакастрычніцкі перыяд", "Проза "Маладняка". Дарогамі сцвярджэння", "Крокі. Проза "Узвышша", "Рэальнае і магчымае. Проза Якуба Коласа", "Паміж былым і будучым. Проза Максіма Гарэцкага". Але, аддаючы шмат часу літаратуразнаўчай працы, ён піша і вершы. Найчасцей — для сябе. Таму і запазнілася першая паэтычная кніга І. Чыгрына "Капеж", якая пабачыла свет у выдавецтве "Мастацкая літаратура" толькі ў 1992 годзе, калі аўтар размяняў сёмы дзесятак гадоў. А пайшоўшы на заслужаны адпачынак, ён змог больш удзяляць увагі паэзіі. І як вынік —




чарговая кніга "Трыба", што выйшла летась. І вось — трэці зборнік І. Чыгрына-паэта — "Бераг", жыццё якому даў "Беларускі кнігазбор".

Назву зборніка аўтар абгрунтоўвае ў выдавецкай анатацыі наступным чынам: "Адчуванне берага заўсёды ўласціва чалавеку. Кожны ідзе да свайго берага. Спыняўся, каб апусціцца ці, наадварот, падняцца на бераг. Ва ўсіх выпадках сітуацыя псіхалагічна неардынарная, асабліва, калі бераг чалавечага жыцця мысліцца максімальна аб'ектыўна, як вынік руху грамадства, месца ў гэтым працэсе суб'екта. Лірычны герой у роздуме, у няпростым, нярэдка балючым самааналізе".

Правільным будзе сказаць, што бераг лірычнага героя І. Чыгрына — там, дзе чалавек адчувае сябе асабліва добра і ўтульна, а гэта — бераг беларускасці. Праўда, дайсці да яго часам няпроста, бо шмат яшчэ на шляху перашкод. У творах узмацняюцца публіцыстычныя матывы, калі І. Чыгрын з болем піша пра становішча, у якім апынуліся беларусы:

*А як жа інакш?*
*Ідзем у нагу з часам,*
*Падпісваемся праз "и" дзесяцярычнае.*
*Да драбніц ведаем іх культуру —*
*Калі Пушкін сустрэў Керн першы раз,*
*Калі —апошні,*
*І якое тады было надвор'е.*
*Забываем,*
*Дзе нарадзіліся,*
*Блытаем Купалу з Коласам*
*(Абодва на "К").*
*Такая формула*
*Нашага*
*Нацыянальнага*
*Быцця.*
*Жывем у нагу з часам.*

А напісалася гэта яшчэ 8 сакавіка 1978 года. І, як бачым, не страціла сваёй актуальнасці. Увогуле, паэт уключыў у кнігу вершы, якія якраз і пісаліся для сябе і толькі цяпер вынесены на чытацкі суд. І лепшыя з іх успрымаюцца так, нібы радкі іх леглі на паперу сёння. Гэта тычыцца і лірычных вершаў, у якіх жыве каханне. Нярэдка тое колішняе, аб якім застаўся толькі след у душы: "А я збіраюся ў дарогу, А я паеду ў горад той, У якім ты маеш жонку строгую, І домік свой, і садзік свой. Не вырву ў гэтым садзе кветкі, Не вып'ю ў гэтым доме чаю. Чаго у той горад завітаю? Паеду да сябе ў адведкі".

**Лявон ЮРЧЫК**

## Антырэклама і сусветны стандарт

У Мінску прайшоў семінар па якасці выдання кніг. Арганізатары мерапрыемства — Дзяржкамдрук і Дзяржстандарт — перш за ўсё імкнуцца ўдасканаліць сістэму якасці выдання беларускай кнігі, падняць яе да сусветнага ўзроўню.

У дні работы семінара на паліграфкамбінаце працавала выстаўка "Антырэклама", на якой былі прадстаўлены кнігі нізкай якасці выдання. Наведаўшы яе, увачавідкі можна было пераканацца, якой не павінна быць кніга.

**Р. АЛЕНІНА**

## ПАЭЗІЯ

Хведар ЖЫЧКА



## "І на сэрцы зноў мне стала горна..."

### Пакуль жыве маці...

*Пакуль жыве маці,*
*ты маеш куды*
*ехаць у госці*
*і пісьмы пісаць.*

*Пакуль жыве маці,*
*ты маеш адкуль*
*у хвілю цяжкую*
*спагады чакаць.*

*Пакуль жыве маці,*
*ты маеш каму*
*радасць паведаць,*
*даверыць бяду.*

*Пакуль жыве маці,*
*ты ёй адплаці*
*ласкай за ласку,*
*дабром за дабро.*

*Сам адплаці,*
*не спазніся, глядзі,*
*бо за цябе*
*не адплаціць ніхто.*

### Альтэрнатыва

*Так збяднеў родны край,*
*так заўбожаў мой двор, —*
*ці пад плотам канай,*
*ці ўцякай за бугор.*

*За бугром мне і дня*
*аднаго не пражыць.*
*За бугром буду я*
*горка плакаць-тужыць*
*па бярозках бялюткіх,*
*па чорнай раллі,*
*па крыніцах чысцюткіх,*
*што б'юць з-пад зямлі;*
*па буслах даўганогіх*
*на замшэлай страсе,*
*па квяцістых аблогах*
*у золкай расе;*
*па хлапечых забавах*
*у ценю прысад,*
*па ўсмешках ласкавых*
*вясковых дзяўчат.*

*За бугром анічога*
*я ўжо не знайду.*
*За бугром я, нябога,*
*без сілы ўпаду.*
*І не будзе каму там рукі мне падаць...*
*Не, ўжо лепей пад плотам*
*тут вось, дома, сканаць!*

### Босая фея

*Трава высокая, густая...*
*Дзяўчына босая блукае*
*па той траве, вячэрняй, роснай.*
*За ёю нацянькі ў тумане*
*ішоў я, нібы апантаны,*
*зачараваны феяй босай.*

*Яна мне снілася штоночы —*
*яе пастава, косы, вочы...*
*Было гадоў мне мо семнаццаць.*
*Ёй прысвячаў цішком я вершы,*
*кахаў яе каханнем першым,*
*ды не асмеліўся прызнацца...*

*А сёння зноў я ў тых мясцінах...*
*Траву, вядома, ўжо скасілі,*
*і склалі ў стог, і звезлі з луга...*
*Расце там новая атава,*
*яе скубе ўжо іншы статак,*
*прыгнаны не маёю пугай...*

*І цяжка ўжо знайсці мне ў росах*
*сляды тае дзяўчыны босай,*
*якую зваў калісьці феяй;*
*хоць ведаю: блукае сцежкай*
*і маладой сваёй усмешкай*
*кагосьці іншага ўжо грэе.*

### На адыход XX-га стагоддзя

*У стагоддзі гэтым завірушным,*
*звычным да сенсацый,*
*розных дзіў,*
*не з'явіўся нейкі новы Пушкін,*
*звонам ліры нас не разбудзіў.*

*Быў, вядома, чарнакніжнік Ленін,*
*узбурыў рабочых і сялян,*
*ды паставіў зноў іх на калені*
*"мудры" Сталін — кат і інтрыган.*

*І цярпеў пакуты люд славянскі,*
*бо яму зусім не ў навіну*
*кланяцца жывым багам паганскім*
*і жывымі класціся ў труну...*

●

*Я ніколі не думаў, дзівак,*
*што душу маю сум так агорне...*
*А прыйшоў вось у свой беразняк,*
*і на сэрцы зноў стала мне горна.*

*Сонца зззяе, нібыта вясной,*
*пад нагамі — апалае лісце,*
*і аблокі бягуць нада мной,*
*і празрысты блакіт, як калісьці...*

*Ды чагось ужо тут не стае,*
*штосьці знікла адсюль незваротна...*
*Не прадуцца ўжо думкі мае,*
*не знаходжу я ўцех, сэрцу родных...*

*Любы кут мой! Абветраны край:*
*лес, балота, пясчаныя выдмы...*
*Адчужэннем сваім не карай,*
*лепш з грудзей маіх музыку выдзьмі!*

*Лепш жывога заціснi ў труну,*
*кінь у прорву галечы, нястачы,*
*толькі дай мне магчымасць адну —*
*родным гоням за песню аддзячыць!*

### Амялушкі

*Сядзяць на голым клёне амялушкі —*
*прыгожыя чубаценькія птушкі.*

*Яны да нас у госці прылятаюць*
*з паўночнага заснежанага краю.*

*Ад холаду ратуюцца? Не толькі,*
*спрадвеку ў іх такая завядзёнка:*

*ці лёгкая стаіць зіма, ці злая —*
*збіраюцца ў гурты і адлятаюць*

*на поўдзень. Можа, ім, як нам, цікава*
*авіятурыстамі злятаць*
*аж на Балканы*

*ці мо яшчэ кудысьці і далей,*
*дзе б ім жылося багацей і весялей...*

*Як я зайздрошчу вам,*
*чубаценькія птушкі —*
*прыгожыя скакушкі амялушкі!*

### Славы не дзеляць

*Па-сяброўску пісьменнікі славы*
*не дзеляць,*
*як начны свой улоў дружбакі-рыбакі*
*ці паўлітра гарэлкі ля крамы*
*ў нядзелю*
*разліваюць у шклянкі на трох дзецюкі.*

*Слава творцы —*
*не нейкая рыбка-маляўка,*
*не гарэлкі-сівухі пякучы глыток.*
*Слава —*
*гэта нібыта вялізная п'яўка,*
*а дакладней сказаць —*
*як агромністы цмок.*

*Тут — не жарцік бяскрыўдны,*
*гульня — не на дробязь,*
*тут — свой лёс рызыкоўна*
*ты ставіш на кон:*
*схопіш славу за грыву —*
*будзеш жыць у дабротах,*
*праваронiш —*
*змарнееш навек жабраком.*

## ПОШТА

Генадзь МЯЦЕЛІЦА

### На могілках

*Халодны сум на могілках зімою,*
*У белым снезе дрэвы і крыжы.*
*А мне здаецца, нехта йдзе за мною,*
*І ля майго і нечы след ляжыць...*

*Я азіраюся, стаю ў здранцвенні,*
*Ўслухоўваюся ў кожны рып і хруст.*
*Маўчаць магілы і маўчаць скляпенні,*
*Пакрыты беллю пад адзіны густ.*

*Мне белы снег здаецца палатняным,*
*І неба палатняным нада мной,*
*І цэлы свет — памятым і зваляным,*
*Прыніжаным прад ісцінай адной...*

●

*Усё гучанне дня*
*пакрывае лязгат ланцугоў умоўнасці.*
*Гэтыя ланцугі абмяжоўваюць*
*рухі нашых ног.*
*Гэтыя ланцугі абмяжоўваюць*
*махі нашых рук.*
*Гэтыя ланцугі*
*засланяюць нам вочы,*
*каб мы рухаліся — як усе,*
*каб мы бачылі — як усе,*
*каб мы чулі — як усе...*
*Але, здаецца, мы іх не чуем.*

●

*Яна пайшла і я адзін*
*Застаўся на жыццёвым полі.*
*Стаміўся ад абраз і кпін.*
*Даволі ўжо, даволі!*

*Душа маўчыць і цішыня*
*Палохае пустэчай.*
*Пакуль яшчэ пачатак дня,*
*А мне здаецца — вечар.*

Іван ЛАШУТКА

●

*Радзіма, беражы сваіх пракокаў —*
*Іх так нямнога на маёй зямлі,*
*Магілы іх снягі не замялі,*
*А душы светлыя ўзнесліся высока.*

*Наш судны дзень, магчыма, і далёка,*
*Але імя іх сёння памяні.*
*І у Хрыста кідалі камяні,*
*І ў змане люд смяяўся і галёкаў.*

*Я веру, што скрываўленыя строфы*
*Не раз народ паўторыць у бядзе.*
*...Як цяжка несці крыж, што прывядзе*
*Да змучанай гары Галгофы.*

●

*Перажыві мяне,*
*мой белы сад,*
*Каб яшчэ доўга*
*на бацькоўскіх сцежках*
*Пялёсткаў цёплых*
*ціхі зарапад*
*Любоўю грэў*
*унукавы усмешкі.*

●

*Куды ідзеш, зняверaны народ?*
*Чаму так доўга*
*над зямлёй зацьменне?*
*Мы вынеслі*
*і холад, і няўрод,*
*Але нідзе*
*не трацілі сумлення.*

*Магутны Божа,*
*я маліцца рад*
*І дзень і ноч,*
*аддана і да зморы:*
*Памілуй нас,*
*каб мой вішнёвы сад*
*Не стаў выжарынай*
*Садома і Гаморы.*

### Гледзячы праграму "Лялькі..."

*Згадаў бабулін досціп, не на грэх*
*(Лёс не мінаў яе бядой і горам):*
*"Чужыя дурні — выклікаюць смех,*
*Калі ж свае — то прыкрасць,*
*або сорам..."*

●

*Я сагрэю цябе дыханнем,*
*Толькі будзь,*
*жыві, гавары...*
*Глянь —*
*за вокнамі веснае ранне,*
*І звіняць капяжы на двары.*
*Я малю высокае неба —*
*Дай апошнюю радасць вясне.*
*Мне нічога на свеце не трэба,*
*Толькі ты*
*не пакінь мяне.*
*Не баюся віны і грэху,*
*Як любіў — усім раскажы.*
*Толькі будзь,*
*затрымайся рэхам*
*На пакінутым мной*
*рубяжы*

г. Вілейка

ПРОЗА

Раіса БАРАВІКОВА

# АНЁЛ-АХОЎНІК



АПАВЯДАННЕ

ЯНЫ СУСТРЭЛІСЯ, як і дамаўляліся, позним вечарам і цяпер стаялі недалёка ад лавачкі, раз-пораз пазіраючы на расчыненае акно на другім паверсе.

— А калі яна будзе якраз у гэтым пакоі? — запытаўся пятнаццацігадовы Юрка ў свайго сябрука-аднагодка Вадзіма. — Яна ж не будзе маўчаць, адразу падніме крык.

— Вядома, таму я і ўзяў братаў газавы пісталет. На-а, бяры, ён спатрэбіцца ў любым выпадку. Яе ўсё роўна давядзецца адключаць. Потым адразу адчыніш уваходныя дзверы, я ўжо буду стаяць на лесвічнай пляцоўцы. Толькі добра ўчапіся за падаконнік.

Юрка ўзяў пісталет, засунуў яго ў кішэню лёгенькай курткі-вятроўкі, паглядзеў на акно, пасля на прыстрэшак ганка.

— Я ўчора ночку залазіў, — сказаў ён. — Акно так блізка, што асабліва і падцягвацца не трэба. З ходу ўскочу.

— Спачатку ўскоч! — абарваў яго Вадзім. — Ну, ідзі... Я пабуду тут, пакуль будзеш узбірацца на прыстрэшак.

І Юрка пайшоў да ганка.

Ліда ляжала на канапе. Праз расчыненае акно плыў прыемны халадок і гэта было адзінае, што ўлагоджвала яе думкі гэтым вечарам. Спрабавала чытаць Шэлдана і не чыталася. Больш таго, ужо сама назва рамана выклікала іранічную ўсмешку: "Калі наступіць заўтра". Яна пакуль не ведала, што там будзе адбывацца ў гэтай кнізе, а вось тое, што яна сама заўтра назаўсёды адмовіцца ад Андрэя, ёй было ўжо добра вядома. Яна ўсё выкажа яму, а, можа, і не будзе выказваць: проста кіне трубку, як гэта ўжо рабіла неаднойчы. Тое, што яшчэ зусім нядаўна здавалася сонечным ударам, спякотным, галавакружным падарункам жыцця, абярнулася звычайнай любоўнай інтрыжкай. Ну і хопіць, з яе досыць! Магчыма, што і Андрэй гэтаксама думае. Таму што ўжо не першы раз яны дамаўляліся сустрэцца і ўсё зрывалася. Вось і сёння Андрэй пазваніў у апошні момант: "Лета нашых надзей нападзе! Не прыеду. Зваліліся нечаканыя госці, і як пакінуць сваіх хатніх?" А яна ж пакінула, — мужа, сына там, у Доме адпачынку на Нарачы. Напрыдумляла ўсяго, маўляў, пазваніла суседка, якой яна пакінула ключы ад кватэры, каб палівала вазоны, пакуль яны будуць адпачываць. І вось іх залілі суседзі зверху, — прарвала водаправодную трубу. Трэба ехаць, паглядзець, што там нарабілася!

Суседка сапраўды тэлефанавала Лідзе, але зусім з іншай нагоды. Прыязджаў стрыечны брат Васіль, прывёз рэчы, якія ёй дасталіся ад бабулі Мані. У вітальні дасюль стаіць гэты мех, а магла б і распакаваць яго, дык не, — чакала Андрэя! І яе агарнула ранейшая, пякучая, такая нядаўняя горыч, якая яшчэ не паспела астыць, прыпарушыцца часам.

Бабулю яны пахавалі тры тыдні таму назад і гэтая ейная смерць была дзіўная і загадкавая. Бабуля памірала двойчы. Лідзе ўспомнілася, як тады, першы раз, ёй патэлефанавала братавая, маўляў, усё, няма ў нас бабулі Мані, — збірайцеся, прыязджайце! І яны хутка сабраліся. Павінны былі ехаць начным цягніком. А потым вечарам — зноў званок, нечагодна, але ж гэта было так: бабуля аджыла. Яе ўжо абмылі, але труна яшчэ была не гатова, таму паклалі на лаву на покуці. І нехта пачаў папраўляць складзеныя на грудзях бабуліны рукі, і ледзь не страціў прытомнасць, — рукі былі цёплыя: "Дык яна ж жывая!" І гэта было праўдаю. Праз колькі часу бабуля сама паднялася з той лавы і яшчэ пражыла цэлы тыдзень, але ўвесь час была, бы не ў сабе. Да дактароў у райцэнтр адмовілася ехаць. Праўда, мясцовы фельчар сам прыходзіў, і хаця бабуля гаварыць з ім не схацела, патлумачыў, што, напэўна, гэта ў яе быў такі глыбокі сон. Адным словам, кароткае летаргічнае забыццё. Сама ж бабуля ад усялякіх размоў адмахвалася, толькі сабрала для яе, Ліды, тое-сёе ў гэты мех, што прывёз стрыечны, ды яшчэ напісала ёй ліст. І прасіла, каб мусова перадалі яго ёй. Але сваякі кудысьці яго паклалі і потым, як ні шукалі, ніяк не маглі знайсці, ашаломленыя тым, што адбывалася: памерла, аджыла, а роўна праз тыдзень папрасіла, каб нагрэлі вады: маўляў, сёння я ўжо сапраўды памру, як толькі абедня ў царкве адслужыцца, таму хачу сама абмыцца і апрануцца ва ўсё новае. Лідзе расказвалі, што бабуля доўга хадзіла па садзе, па двары, усюды заглядваючы, нібыта з усім развітвалася, а пасля легла на ложак і... сапраўды памерла, як і казала.

Ліда міжволі скаланулася, нават прыўзнялася, гэтак моцна бразнула аконная рама, і адразу ж падумалася пра скразняк: "Пэўна, там, за акном, падняўся вецер, вось ён і ляпнуў рамаю. Яна й уставаць не будзе зачыняць тое акно. "А, можа, усё-ткі пачытаць?" — і зноў адкіла Шэлдана. Каб не гэтая ўжо амаль сонная разамлеласць, яна б яшчэ сёння падаставала б рэчы, якія прывёз у тым мяху стрыечны. А што там было, Ліда добра ведала, проста не змаглі ўзяць мех з сабою, калі ездзілі на пахаванне бабулі. Стрыечны адгаварыў, маўляў, калі-небудзь буду ў Мінску на машыне, дык і прывязу, што вы цяпер будзеце цягацца з гэтым мехам! І Ліда міжволі заўсміхалася: "Родненькая ты мая бабулечка, і, як гэта ты захавала ўсё тое, на што яна, Ліда, ужо даўно забылася?!" Заўтра раніцай яна абавязкова выцягне з гэтага меху маленечкае крэселка, якое даўно-даўно для яе, Ліды, змайстраваў дзядуля Хведар, каб яна, маленькая, змагла прысесці і даць адпачынак ножкам, якія толькі-толькі пачалі хадзіць. На спінцы гэтага крэселка дзядуля выпаліў вензель, дзве літары "Л. Н." (Лідачка Нупрэйчык), і ўпрыгожыў гэтыя літары мудрагелістым узорам. Было ў мяху і люстэрка ў рамцы, якую таксама зрабіў дзядуля, і аздобіў яе ўсё тым жа вензелем. А яшчэ там была засаўка з глыбокімі зарубінамі і доўгі ключ з металічнаю крапелькай, што матлялася на ягоным канцы. Калісьці гэтая засаўка была прыбіта да дзвярэй у бабулінай хаце і, як жа яна, маленькая Лідачка, пакутавала, адчыняючы іх, таму што тая крапелька павінна была абавязкова патрапіць у зарубіну, толькі тады засаўка адсоўвалася, і гэта не заўсёды атрымлівалася ў Ліды. І бабуля смяялася з яе няўмельства, і прыгаворвала: "Як вырасцеш, я абавязкова аддам табе гэтую засаўку..." І вось аддала, — і засаўка, і ключ ляжаць у мяху ў вітальні, а бабулі няма ўжо. Пахавалі, паплакалі, і такі закон жыцця, закон прыроды. Ужо самім сваім нараджэннем чалавек асуджае сябе на смерць. І яна яшчэ падумала пра тое, што калі закончыцца адпачынак і яны вернуцца з Нарачы, дык папросіць мужа, каб прымацаваў тое люстэрка дзе-небудзь тут, на сцяне ў гэтым пакоі, а засаўку і ключ яны дзесьці прыладкуюць на кухні, і заснула ўжо, напэўна, глыбокай ноччу.

А раніцай яе пабудзіў званок. Хтосьці настойліва званіў у дзверы і гэта быў не Андрэй, пра якога было адразу падумалася. У яго не было звычкі прыязджаць да яе, калі яны папярэдне не дамаўляліся. Дык, можа, хто з суседзяў?! Адчыніла дзверы і не магла паверыць вачам: перад ёю стаяў чалавек у міліцэйскай форме. "Напэўна, памыліўся пад'ездам ці дзвярамі", — прамільгнула думка, а ўслых запыталася:

— Вам каго? Што здарылася?

— А гэта я павінен у вас запытацца, што тут адбылося?

І міліцыянер зайшоў у кватэру, і ўсё, пра што ён казаў пасля, Лідзе здалося неверагодным сном, сапраўдным абсурдам.

Яны ўжо стаялі ля таго самага акна, якое зачыніў скразняк учарашнім вечарам, і міліцыянер даводзіў ёй:

— Ну, а шпінгалет?! Вы ж самі бачыце, акно на шпінгалет зачынена. Дык што ж такое атрымліваецца? — пытаўся ён у яе. — Як гэта вы нават не падыходзілі да акна? Хто ж мог зачыніць яго?

І Ліда не ведала, што яму адказваць. Больш таго, яна ўсё яшчэ ніяк не магла паверыць у тое, пра што расказваў ёй гэты маладзенькі лейтэнанцік, ну, а шпінгалет...

— Ён сам саскочыў, — сказала Ліда. — Рама зачынілася з такім гучным трэскам, раптоўна... Я нават прыўзнялася з канапы, але, далібог жа, нічога не бачыла.

— Няпраўда! Быць такога не можа! — не верыў ёй міліцыянер. Ён разглядваў шпінгалет, зачыняў і расчыняў акно, выглядваў у двор. — Ну, няхай сабе вы ляжалі на канапе... А потым пабачылі рукі, хтосьці ўчапіўся за падаконнік. І вы ўсё зразумелі, і дзякуй Богу, не разгубіліся ў той момант. Ускочылі, падбеглі да акна і з размаху зачынілі раму! Смаркач і сарваўся... Ад болю разняў рукі... Ён сам усё расказаў доктару, нам і патэлефанавалі... Я ўжо быў у яго ў бальніцы, ён мне і адрас ваш назваў.

— Я не ведаю, што ён там расказваў, — адчайвалася Ліда, — але я сапраўды нічога не бачыла. Мяне хацелі абакрасці, да мяне ў акно лез нейкі падлетак, у кішэні ягонай курткі быў газавы пісталет, а я нават шоргату ніякага не чула? Не! Не! Акно зачынілася і ўсё! Я падумала пра скразняк.

І міліцыянер чамусьці зазлаваў.

— Я не разумею, чаго вы баіцеся? — не хаваў ён сваёй раздражнёнасці. — Ага-а, зачынілі акно! Ага-а, у хлопца пераломы! Дык вы ж бараніліся! Адно, вам трэба было ў той жа момант пазваніць у міліцыю. Тады яшчэ ноччу злавілі б і таго, другога, які, як толькі гэты сарваўся, адразу ўцёк. Дзе тут у вас можна сесці? — запытаўся ён. — Вам трэба напісаць заяву.

— Якую яшчэ заяву? — здзівілася Ліда.— Што я магу вам напісаць, калі я нічога не бачыла!

І міліцыянер махнуў рукой:

— Як хочаце! Я ўсяго толькі ўчастковы інспектар. Няхай з усім гэтым разбіраецца следства. А як вы думалі? — сказаў ён праз паўзу. — Вас абавязкова выклічуць, як пацярпелую.

І ўжо потым, калі міліцыянер пайшоў, Ліда думала: "А якая яна пацярпелая? Калі гэта сапраўды так было, дык пацярпелы той падлетак. Гэта ж ён ляжыць у бальніцы і ў яго нейкія там пераломы". І думкі перакідваліся на іншае: "Ну, а што было б, каб не той раптоўны скразняк?! Проста звар'яцець можна! Падлетак улез бы ў акно... Яна, вядома, крычала б, клікала б на дапамогу, усяляк баранілася б! Але калі ў яго быў газавы пісталет, ён, напэўна, страляў бы... І што пасля?! Яна ляжала б тут непрытомная. А калі прыйшла б да памяці, ці не магла б нават забіць. І з-за чаго? Што ў іх тут ёсць красці? Божачкі, у што ператварыўся гэты шалёны свет?!" І Ліда адчула сябе страшэнна няшчаснай: "Навошта толькі яна і ехала ў Мінск? Атрымліваецца, што ва ўсім вінаваты Андрэй. Калі б не гэтае спатканне, якое так і не адбылося, калі б яны не дамаўляліся, нічога б гэтага і не здарылася. І цяпер самае лепшае для яе — як мага хутчэй вярнуцца на Нарач. Там яна пра ўсё раскажа мужу..." Гэтыя ейныя думкі перапыніў тэлефонны званок. Ліда адразу вызначыла, што гэта быў "міжгорад", можа, якраз муж з сынам і звоніць ёй, але, падняла трубку, пазнала голас стрыечнага брата.

— Ну, што вы там, вярнуліся ўжо? — запытаўся Васіль. — Як адпачылі?

— Пеця з Міколкам яшчэ на Нарачы, — адказала Ліда. — А тут узніклі праблемы... Нас залілі, — дадала няўпэўнена. — Я таксама яшчэ вярнуся туды. Пуцёўкі ў нас да семнаццатага...

— Вунь як!.. А я быў у Мінску, — сказаў стрыечны. — Ты ж ведаеш. Добра, што якраз натрапіў на тваю суседку, вось і пакінуў мяшок. — Васіль памаўчаў. — Ну, дык што яна табе там напісала? Мне, прызнацца, надта ж хацелася разарваць канверт, але падумалі, што яшчэ нябожчыца крыўдаваць будзе. Начамі сніцца пачне.

— Які канверт? — не адразу зразумела Ліда.

— А, хіба ты не знайшла ліст, які напісала табе баба Маня? Мы яго адшукалі, і я паклаў яго ў мех, заткнуў за рамку люстэрка.

І Ліда адразу забылася на ўсё, што адбывалася гэтай раніцай: і на прыход міліцыянера, і на падлетка, які хацеў яе абакрасці, і на злашчаснае акно... "Сапраўды, што магла напісаць бабуля Маня ёй, Лідзе, у сваім апошнім лісце?!" Пра гэта думала Ліда неадноўчы адразу пасля пахавання. І вось той ліст знайшоўся, і ляжыць цяпер у мяшку ў вітальні, а яна ж учора й думала, што як толькі прачнецца, адразу разбярэ тыя рэчы. І Ліда пачала паспешліва развітвацца са стрыечным братам.

— Добра, Васіль.. Яшчэ сазвонімся. Я і не распакоўвала той мяшок. Не паспела... Пайду пагляджу, дзе там гэты ліст...

І адразу, як толькі паклала трубку, кінулася да мяшка. Хутка развязала шпагат, расхінула мех... Спінка крэселка з вензелем, нейкі пакунак (відаць, штосьці паклалі ёй сваякі ад сябе), а гэта, напэўна, і люстэрка, загорнутае ў хустку. Выцягнула яго, адкінула хустку і сэрца зашчымела. На канверце, заткнутым за рамку, было выведзена далёка не пісарскім бабуліным почыркам: "Унучцы Лідачцы". Разарвала канверт... бабуля пісала алоўкам, словы ледзь разбіраліся, але Ліда чытала:

"Дарагая мая ўнучачка, Лідачка! Напачатку, у першых сваіх слоўках хачу напісаць, што ты ў нас з Хведзечкам была першанькая, таму і самая любенькая. А пішу я табе з выпадку, пра які ты ўжо ведаеш, даражэнькая Лідачка. Табе ўсё расказалі. І ты павер мне, унучачка, прымі ўсё да душы сваёй. Я ўжо, залатая мая Лідачка, пабыла Там... І Архангелы прасветлыя мяне сустракалі, і Хведзечку свайго, а твайго дзеда, я бачыла, але і Там, Лідачка, бываюць памылкі. Мне яшчэ трэба было тыдзень пабыць тут, на зямельцы гэтай, і мяне Архангелы прасветлыя вярнулі назад. Але паспела я тое-сёе Там уведаць. Таму і пішу табе, Лідачка. Жыві спакойна, мая родная ўнучачка, радуйся жыццю свайму і нічога не бойся: ні чалавека паганага, ні звера, ні дурнога выпадку, — ліст затрапятаў у руках, на вочы навярнуліся пякучыя слёзы, Ліда чытала далей. — У цябе ад Бога ёсць заступнічак, ёсць твой абаронца, заўсёды верны табе, твой Анёл-Ахоўнік. Ён будзе весці цябе да самага канца твайго, і будзе прасціраць над табою сваю прасветлую даланю. Радуйся гэтай ласцы Божай, Лідачка, маліся Богу і свайму Анёлу-Ахоўніку, райся з ім, спадзявайся на яго, прасі ў яго рады і вер яму, ён — твой шчаслівы лёс, Лідачка.

А вось Генік наш, твой малодшанькі брат, унучачка, яшчэ пакуль не заслужыў жыццём сваім заступніка вернага. Малалетні ён, Лідачка, неразумны яшчэ. І вось пішу я табе, каб ты змагла неяк пад'ехаць да сваёй маці — маёй Надзечкі, мне самой не хочацца яе трывожыць, ты лепш ёй усё раскажаш. Дык скажы ёй, Лідачка, хай яна не адпускае Геніка на возера адзінаццатага ліпеня, таму што можа здарыцца бяда. Запомні гэты дзень, унучачка дарагая, — адзінаццатае ліпеня. Таго, хто беражэцца, і Бог беражэ. А па мне не плачце надта, як я ўзрадуюся Там Богу, гэтак вы тут узрадуйцеся жыццю свайму..."

Далей ішлі словы развітання, і Ліда вярнулася да пачатку ліста. Перачытала яго яшчэ раз: "...У цябе ад Бога ёсць заступнічак, ёсць твой абаронца, заўсёды верны табе твой Анёл-Ахоўнік". І адразу ж пасля гэтых слоў ёй успомніліся іншыя словы, якія яна пачула з гадзіну таму назад ад таго маладзенькага лейтэнанта міліцыі: "Вы ж самі бачыце, акно на шпінгалет зачынена. Дык што ж такое атрымліваецца? Як гэта вы нават не падыходзілі да акна? Хто ж мог яго зачыніць?!"

Думкі наскоквалі адна на адну, мяшаліся і хвалявалі яе надзвычай. Яна то перачытвала ліст, то згадвала тое акно... Ну, вядома, прабег раптоўны скразняк, але, калі паверыць бабуліным словам, дык ніякага скразняку і не было. Акно зачыніў ейны Анёл-Ахоўнік і гэта ўжо выглядае самай сапраўднай містыкай, ці наадварот, Лідзе суджана дакрануцца

(Працяг на стар. 12)

## Квартэт і гільдыя



**У шматграннай палітры канцэртнага жыцця Беларусі арганічнай з'явай становяцца выступленні выканаўцаў на трубе. Гэта — як вынік станаўлення, развіцця беларускай выканаўчай школы ігры на трубе, актыўнай творчай дзейнасці выдатнага музыканта, вядомага педагога, прафесара Беларускай акадэміі музыкі, кандыдата мастацтвазнаўства Мікалая Волкава. Вось і нядаўна ў Вялікай зале Акадэміі музыкі адбыўся канцэрт-прэзентацыя новага творчага калектыву трубачоў пад кіраўніцтвам М. Волкава.**

**Квартэт трубачоў Мікалая Волкава будзе працаваць пры Дзяржаўным канцэртным аркестры Беларусі, якім кіруе М. Фінберг. Новы творчы калектыў адразу зацікавіў слухачоў. На першы яго канцэрт сабраліся вядомыя музыканты, прафесары акадэміі, артысты аркестраў, студэнты, прадстаўнікі музычных навучальных устаноў з розных рэгіёнаў Беларусі. Але прымаўка: "Першы блін камяком" не спраўдзілася. Прыграма канцэрта атрымала высокую адзнаку спецыялістаў, слухачоў. Выступленне працягвалася амаль дзве гадзіны. Шчырасць і цеплыню надало тое, што імпрэзу вёў сам М. Волкаў. А прысвячалася яна аднаму з вядомых трубачоў — М. Юр'еву.**

**Удзельнікі квартэта, а гэта студэнты класа М. Волкава, лаўрэаты міжнародных, рэспубліканскіх конкурсаў, выступілі таксама з сольнай праграмай. Асаблівую цікавасць выклікала прэм'ера Канцэрта для 2-х труб Г. Гарэлавай "Троіцкія фрэскі". Значная частка апладысментаў дасталася аўтарцы, якая прысутнічала ў зале.**

**Вельмі прыемна, што канцэртная дзейнасць выканаўцаў-трубачоў, выхаванцаў М. Волкава, не замыкаецца ў межах сталіцы. З нязменным поспехам яны выступаюць у раённых і абласных цэнтрах Беларусі: Гомелі, Лідзе, Маладзечне, Віцебску, Наваполацку, Баранавічах, Магілёве.**

**І настаўнік, і яго вучні — у пастаянным творчым пошуку. Выхаванцы раз за разам дасягаюць поспехаў на міжнародных конкурсах; Мікалай Міхайлавіч актыўна спалучае творчую, педагагічную і грамадскую дзейнасць. Шмат гадоў кіруе кафедрай медных духавых інструментаў Беларускай акадэміі музыкі, удзельнічае ў працы журы міжнародных, міжрэспубліканскіх конкурсаў, актыўны дарадчык і дапаможца выкладчыкам музычных вучылішчаў, ініцыятар стварэння новай выканаўчай суполкі трубачоў.**

**На адным з канцэртаў класа М. Волкава, дзе прысутнічалі прадстаўнікі рэгіёнаў Беларусі, педагогі, выканаўцы, артысты аркестраў, адбылося арганізацыйнае пасяджэнне ініцыятыўнай групы па стварэнні Беларускай гільдыі трубачоў. Абмеркаваўшы праект статута, удзельнікі пасяджэння аднагалосна абралі М. Волкава прэзідэнтам Беларускай гільдыі трубачоў, якая ўвайшла ў склад нашага Саюза музычных дзеячаў.**

**Асноўным напрамкам дзейнасці гільдыі будзе садзейнічанне станаўленню і развіццю беларускай школы ігры на трубе, развіццю і ўдасканаленню прафесійнай адукацыі педагогаў і выканаўцаў. Дзейнасць гільдыі паспрыяе развіццю міжнародных сувязяў беларускіх педагогаў і выканаўцаў на трубе, інтэграцыі беларускай школы ігры на трубе ў еўрапейскае і сусветнае культурнае і адукацыйнае супольніцтва. Ужо распрацаваны шэраг мерапрыемстваў, актыўную асветніцкую працу пачалі выхаванцы прафесара М. Волкава.**

**К. СЦЯПАНАЎ**

*На здымку: клас прафесара М. ВОЛКАВА (у цэнтры) пасля канцэрта.*
*Фота А. ПРУПАСА*

# Пасланцам лёсу — вечная ўдзячнасць

*(Працяг. Пачатак на стар. 1)*

Ніколі не сніла, не гадала, не думала, што пра гэтых людзей мне давядзецца расказваць маім маладзейшым калегам у тэатры і тым нашым сталым прыхільнікам, якія і самі, здаецца, ведаюць пра нас, акцёраў, усю "паднаготную". Аднак жа прыпадае сотая гадавіна! Ажно сотая...

Красавіцкі каляндар адзначае сотую гадавіну нараджэння выдатнай актрысы Лідзіі Ржэцкай і слыннага рэжысёра Льва Літвінава. О, гэтыя творчыя рабацягі пакінулі бліскучы след у гісторыі нашага Купалаўскага тэатра!

Бліскучы... Вось так, бывае, гавораць пра сцэнічнае мастацтва, калі прыгадваюць поспех і арыгінальнае ўвасабленне вобраза альбо цэлы спектакль з іскрамётным ансамблем выканаўцаў роляў. А тое бліснула — і знікла. Няма ніякага матэрыяльнага "следу".

Ну які аповед сведкі і нават удзельніка спектакля "Паўлінка" таго часу, калі ён заваёўваў сімпатыі самых строгіх нашых суддзяў з навостраным крытычным пяром і ўзрушаных маляўнічасцю "Паўлінкі" гледачоў... Якімі словамі перадаць непаўторнае хараство мастацтва, якім адорвалі нас У. Дзядзюшка з Л. Ржэцкай, Г. Глебаў з В. Полай, Р. Кашэльнікава з Б. Платонавым? Можа, хто з тэатразнаўцаў і асмеліцца сцвярджаць, быццам такія словы ёсць, і яны, тэатразнаўцы, іх ведаюць, але... Паспрабуйце пераказаць гэтую дзіўную і па-мастацку дзівосную ці то бясконцую спрэчку-сварку, ці то хітравата замаскаваную буркатлівай лаянкай гульню даволі немаладой пары, гэткую сямейную забаву нібыта крыўдлівых скандалістаў — Пранцыся і Агаты Пустарэвічаў, якімі іх выводзілі на падмосткі Г. Глебаў і В. Пола!

Чамусьці смех браў ужо тады, калі Пранцысь пачынаў звягаць пра кабылу, якая недзе заблудзіла, і таму вось спазненне, а жонка вішчыць: "Якое чорта заблудзіла!.. Аб'ехаў, тудэма-сюдэма, усю аколіцу, як пагарэлец, дык і поўнач чуць не агарнула..." Быццам нудны працяг дакучлівай сваркі. Толькі вось нешта лагоднае працінае той дураслівы абмен кпінамі ды насмешкамі паміж мужам і жонкай.

А як Пустарэвіч і Сцяпан Крыніцкі выдавалі кампліменты сваім жонкам! Я дасюль чую тыя інтанацыі, з якімі У. Дзядзюшка і Г. Глебаў, ледзь паспеўшы перавесці дух пасля віхурнай лявоніхі, робяць выгляд, што іхнія кабеты яшчэ "Ага-го!", каго хочаш ператанчаць! Адзін прызнаецца, што сваццця дала яму ў танцах дыхту, аж лыткі трасуцца, а другі не адстае ад прыяцеля і нахвальвае ягоную жонку: "І твая, каханенькі-родненькі, не адстала — аж дыхавіцу чуць мне не нагнала".

Зноў жа нейкая пералівістая ў голасе заўвага Агаты, што абодва яны, мужыкі, гэтак падлашчваюцца да жонак, а самі — ну чыста кавалёвы мяхі. Лагодная Альжбета Л. Ржэцкай удакладняе: "А праўда, сваццейка, праўда. Ім толькі каля пляшкі круціцца, а не з дарэчнымі жанкамі лявоніху ісці". І столькі ў гэтай свойскай з жартаўлівымі нотамі лаянцы нечага па-чалавечы спагадлівага, па-сямейнаму звыклага і сапраўды жыццёвага, што і самі вобразы, створаныя Л. Ржэцкай, В. Пола, У. Дзядзюшкам. Г. Глебавым, успрымаліся камедыйна смешнымі і надта па-сялянску натуральнымі. Не было ў тых вобразах адназначнасці. Бо чалавек, на якой прыступцы іерархічнай лесвіцы ён ні стаяў бы, бывае куды больш складаным і супярэчлівым у праявах сваіх пачуццяў і настрою, чым гэта нам бачыцца і чуецца.

Такое тлумачэнне дыктавалася выканаўцам роляў і рэжысурай. Памятаю адну заўвагу пастаноўшчыка камедыі "Паўлінка" Л. Літвінава падчас заняткаў у студыі тэатра, дзе вучылася і я. Ён уводзіў нас у спектакль у якасці гасцей на вечарынцы ў Крыніцкіх. І падкрэсліваў, што Янка Купала, як выдатны мастак, у сваіх камічных вобразах звычайных вяскоўцаў паказвае адну распаўсюджаную чалавечую слабасць наогул: большасць людзей, амаль кожны з нас, часта бывае незадаволены сваім лёсам, затое самазадаволена ўпіваецца, бывае, уласным розумам. Які прыемны самападман! Да таго ж дазваляе табе цухмоліць і яхіднічаць з чужых памылак і чужой ганьбы.

Калі я цяпер успамінаю ўрокі тэатральнага педагога Л. Літвінава, дык перада мной паўстаюць не асобныя яго рэжысёрскія паказы таго, якім чынам **т о е** робіцца — твая роля, твой сцэнічны вобраз, і як табе трэба павярнуцца альбо паглядзець... вытрымаць паўзу ці плячыма выказаць усю пагарду да партнёра... І гэта Л. Літвінаў рабіў адмыслова. Яго паказы былі яркімі, уражлівымі і, вядома, павучальнымі для ўсіх студыйцаў. Але самае большае ўражанне рабілі на нас ягоныя разважанні пра постаці, пра характары, тыпы людзей, вобразы якіх нам трэба будзе выводзіць на сцэну. Рабіць чужое аблічча і фігуру, нават чужы духоўны свет са сваёй уласнай індывідуальнасці.



*"Паўлінка". Л. Ржэцкая ў ролі Альжбеты, П. Кармунін у ролі Сцяпана Крыніцкага.*



*"На Купалле". У ролі Ганначкі, 1921 г.*



*У час перапынку спектакля "Хто смяецца апошнім" да артыстаў Л. Ржэцкай і Л. Рахленкі падышоў К. Крапіва.*

Мушу прызнацца, што сутнасць сучаснай рэжысуры як спецыфічнага мастацтва для мяне шмат у чым праяснела якраз на ўроках і рэпетыцыях Льва Маркавіча. Ды і ўсе нашы студыйцы — Барыс і Галіна Уладамірскія, М. Зінкевіч, У. Кудрэвіч, Я. Кавалёва, Т. Кін-Камінскі, В. Краўчанка — адчувалі, што літвінаўскія гутаркі з намі маюць яшчэ нейкія, не адно толькі тэатральныя намеры і мэты. Разам з іншымі педагогамі ён выхоўваў нас вартымі таго **купалаўцамі**. Не сакрэт, што мы, супрацоўнікі Нацыянальнага акадэмічнага тэатра імя Янкі Купалы, асабліва цэнім гэтую, для нас найвышэйшую годнасць: ты — купалавец. Тое азначае такую адданасць сваёй прафесіі, якой жылі і якую дэманстравалі Л. Ржэцкая і І. Ждановіч, В. Галіна і К. Міронава, У. Крыловіч і Г. Грыгоніс, У. Уладамірскі, Б. Платонаў...

Я памятаю ўсіх нашых вялікіх папярэднікаў яшчэ з тае пары, калі дзяўчынкай любіла купляць на рагу Садовай вуліцы ля Свіслачы марожанае з вафлямі, на клеткавым адбітку якіх выпіналіся дзявочыя ды хлапечыя імёны. Мы падлеткамі-падшыванцамі выбіралі сабе хобі. Хто збіраў паштовыя маркі, хто захапляўся канькабежным спортам, каму даражэй за ўсё было пагуляць у "фанты" альбо прабрацца на танцпляцоўку ў парку, які паранейшаму называлі Губернатарскім (цяпер імя М. Горкага), і там далучацца да звабнага дарослага фліртавання пад мелодыю танга альбо факстроту. Я была заўзятай тэатралкай. Заўважыўшы дзесь на скверы ля фантана "Лебедзь і Амур" постаць Лідзіі Іванаўны Ржэцкай, магла неўпрыкмет для яе крочыць следам за гэтай прыгожай дамай у капялюшыку з цёмнай ніцяной вуаллю, з-пад якой агністымі вугельчыкамі ззялі яе... боскай міласцю актрысы... вочы. Якімі пераменлівымі былі яны там, у тэатры, на падмостках, асветленых прамяністай рампай, калі яна, зусім непазнавальная ў першую хвіліну, паўставала перад намі ў новай ролі!

Назаўжды ўрэзалася ў памяць, здаецца, першая сустрэча з гэтай актрысай. Ды ці дзіва тое! Я глядзела, далёка не ўсё разумеючы ў складаных зносінах між персанажамі драмы "Канец дружбы" К. Крапівы. У спектаклі паўставалі жывыя людзі. І ў нечым незвычайныя. Сярод іх дзве постаці прымушалі мяне неадрыўна сачыць за кожным рухам, жэстам, словам — гэта Наталля Мікалаеўна і Юрка. Жонка і сын аднаго з герояў спектакля пра франтавых сяброў, адзін з якіх ператвараецца ледзь не ў ашалелага кар'ерыста і губляе права на ранейшае сяброўства з выратаваным ім жа баявым паплечнікам.

Спектакль ставілі рэжысёры Л. Літвінаў і Л. Рахленка. Не ведаю, на што яны арыентавалі актрыс, але гэтыя два характары — жонка і сын аднаго з герояў — атрымліваліся вельмі маляўнічымі. Мая любімая Ірына Фларыянаўна Ждановіч тады яшчэ іграла ролі травесці. Хлопчыкі і дзяўчаткі ў яе сцэнічным увасабленні здзіўлялі сваім падабенствам да самых сапраўдных, жывых у тэатральнакаларытнай абмалёўцы і з дзівосна-выразнай інтанацыяй. Юрка Лютынскі быў напраўду хлапчанём. Гарэзлівым і дасціпным. Чулы да тае бяды, якая пераступае парог іхняга дома, ён балюча перажывае холад адчужэння, які агортвае і дарослых сяброў, і яго маці з мужам. Памятаю, нехта з рэцэнзентаў (здаецца, Барыс Мікуліч) так і напісаў у газеце пра Юрку Лютынскага ў спектаклі Першага БДТ: "Адным словам — здорава!" І я паўтарала: "Здорава, Ірына Фларыянаўна!"

І пляскала ў ладкі на галёрцы тэатра ёй і Лідзіі Ржэцкай. Жывым партрэтам жонкі і маці паўставала ў яе Наталля Лютынская. Актрыса злівалася з роляй так, што мне тады здавалася, быццам К. Крапіве не трэба было пісаць аніякага тэксту для яе. Скажы

актрысе, які духоўны свет жанчыны маецца на ўвазе і ў якіх варунках яна адстойвае годнасць сям'і, і Л. Ржэцкая загаворыць шчырымі словамі ад сэрца. Тымі, што дыктуюцца нашаму сэрцу ў пакутах, даюцца нам цаной цярпення і ўсялякіх зняваг. Мяне здзіўляла акцёрская стрыманасць Л. Ржэцкай. Здавалася, яе гераіня даўно зведала, што мудрасць маці і жонкі — ва ўменні прыглушаць свае страсці, абурэнне гэта альбо агіда, крыўда альбо самота.

Колькі роляў было на творчым рахунку Л. Ржэцкай, адказаць не бяруся. Здаецца, яна заўсёды была занятай у рэпертуары. І сярод роляў, якія актрыса іграла з поўным паглыбленнем у адметны характар свайго персанажа, вылучаюцца, бы зіхатлівыя паднябесныя вяршыні горнага хрыбта, сама больш цікавыя ёй асабіста і прыдатныя яе таленту. Хоць наўрад ці правільна называць іх прыдатнымі, бо яна ўмела зрабіць прыдатнай кожную, калі згаджалася іграць прапанаванае ёй.

Колькі слёз я праліла, калі глядзела яе ў ролі актрысы Кручынінай у "Без віны вінаватых" А. Астроўскага! Прабіралася ў тэатр на сваю галёрку кожны вечар падчас вясновых вакацый 1938 года. І кожны раз, калі яе Алена Кручыніна казала неяк задуменна і важка: "Я ведаю, што ў людзях ёсць многа высакародства, шмат сардэчнасці, самаахвярнасці... асабліва ў жанчынах", — мне хацелася шчыра апладзіраваць ёй. Так гэта было натуральна падведзена ад прыватнага лёсу правінцыйнай актрысы да высновы вялікага гуманнага гучання. "Асабліва ў жанчынах..." Вядома, што ў пятнаццаць гадоў ты па-дзявочы ўжо задумваешся аб сваім прызванні і сваім прызначэнні ў гэтым свеце, і тэатр такімі момантамі эмацыйнага азарэння нібы запальвае ў тваёй душы іскру спагадлівага і жыццядзейнага пачуцця.

Праз трыццаць, здаецца, гадоў, я, ужо актрыса і партнёр Л. Ржэцкай па многіх спектаклях, гляджу зноў "Без віны вінаватых". Новая рэжысёрская рэдакцыя, новыя выканаўцы роляў. І Лідзія Іванаўна на гэты раз не сатканая з тонкіх мастацкіх і пачуццёвых адценняў актрыса Кручыніна, а балбатлівая жабрачка Галчыха — тая кабеціна, да якой трапіў немаўляткам сын Кручынінай, і яна ці то хоча трохі нажыцца, ці то на старасці гадоў зірнуць у вочы праслаўленай багацейкі, пра страшны грэх якой у маладыя гады яна, Галчыха, можа быць, адзіная ва ўсім свеце — ведае... А мо ўвогуле старая трызніць, вярзе лухту, выпадковымі супадзеннямі існага з прывідным міжволі бянтэжыць заезджую славутасць, — адразу цяжка зразумець. То яна дзяцінее, то быццам упадае ў самнамбулічны сон, але штось ажывае ў яе памяці. Ажывае мінулае так, быццам сівая гувернантка перажыла тое ўчора і чула, як маленечкі Грышуня клікаў "Мама, мама!" і ручкі кудысь цягнуў...

Якая трапная акцёрская дэталь! Галчыха Л. Ржэцкай сама цягнула рукі да стала са шкатулкай Кручынінай. А як жа! Калі ты саграшыла і кінула свайго Грышуню на рукі беспрытульнай няньکі, дык жа хоць цяпер аплаці рахунак, разлічыся з пазыкамі. Сапраўды, які драматычны лёс тае Галчыхі! Вымушаная, хай сабе і за грошы, але толькі тое і рабіць у жыцці, што зберагаць чужых дзяцей-падкідышаў, паіць і карміць, першым словам іх вучыць, першыя крокі падтрымліваць... Ад такога і сап'ешся ды пойдзеш пабірацца па людзях, а там — глядзі ты на яе! — у шыкоўным нумары гатэля напаткаеш расчуленую грэшніцу, якую мучыць сумленне, ну і загаворыш пра тое, чаго яна чакае ад цябе. Ды і падкідыш... Як яго? Грышуня... Ага, здаецца, памятаю...

Складаную гаму перажыванняў старой кабеты ў даволі разгубленым стане, калі сама яна не ведае, дзе праўда, а дзе нейкае насланнё, і як ёй трэба трымацца перад самавітай заплаканай вялікасвецкай дамай, выводзіла Л. Ржэцкая ў спектаклі, відаць, памятаючы, чым яна сама жыла, калі выступала ў ролі Алены Кручынінай больш як трыццаць гадоў таму.

Жаночую натуру яна раскрывала са шмат якіх бакоў, — натуру, якая ці то раней, ці то на нашых вачах, на працягу спектакля, пакутліва альбо раптоўна пранікала розумам у цьмяныя праблескі сваіх надзей і ў незразумелыя для яе сэрца прадчуванні і сумневы. Такімі былі, як мы ў тэатры лічым, класічныя акцёрскія работы першай сярод драматычных актрыс Беларусі народнай артысткі СССР Лідзіі Ржэцкай — цёця Каця ("Хто смяецца апошнім" К. Крапівы), Марфа Касьянаўна ("У мяцеліцу" Л. Ляонава), Мурзавецкая, Домна Панцялееўна, Кукушкіна ("Ваўкі і авечкі", "Таленты і прыхільнікі", "На ўсялякага мудраца хапае прастаты" А. Астроўскага), візіцёрка Сакалова ("Апошнія" М. Горкага), Каспарыха ("Салавей" паводле Зм. Бядулі), Ламбрына Кір'якуля ("Востраў Афрадзіты" А. Парніса) і памянёныя мной раней... Пералік іх мог быць даўжэйшым. Яна проста не ўмела рабіць абы-як справу, за якую бралася.

Для нас жа, яе калег і сяброў, яна была роднай цётухнай Лідай. Сагрэе цябе спагадлівым словам. Падкажа, дзе ты памыляешся і што робіш правільна ("Замацуй, Ляля, гэты жэст з аголенай да пляча рукой!"). Абароніць ад наскокаў зласліўца. Расстараецца патрэбнымі табе рэдкаснымі лекамі. Выб'е аднапакаёўку для бескватэрнага бядотніка. Згодзіцца быць хроснай твайго дзіцяці.

Вялікай душы Жанчына! Вялікага мастацкага таленту Актрыса!

Маім хросным па сцэне лічу Льва Маркавіча Літвінава. Сваю першую прыкметную ролю Любкі Шаўцовай у інсцэніраванай версіі рамана "Маладая гвардыя" А. Фадзеева я рыхтавала пад ягоным кіраўніцтвам і наглядам. Першай выканаўцай прызначана была Р. Кашэльнікава, якую жартаўнік У. Дзядзюшка называў "масцітай актрысай" або "гераіняй на ўсе часы". Ёй і карты ў рукі: іграй прэм'еру. Не ведаю, чаму і з якой нагоды, толькі напярэдадні першага спектакля раптоўна паведамляюць: Любку іграе Рынковіч. Я да Льва Маркавіча. Як жа так: у мяне і рэпетыцый было меней, а Раіса Мікалаеўна заслужана шанаваная і вопытная. Што людзі скажуць?! Вось тады ён мне і кажа: маўляў, запомніце, Ляля, вопыт — гэта ліхтар на карме карабля і асвятляе ён толькі пройдзеную пуцявіну.

Вядома, ён як рэжысёр рызыкаваў, калі загадваў, каб тое малада-зелена сабралося ў творчую ролю і на залітай агнямі сцэне выплюхнула ўсё, на што здатнае і чаму навучылася ў студыі і на рэпетыцыях. Відаць, спадзяваўся, што ўзрушэнне й хваляванне дэбютанткі арганічна спляцецца з нервам маладой гераіні спектакля. Гэта смелы ўчынак рэжысёра Л. Літвінава. І амаль у кожнай сваёй новай працы руплівы вынаходца прапаноўваў нязвыклыя рашэнні, нетрафарэтныя хады, рабіў эксперыменты, якія далёка не ўсім (нават і ў нашым акцёрскім асяроддзі) былі даспадобы.

Мабыць, правільна адзін з крытыкаў характарызаваў творчасць Л. Літвінава як "рэжысуру складанай пастановачнай палітры". І не толькі таму, што ён з вялікім густам камбінаваў на драматычнай сцэне слова і музыку, пластыку і інтэрмедыі, светлавыя эфекты і метафарычнасць дэкарацыйнага афармлення, маляўнічую касцюміроўку і далікатную дэталізацыю паводзінаў артыста на сцэне. Падрабязнасці — дарэчнай і своечасовай — ён надаваў самае вялікае значэнне. Ты пачула штосьці ад партнёра, дык не спяшайся адказваць, бо ў нас заўсёды бывае хвіліна альбо імгненне ваганняў: мы не ведаем, як лепей зрабіць, каб не пагоршыць і без таго складаныя дачыненні.

Яшчэ ён вучыў нас, вучыў мяне, у прыватнасці, не затушоўваць некаторыя істотныя праявы чалавечага нораву. Ну нам жа вельмі цяжка адказваць сардэчнай дабрынёй і спагадліва думаць пра таго, хто прыніжае або прыгнятае нас, аднак мы з прыемнасцю даруем заганы і недахопы тым, хто здаецца нам шчырым прыхільнікам і добразычліўцам. Сапраўды, мы падзяляем добрыя пачуцці, а ўсе іншыя, якімі б прыхарошанымі яны ні былі, на нас мала ўздзейнічаюць. Вачыма штось бачым, а сэрца маўчыць. Сэрца маўчыць, дык і вочы адварочваюцца кудысьці ўбок.

Гэта тактоўна ўнушалася мне надзвычай пранікліва настаўнікам-рэжысёрам, калі мы разам з ім шукалі аблічча і псіхалагічны стан гераіні пры кожнай, самай драбнюткай змене яе настрою — той жа Любкі Шаўцовай або Людмілы ў "Позні каханні" А. Астроўскага. Колькі разоў перайначвалі інтанацыю аднаго толькі сказа, каб і на макава зерне не было ў маім голасе прыкрага дэкларацыйнага, напышлівага, урачыстага! Я дасюль памятаю, колькі біліся мы над тым, каб натуральна і шчыра мая Людміла вымаўляла самае запаветнае: "Я не ўмею жыць дзеля сябе, у тым толькі і шчасце, калі жывеш дзеля іншых". Глыбокі сэнс не мае патрэбы бліщчаць, а ў Людмілінім прызнанні — сэнс яе жыцця.

І так пранікліва, скрупулёзна Леў Маркавіч працаваў з артыстам і сцэнографам, з касцюмерам, музыкам, бутафорам і шумавіком, — з усімі стваральнікамі ансамблевага відовішча. Што маецца на ўвазе, калі гаворыцца пра ансамбль тэатральнага відовішча? Лепш за ўсё зноў паглядзець непрадузятым вокам і ўслухацца ў нашу "Паўлінку", якую Л. Літвінаў, як усе ведаюць, паставіў у ваенны час, калі тэатр ва ўмовах эвакуацыі працаваў у Сібіры.

Было гэта ў траўні 44-га. Такі моцны і каларытны зарад творчай энергіі закладзены ў спектакль, які жыве на сцэне пяцьдзесят пяць гадоў, што большага доказу хараства і майстэрскай адмысловасці рэжысуры Л. Літвінава не можа быць. Хоць з цягам часу ён тое-сёе і страціў у параўнанні з тым першатворным ансамблем, пра які я прыгадвала ўжо. І ў ім, у гэтым сузор'і зорак нашай сцэны першай велічыні, ярка ззяў сонечны талент — Лідзія Ржэцкая.

Такія яны былі, нашы сёлетнія стогадовыя юбіляры, якім мы адрасуем нашу пашану і ўдзячнасць.

**Алена РЫНКОВІЧ,**
**заслужаная артыстка Беларусі**

*Фота Ул. КРУКА*

ЮБІЛЕЙ

# Тут музыцы ўтульна...

Шмат напісана-сказана пра тое, які гэта край — Піншчына: самабытны, загадкавы, на таленты шчодры, на песні багаты. Этнамузыколагі ў захапленні ад тутэйшага фальклору. Здавалася б, што можа дадаць да гэтага захаплення чалавек, якому не выпадала пабываць у фальклорнай экспедыцыі на Палессі, які толькі аднойчы наведаўся ў Пінск? Уявіце сабе, такі чалавек можа захапіцца не менш. Прынамсі, са мною гэта і здарылася, калі ўпершыню сёлетняй зімой пабачыўшы "палескую сталіцу", я была ўражаная грунтоўнымі мастацкімі традыцыямі пінчукоў.

Творчы дух — істота няўрымслівая, і ў гэтым непаўторным горадзе ён знаходзіць самыя розныя ўтульныя для сябе куткі. Таму тут — сур'ёзная і перспектыўная школа харэаграфіі; таму тут у касцёле францысканцаў захаваўся адзін з лепшых старадаўніх арганаў Еўропы; таму тут далі новае жыццё занядбанаму храму эпохі барока, ператварыўшы яго ў гарадскую канцэртную залу. І, напэўна, невыпадкова менавіта пінскім ліцейшчыкам даверылі выкананне унікальнага заказу: выраб журботных званоў для Хатынскага мемарыяла...

Вось і музычная школа тут незвычайная. Мае знаёмцы проста здзіўляюцца, калі кажу, што ў Пінскай ДМШ N 1 сёння 860 навучэнцаў! Ёсць вячэрняе, падрыхтоўчае аддзяленні, эстэтычны цэнтр. Навучанне па 17-ці спецыяльнасцях вядуць больш як сто педагогаў, сярод якіх ёсць прафесійнікі высокай кваліфікацыі, з багатым выкладчыцкім стажам, узнагароджаныя за сваю працу дыпломамі, граматамі. Як сведчыць статыстыка, з трох тысяч выпускнікоў каля сямісот прадоўжылі сваю музычную адукацыю. (Да слова: у Пінскай ДМШ N 1 сталыя сувязі з Брэсцкім музычным каледжам). На фоне размоў пра сённяшнія праблемы ў развіцці гэтай сферы, пра зніжэнне прэстыжнасці заняткаў музыкай, пра скарачэнне набору ў ДМШ і вучэльні сітуацыя ў "палескай сталіцы" падаецца сапраўды фенаменальнай! Да ўсяго, восем гадоў таму тут адкрылі ДМШ N 2, навучанне ў якой арыентуецца пераважна на падрыхтоўку юных музыкаў-духавікоў...

А ДМШ N 1 спраўляе сёлета сваё 60-годдзе. Ужо са студзеня тут ідзе юбілейны фестываль, і яго канцэрты атрымліваюцца вельмі разнастайнымі, бо школа ахоплівае ўсе жанры музычнага мастацтва: акадэмічныя, народныя, эстрадныя. Шэсць выканаўчых калектываў маюць званні "ўзорны" або "народны" — гэта паказчык пэўнага прафесійнага ўзроўню, майстэрства. Сярод іх — дзіцячы цымбальны аркестр, і камерны, і духавы; і аркестр народны, у складзе якога граюць выкладчыкі. Лепшыя калектывы вядуць актыўнае гастрольнае жыццё, вылучаюцца на фестывалях і аглядах-конкурсах. І, вядома, дабратворна ўплываюць на "духоўную аўру" роднага горада.

Дарэчы, Тамара Мікалаеўна Лазіцкая, начальнік аддзела культуры гарвыканкама, паведаміла мне, што ажыўленне канцэртнага жыцця ў Пінску — шмат у чым заслуга ініцыятыўнага дырэктара ДМШ N 1 Іосіфа Аляксандравіча Чаркаса. Выканаўчыя калектывы школы, якой ён кіруе, энтузіясты-выкладчыкі — гэта сапраўдны музычны актыў.

Цымбалісты пад кіраўніцтвам Т. Зубко, юныя аркестранты-духавікі на чале з П. Салаванюком, струннікі са сваёй кіраўніцай І. Філіпчук, выхаванцы эстраднай студыі А. Венгера, маленькія спевакі, з якімі займаецца Л. Праскурніна... Доўгі атрымаецца пералік, калі назваць усіх навучэнцаў, настаўнікаў, выпускнікоў, што спрычыняюцца да свята роднай школы! Фестываль, прысвечаны яе 60-годдзю, працягваецца. Кульмінацыйнай станецца імпрэза, прызначаная на 14 мая. Будзе нямала гасцей. Будзе багата кветак, цёплых слоў. І — музыкі...

**С. БЕРАСЦЕНЬ**



*Лаўрэат міжнароднага конкурсу выканаўцаў на народных інструментах "Пралескі" Алена КАЗЛОВА.*



*Дзіцячы ўзорны камерны аркестр (кіраўнік Ірына ФІЛІПЧУК).*





## *Кніжны форум у Варшаве*

**З 13 па 17 мая ў Варшаве адбудзецца Міжнародны кніжны кірмаш. Нягледзячы на складаную эканамічную сітуацыю, Беларусь будзе браць у ім удзел. І не толькі з мэтамі камерцыйнымі, а найперш — дзеля пашырэння прасторы распаўсюджвання беларускай кнігі. Дарэчы, высокая якасць выдання нашых кніг дазваляе не толькі браць удзел у сусветных кніжных форумах, але і спаборнічаць там з вядучымі еўрапейскімі выдавецтвамі. Калі меркаваць па выніках VI Мінскага міжнароднага кірмашу, што праводзіўся ў лютым, а таксама па выніках выстаўкі "Беларуская кніга-98" (сакавік месяц), трэба чакаць, што стэнд нашай краіны будзе прадстаўлены ў Варшаве на належным узроўні.**

**Р. АЛЕНІНА**

## *Сведкі вайны не маўчаць*

**На шырокавядомую кнігу А. Адамовіча, Я. Брыля і У. Калесніка "Я з вогненнай вёскі" арыентаваліся старшыня Брэсцкай абласной арганізацыі непаўналетніх вязняў фашызму Пятро Салоха і яе актывіст, пісьменнік Аляксей Філатаў, збіраючы людскія ўспаміны пра зверствы гітлераўцаў падчас другой сусветнай вайны. Героі новай дакументальнай кнігі, якая выйшла ў Брэсцкім выдавецтве С. Лаўрова пад назваю "Асколкі болю", — сведкі глумлення і здзекаў, што чыніліся над дзецьмі ў фашысцкіх канцлагерах.**

**Нялёгкія ўмовы ўтрымання непаўналетніх вязняў, непасільная праца, голад, хваробы, медыцынскія "эксперыменты" эсэсаўскіх дактароў і, як вынік, чыгуначныя калейкі да газавых печаў — усё гэта ажывае на старонках кнігі. Больш за 20 яе аўтараў і сёння не перастаюць здзіўляцца, якім цудам яны ацалелі ў тых умовах.**

**"Страшную, горкую праўду гавораць іхнія вусны, вера ў непераможнасць чалавечага духу адчуваецца ў гэтай праўдзе", — напісана ў прадмове.**

**Дарэчы, змешчаны ў кнізе не толькі дакументальныя, а і дакументальна-мастацкія творы — аповесць Аляксея Філатава, вершы Сяргея Дзерышава і іншых былых вязняў. Каб ведалі, каб помнілі, каб не дапусцілі — такі наказ адрасуюць чытачам, найперш юнакам і дзяўчатам, аўтары.**

**Шкада толькі, што з-за нястачы сродкаў кніжка выйшла невялікім накладам — усяго ў 300 асобнікаў, і наўрад ці будзе даступнай для чытачоў іншых абласцей Беларусі. Застаецца спадзявацца на яе працяг. Тым болей, што ў рэспубліцы жывуць сотні і тысячы былых непаўналетніх вязняў фашызму. Грошы для публікацыі іхніх успамінаў павінны знайсціся!**

**Сымон АКСЕНІН**

*г. Брэст*

## *Паэт дома — не госць!*

**У Рэчыцкім раёне Віктар Ярац свой чалавек (нарадзіўся паэт у вёсцы Красны Мост). Яго ведаюць тут не толькі як клапатлівага сына, які і з касой паветра не ганяе і за плужком прабяжыць на матчыных сотках, а і — чым асабліва ганарацца землякі! — як таленавітага паэта і навукоўца. Ён — кандыдат навук, выкладчык ГДУ імя Ф. Скарыны, часта выступае ў друку як крытык і літаратуразнаўца. Менавіта навуковая дзейнасць В. Яраца і стала прычынай таго, што ў Левашоўскім СДК сабраліся яго землякі на творчы вечар: рашэннем Гомельскай абласной пісьменніцкай арганізацыі і Рэчыцкага гарвыканкама ўстаноўлена штогадовая літаратурная прэмія імя М. Доўнар-Запольскага, якую пад воплескі вяскоўцаў і ўручыў яму старшыня гарвыканкама М. Заразака.**

**А потым прагучала літаратурна-мастацкая кампазіцыя, падрыхтаваная калектывам цэнтральнай раённай бібліятэчнай сістэмы. Пра свае творчыя планы расказаў і Віктар Ярац. Не абышлося, вядома ж, і без вершаў. Акрамя Віктара, іх прачытаў яго сябра, гомельскі паэт Мікола Літвінаў. Сакратар Гомельскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Васіль Ткачоў прачытаў гумарыстычныя творы.**

**Калектыў мастацкай самадзейнасці Левашоўскага СДК выступіў з канцэртам.**

**Ігар ЛЯСНЫ**

"ЛіМ"—ФОТА



*"Самая цудоўная, самая міжнародная музыка — дзіцячы смех..."*

Янка Брыль, Нарач, 1955 год...
*Фота Ул. КРУКА*

# АНЁЛ-АХОЎНІК

*(Працяг. Пачатак на стар. 9)*

да нейкай вялікай таямніцы, якая не кожнаму і прыадкрываецца. Не... Ліда неаднойчы чула ад бабулі і пра Арханге лаў прасветлых, якія калісьці будуць яе сустракаць на нябёсах, і пра тое, што дзесьці Там... некалі бабулю сустрэне дзед Хведар, які памёр гадоў пятнаццаць таму назад. Мясцовы фельчар сказаў, што ў бабулі было кароткае летаргічнае забыццё, і падчас гэтага забыцця ёй магло штосьці такое трызніцца, вось яна і напісала Лідзе... А шпінгалет сам саскочыў ад моцнага ўдару рамы.

І Ліда падышла да таго акна, расчыніла яго, падняла шпінгалет, і з сілаю зачыніла раму. Шпінгалет не саскочыў уніз. Ён, увогуле, быў даволі тугім, значыцца, ён і вечарам не мог саскочыць сам па сабе. Яна затаіла дыханне... Тады атрымліваецца, што ў яе сапраўды ёсць Анёл-Ахоўнік. У такім разе і тое, што піша бабуля пра Геніка, таксама можа быць праўдаю. Дык чаго ж яна марудзіць?! Ёй трэба сабрацца і ехаць да маці. Гэта ж зусім недалёка ад Мінска. За паўтары гадзіны яна даедзе да гарадскога пасёлка, а там нейкіх восем кіламетраў да іхняй Ніцаўкі. І ўжо дзесьці ля абеду яна будзе ў бацькоў. Маці сама прачытае гэты бабулін ліст, яна ж так шкадавала тады, што яго ніяк не маглі знайсці. І Ліда раскажа ёй, як іх хацелі абакрасці. Ну, вядома, ёй трэба зараз жа і паехаць. І яна выйшла на кухню, падумала, што яшчэ вып'е кавы... Зірнула на сцяну, дзе вісеў насценны каляндар, і ўся сцялася, нядзеля, адзінаццатае ліпеня! Той самы дзень, пра які згадвае бабуля. Як жа гэта яна забылася?! Учора ж адрывала лісткі з гэтага календара. Адарвала і ўчарашнюю суботу, а нядзелю пакінула. Паглядзела на гадзіннік, ды якое там ля абеду?! Яна можа быць у бацькоў і пад вечар, гэта — як ёй пашанцуе з аўтобусамі. "А мо гэта ўсё і няпраўда? — мільганула думка. — Бабулі ўявілася штосьці... А калі праўда? Тады ёй трэба тэрмінова патэлефанаваць аграномцы Галі, што жыве праз дзве хаты ад бацькоў, і папрасіць Галю, каб паклікала ад тэлефона маці... Яна і раскажа ёй пра бабулін ліст, і пра тое, што піша яна пра Геніка". І Ліда пайшла да тэлефона...

— Дык у вас жа дома нікога няма, — адказала ёй Галя. — Бацька на досвітку ў дровы паехаў, каня ў лясніцтве яшчэ звечара ўзяў, з ім і маці паехала. Тут жа ў нас чарніцы ўвесь лес засыпалі, хоча ягад набраць.

— Ну, а Генік? — запыталася Ліда.

— Ён з вядром, бачыла, ішоў, мо з гадзіну назад... Напэўна, на возера з хлопцамі падаўся. Яны там усё ракаў ловяць.

І ў Ліды ўсё абамлела... Кінула трубку, чамусьці зноў узяла бабулін ліст, прабегла вачамі: "...Хай яна не адпускае Геніка на возера адзінаццатага ліпеня, таму што можа здарыцца бяда". А Генік пайшоў на возера, і яна не змагла, не паспела папярэдзіць маці! І Ліда склала на грудзях рукі. Яна нічога іншага не магла прыдумаць, як звярнуцца да свайго Анёла-Ахоўніка.

"Калі ты сапраўды ў мяне ёсць, — зашаптала яна, — мой Анёл-Ахоўнік, калі тое, пра што напісала бабуля, праўда, дык дапамажы мне цяпер. І, можа, гэта будзе адзіная мая просьба да цябе, можа, я ніколі больш да цябе і не звярнуся. Уратуй Геніка, дапамажы яму, апыніся ў той момант ля яго, калі што такое павінна здарыцца! Паслухайся мяне, мой даражэнечкі заступнічак. Ты ж павінен ведаць Геніка, дык ці можаш дапусціць ты якую бяду?! Я ж пасля ніколі не дарую сабе, калі што ліхое адбудзецца! Ці ж у радасць табе будуць мае слёзы?! Міленькі, не адвярніся, зрабі ласку... Калі ты ад Бога, ты ўсё можаш!.." — і яна яшчэ доўга штосьці шаптала, а потым хутка сабрала дарожную сумку, праверыла, ці добра зачынены ўсе вокны, і пакінула кватэру.

Праз нейкія дзве гадзіны, як ёй і думалася, Ліда ўжо была ў маленькім гарадскім пасёлку. Надвор'е на вачах мянялася. Калі выязджала з Мінска, пякло сонца, а тут узняўся вецер, зусім не па-летняму рэзкі і халодны. З-за далягляду выплывала цяжкая чорная хмара і дзесьці там, яшчэ далёка, раз-пораз успыхвалі маланкі, пагрымваў гром. Яна ўжо ўзяла білет на мясцовы рэйс і цяпер стаяла на ганку старога аўтобуснага вакзала. Да адпраўлення аўтобуса ў яе яшчэ было паўгадзіны вольнага часу. "Дык што ж там дома? — думалася Лідзе. — Ці вярнуліся з лесу бацькі? А Генік? Можа, і ён прыйшоў ужо з таго возера?! Што ж я хвалююся, калі можна набраць яшчэ раз Галін нумар!"

І Ліда сышла з ганка, у вочы сыпанула пылам, пяском... "Ну і вецер! Хутка ён аціхне, усё сцішыцца... І тады ліне дождж! Відаць, будзе моцная навальніца. А вунь і будка тэлефона-аўтамата ля газетнага кіёска і нейкі мужчына ідзе да яе. Можа, яшчэ распачне нейкую сваю доўгую размову", — падумала Ліда і кінулася яму наперарэз, каб апярэдзіць, і ў той жа момант азірнулася на крык... Проста на яе ляцеў вялізны кавалак іржавай бляхі, якую вецер сарваў са старога вакзальнага даху, і гэта было апошняе, што яна бачыла ў сваім жыцці.

А ў гэты самы час у бацькоўскай хаце на верандзе Надзея Хведараўна, ейная маці, перабірала чарніцы. Ягады брала чыста і ўсё ж пракідвалася ігліца і дробныя лісточкі ягадніку. З трывогай пазірала на акно, за якім усё неба абклала цяжкая хмара. Успыхвалі зыркія маланкі і адразу гучна ляскатаў гром, і яна непакоілася, што яшчэ ні старога, ні Геніка няма дома. Ды вось, здаецца, ідзе Генік, мільганула ягоная кепачка. Бразнуў клямкай, спыніўся ў парозе.

— Чаго ж ты там стаў? — адазвалася яна. — Ідзі ў хату, паеш.

— Ты сварыцца будзеш, — сказаў Генік.

— Чаго гэта я сварыцца буду?

— Я пад карчы, што ля валуна, заплыў і ў водарасцях заблытаўся. Спужаўся дужа, ледзь выблытаўся, быццам дапамог хто. Мог захліпнуцца!

І Надзея Хведараўна хацела штосьці крыкнуць на яго, але ўгледзела ў акно, што хтосьці бяжыць да іх у хату. І пазнала аграномку Галю. Адставіла чарніцы, выцерла аб хвартук рукі. А Галя як убегла на веранду, так і застыла...

— Ну, што ты, Галечка, мо што пазычыць прыйшла?

Галя не глядзела на яе, усё адводзіла і адводзіла вочы, а потым абняла Геніка, прыціснула яго да сябе і выдыхнула:

— Не, не, цётачка Надзя! Не магу я вам сказаць такога! Ліда ваша... Ліда... Вам у гарадскі пасёлак як мага хутчэй ехаць трэба!

І апошнія ейныя словы заглушыў вадаспад дажджу, які нізрынуўся з неба, ярасна і апантана, заліваючы ўсё наўкол. За вокнамі — шумела, цурчэла, стагнала...

Гэта плакаў Анёл-Ахоўнік.

# І непадуладныя асіміляцыі...

## БЕЛАРУСІЗАЦЫЯ І ЯЎРЭІ

Леанід ЛЫЧ

### 1. ЯЎРЭЙСКАЕ ПЫТАННЕ Ў ПРАГРАМНЫХ ДАКУМЕНТАХ БЕЛАРУСІЗАЦЫІ

Да сярэдзіны ліпеня 1924 г. нацыянальна-культурнае адраджэнне беларускага народа больш мела грамадска-ініцыятыўны, чым дзяржаўны характар. Усё карэнным чынам пачало мяняцца пасля таго, як 15 ліпеня 1924 г. Цэнтральны Выканаўчы Камітэт (ЦВК) БССР прыняў пастанову "Аб практычных мерапрыемствах па правядзенні нацыянальнай палітыкі". Ад таго часу нацыянальна-культурнае Адраджэнне становіцца ў поўным сэнсе слова дзяржаўнай палітыкай і атрымала добра вядомую і сёння назву — беларусізацыя.

Праціўнікі яе адразу ж пачалі пужаць нацыянальныя меншасці рэспублікі, заяўляючы, што ў выніку ажыццяўлення такой палітыкі апошнім ніяк не ўдасца захаваць сябе як пэўную этнічную групу, што ўсіх іх чакае непазбежнае абеларушванне. Але гэта была найчысцейшая хлусня. Дзяржаўныя палітыкі, блізкая да іх беларуская інтэлігенцыя не ставілі перад сабой такой шавіністычнай мэты, бо добра ведалі, ад таго, як будуць пачуваць сябе нацыянальныя меншасці рэспублікі, у значнай ступені будзе залежаць і лёс самой беларусізацыі. І гэта так, бо ў выпадку непрыняцця, узнікнення да яе апазіцыі з боку нацыянальных меншасцяў многія задумкі беларускага Адраджэння засталіся б толькі на паперы і ўсе звязаныя з ім планы па выратаванні беларускага народа ад культурна-моўнай асіміляцыі, якая ажыццяўлялася ўжо не адно стагоддзе, рухнулі б у бездань.

З усіх нацыянальных меншасцяў асаблівай увагі да сябе патрабавалі ад дзяржавы яўрэі. Па-першае, на той час яны былі самымі шматлікімі з усіх прадстаўнікоў некарэннага насельніцтва Беларусі (у 1914 г. іх налічвалася 1250 тыс. чалавек, альбо каля 14% усіх жыхароў; у 1926 г. яўрэі складалі 8,2% насельніцтва БССР). Па-другое, на Беларусі яны мелі вельмі багатыя культурна-асветніцкія, рэлігійныя, сямейна-бытавыя традыцыі, карані якіх трэба шукаць яшчэ ў далёкім сярэднявеччы. Спадзявацца, што нейкі новы лад жыцця — няхай сабе і сацыялістычны, пра які так марылі бальшавікі, — прымусіць іх адмовіцца ад такіх традыцый, не было аніякіх падстаў. Па-трэцяе, напярэдадні беларусізацыі яўрэі вызначаліся незвычайна бурным ростам нацыянальнай самасвядомасці і высокай грамадска-палітычнай актыўнасцю. Па-чацвёртае, сярод іх было параўнальна шмат адукаваных, інтэлігентных людзей, якія займалі высокія пасады, прэстыжныя месцы практычна ва ўсіх сферах дзяржаўна-палітычнага, эканамічнага і культурнага жыцця і, значыцца, маглі актыўна ўплываць на яго. Вучоны-гісторык з Польшчы Аляксандра Бергман выявіла, што ў выдадзеным у 1924—1929 гг. "Яўрэйскім Лексіконе" З.Рэйзена прысутнічаюць прозвішчы 352 яўрэйскіх пісьменнікаў і публіцыстаў, якія нарадзіліся на Беларусі. У адпаведнасці з данымі энцыклапедый, што выйшлі ў свет за 1956—1981 гг., да гэтай лічбы Аляксандра Бергман дабаўляе яшчэ больш за сотню чалавек. З іх значная колькасць жыла і працавала на Беларусі. Не лішнім будзе адзначыць, што з сямі прэзідэнтаў Ізраіля трое паходзяць з нашага краю. Не выкарыстаць нейкай часткі духоўнага патэнцыялу яўрэйскай інтэлігенцыі дзеля беларусізацыі было б вялікай памылкай у правядзенні нацыянальнай палітыкі.

Улічваючы тую значную ролю, якую яўрэйскае насельніцтва змагло б адыграць у вырашэнні ўсіх вузлавых пытанняў нацыянальнай палітыкі, дзяржава і партыя ўсяляк садзейнічалі разгортванню яго творчых сіл. Спаслацца тут можна на рэзалюцыю студзеньскага (1925 г.) пленума ЦК КП(б)Б па дакладзе "Чарговыя задачы КП(б)Б у нацыянальнай палітыцы". У ёй (рэзалюцыі) быў такі раздзел: "Лінія КП(б)Б у працы сярод яўрэяў, палякаў і латышоў". Як бачым, у згаданым раздзеле яўрэі стаяць на першым плане. Гэта дыктавалася іх роляю ў эканамічным, сацыяльна-палітычным і культурным жыцці Беларусі. У згаданым раздзеле адзначалася:

"Пры вызначэнні задач нацыянальнай палітыкі сярод нацыянальных меншасцяў КП(б)Б павінна ўлічваць усе асаблівасці гаспадарчага і палітычнага становішча гэтых групаў.

Задачы работы КП(б)Б сярод насельніцтва гэтых нацыянальнасцяў павінны быць вызначаны ў тым напрамку, каб стварыць найцяснейшае збліжэнне працоўных гэтых нацыянальнасцяў з беларускім сялянствам, зблізіць горад і вёску Беларусі, сцерці ўсю нацыянальную варожасць, усе нацыянальнасці ўцягнуць у працу над эканамічным і культурным адраджэннем БССР.

Найважнейшымі задачамі КП(б)Б сярод яўрэйскага насельніцтва з'яўляюцца:

1. Развіццё працы на яўрэйскай мове ў яўрэйскіх школах, сярод рабочых і саматужнікаў.
2. Правядзенне працы па вывучэнні беларускай мовы ва ўсіх яўрэйскіх школах і, у парадку ліквідацыі беларускай непісьменнасці, сярод рабочых і інтэлігенцыі.
3. Уцягненне яўрэяў у мястэчках у клубы, хаты-чытальні, нардамы і інш.
4. Уцягненне ў аб'яднанні саматужнікаў-яўрэяў і дапамога гэтым аб'яднанням.
5. Правядзенне землеўпарадкавання працоўнага яўрэйскага насельніцтва і надзяленне яго зямлёй, пры гэтым весці працу па надзяленні яўрэйскага насельніцтва зямлёй такім чынам, каб не парушыць нармальных умоў сумеснага жыцця яго з карэнным беларускім сялянскім насельніцтвам".

І гэта быў не адзінкавы дакумент, якім партыя рыхтавала яўрэйскую нацыянальную меншасць да актыўнага ўдзелу ў вырашэнні пытанняў свайго культурнага жыцця. Паступаць такім, а не іншым чынам абавязвала глыбокае ўсведамленне і таго, што дасягнуць пазітыўных зрухаў у поглядах (і практычных дзеяннях) яўрэйскай інтэлігенцыі на беларускае пытанне можна было ў першую чаргу толькі забяспечыўшы неабходныя ўмовы для развіцця яе нацыянальнасці.

Па лініі дзяржаўных органаў важныя крокі ў гэтым напрамку былі намечаны ўжо ў згаданым вышэй самым першым афіцыйным дакуменце па беларусізацыі "Аб практычных мерапрыемствах па правядзенні нацыянальнай палітыкі". У яўрэяў, з аднаго боку, павышаўся нацыянальны гонар, а з другога — фармавалася пазітыўнае стаўленне да беларусізацыі, калі яны чыталі ў гэтым дзяржаўным дакуменце ўжо яго першы пункт: "Мовы нацыянальнасцяў, якія насяляюць тэрыторыю БССР (беларуская, яўрэйская, руская, польская), з'яўляюцца раўнапраўнымі". У адпаведнасці з гэтай пастановай усе асноўныя законы павінны былі друкавацца на гэтых чатырох мовах, якія прызнаваліся дзяржаўнымі, праўда, з наданнем беларускай мове пэўных пераваг, паколькі ёю карысталася абсалютная большасць жыхароў рэспублікі, прычым карэнных. Першым такім дзяржаўным дакументам, складзеным адначасова на беларускай, яўрэйскай, рускай і польскай мовах, стала прынятая 25 ліпеня 1924 г. пастанова ЦВК і СНК БССР "Аб землебудаўніцтве працоўных жыдоў". Надрукавана ж яна была ў снежні таго года ў афіцыйным выданні "Собрание узаконений и распоряжений рабоче-крестьянского правительства Белорусской Советской Социалистической Республики".

Дзеля забеспячэння нармальнага абслугоўвання яўрэйскага насельніцтва агульнадзяржаўнымі, адміністрацыйна-гаспадарчымі і іншымі органамі пастановай "Аб практычных мерапрыемствах па правядзенні нацыянальнай палітыкі" прадугледжвалася, што ў шэрагу выпадкаў для працы ў такіх органах абавязковым патрабаваннем да работнікаў з'яўляецца валоданне імі яўрэйскай мовай. Вызначэнне спіса такіх пасад ускладалася на акруговыя Выканаўчыя камітэты. Прадугледжваліся і канкрэтныя тэрміны вывучэння яўрэйскай мовы службоўцамі.

У несумненную заслугу распрацоўшчыкаў практычных мерапрыемстваў па правядзенні нацыянальнай палітыкі з поўным правам можна паставіць іх разумныя, узважаныя падыходы да пытанняў народнай адукацыі, ад стану якой калі не ўсё, дык вельмі многае залежала ў лёсе не толькі карэннага на тэрыторыі БССР беларускага этнасу, але і ўсіх яе нацыянальных меншасцяў. Што такія падыходы маладой беларускай дзяржавы і сапраўды былі і прагрэсіўнымі, і інтэрнацыяналісцкімі, сведчыць наступны пункт пастановы: "Навучанне і выкладанне ва ўсіх установах сацыяльнага выхавання і прафтэхнічнай адукацыі, а роўным чынам і абслугоўванне ўсіх астатніх культурна-асветніцкіх патрэбнасцяў насельніцтва, павінны весціся на іх роднай мове". Прадугледжваліся канкрэтныя захады па заснаванні на педфаку БДУ спецыяльнага сектара па падрыхтоўцы кадраў для яўрэйскіх культурна-асветных устаноў, па забеспячэнні яўрэйскіх хатаў-чытальняў, народных дамоў, клубаў і бібліятэк літаратурай на нацыянальнай мове.

Варта адзначыць, што многае з таго, што знайшло адлюстраванне ў разглядаемай пастанове ў дачыненні да беларускіх яўрэяў, ужо было зафіксавана ў рэзалюцыях пленума ЦК КП(б)Б, прынятых прыкладна на тыдзень раней за дадзеную пастанову. Такім чынам, у вырашэнні яўрэйскага нацыянальнага пытання на Беларусі павінны былі браць канкрэтны практычны ўдзел не толькі дзяржаўныя і адміністрацыйна-гаспадарчыя, але і партыйныя органы, а разам з імі і камсамол, які ўжо і ў тыя гады будаваў сваю дзейнасць у адпаведнасці з установкамі партыі бальшавікоў.

### 2. ЯЎРЭЙСКАЯ КУЛЬТУРА ВА ЎМОВАХ БЕЛАРУСІЗАЦЫІ

Інтэрнацыяналісцкі і дэмакратычны характар палітыкі беларусізацыі вельмі хутка спрыяльнічаў да таго, што да яе прыхільна паставіліся нацыянальныя меншасці і нават у меру сваіх магчымасцяў сталі ўсяляк садзейнічаць ёй. З другога боку, нацыянальныя меншасці, не бавячы часу, прыступілі да рэалізацыі сваіх адраджэнцкіх задумаў і планаў. Атрымаўшы ў выніку беларусізацыі даволі спрыяльныя ўмовы для ўласнага нацыянальнага развіцця, яўрэйская інтэлігенцыя актыўна ўзялася за іх пераўвасабленне ў жыццё. Сіл і энергіі не шкадавалі на гэта, ведаючы, што яны акупяцца ў самы бліжэйшы час. І яно так сапраўды адбылося. Па многіх напрамках нацыянальна-культурнага адраджэння яўрэйская супольнасць не толькі не ўступала, а, наадварот, ішла папярадзе нават асноўнай нацыі рэспублікі — беларускай. Датычыла гэта найперш такой важнай сферы жыццядзейнасці любой нацыі, як асвета. Так, у разліку на пэўную колькасць насельніцтва яўрэі мелі лепшыя паказчыкі, чым у беларусаў, па развіцці сеткі школ і дашкольных устаноў. Ужо ў 1924-25 н.г. у БССР было 87 яўрэйскіх школ супраць 45 расійскіх. Праўда, польскіх было 94, але толькі дзякуючы сваёй малакамплектнасці, бо размяшчаліся пераважна ў сельскай мясцовасці. Калі ж з агульнай колькасці школ узяць толькі сямігадовыя працоўныя, якія ў той час далёка не ўсім былі даступныя, дык тут склаліся такія суадносіны: яўрэйскіх — 42, расійскіх — 29, польскіх — 5. Пераканаўчым доказам сур'ёзнага падыходу яўрэяў да выхавання і навучання маладых пакаленняў могуць служыць наступныя статыстычныя даныя: з 81 дзіцячага дома і гарадка беларускіх было — 32, яўрэйскіх — 28, расійскіх — 22, польскіх — 5; адпаведна з 40 дзіцячых садоў 11 беларускіх, 21 яўрэйскі, 6 расійскіх і 2 польскія. На той час яшчэ не мелася аніводнай беларускай прафесійна-тэхнічнай школы, а яўрэйскіх функцыянавала чатыры. У агульнай колькасці навучэнцаў такіх школ беларусы складалі 45%, яўрэі — 41, рускія — 8, палякі — 6%.

Першыя крокі ўдалося зрабіць і для развіцця яўрэйскай сярэднеспецыяльнай і вышэйшай школы: працавалі два педагагічныя тэхнікумы (палякі мелі адну такую навучальную ўстанову) і яўрэйская секцыя на педфаку БДУ. Прычым, усе прадметы, якія датычылі нацыянальных асаблівасцяў яўрэяў, чыталіся на гэтай секцыі толькі на іх мове. У беларусаў жа пакуль што не было тэхнікумаў на іх роднай мове. Навучальна-выхаваўчы працэс у сярэдняй спецыяльнай і вышэйшай школе БССР будаваўся пераважна на рускай мове. Нават на беларускай секцыі педагагічнага факультэта БДУ шэраг дысцыплін беларусазнаўчага характару чыталі на рускай мове.

Розніца ў становішчы беларускай і яўрэйскай моў у сферы адукацыі ёсць найперш вынік ступені яе забяспечанасці адпаведнымі кадрамі. У яўрэяў тут асаблівых праблем не існавала, чаго нельга сказаць пра беларусаў, якія рабілі толькі першыя крокі ў стварэнні сваёй нацыянальнай вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай школы. У 1924-25 н.г. сярод прафесараў, выкладчыкаў, асістэнтаў, ардынатараў і навуковых супрацоўнікаў ВНУ БССР (уключаючы і рабфакі) рускіх было 153, беларусаў — 104, яўрэяў — 103, палякаў — 3. Прычым з гэтага ліку беларусаў толькі нязначны працэнт мог выкладаць свае прадметы на нацыянальнай мове. Тлумачылася гэта тым,што ўсім ім некалі даводзілася атрымліваць вышэйшую ці сярэднюю спецыяльную адукацыю пераважна на рускай мове. У меншай ступені дадзены фактар паўплываў на педагогаў яўрэйскай нацыянальнасці, таму ў яўрэйскіх вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных установах практычна не існавала аніякіх цяжкасцяў з укамплектаваннем кадрамі, якія добра ведалі нацыянальную мову.

Інтэнсіфікаваць увод беларускай мовы ў навучальна-выхаваўчы працэс інстытутаў і тэхнікумаў не дазваляў таксама нацыянальны склад іх кантынгентаў. У 1924-25 н.г. беларусаў сярод студэнтаў ВНУ і рабфакаў было 45 працэнтаў, яўрэяў — 39 (а ў самай прэстыжнай вышэйшай навучальнай установе — БДУ — 51%, у т.л. на медфаку — 58, на факультэце грамадскіх навук — 62%). У тым жа навучальным годзе ў падобнага роду ўстановах студэнты рускай нацыянальнасці складалі 11, палякі — 0,6%. Як вынікае, першы год беларусізацыі не ўнёс якіх-небудзь карэнных перамен на карысць беларусаў у вышэйшай і сярэдняй спецыяльнай школе. У апошняй, як і ў папярэднія гады, беларусаў сярод выкладчыкаў, студэнтаў і навучэнцаў быў значна меншы працэнт, чым яны займалі ў агульнай колькасці насельніцтва рэспублікі. Беларусізацыя навучальна-выхаваўчага працэсу адбывалася вельмі павольна, ні ў чым не абмяжоўваючы інтарэсы ні яўрэяў, ні рускіх, ні палякаў, ні татараў, ні прадстаўнікоў іншых нацыянальных меншасцяў, таму не дзіўна, што і з іх боку яна (беларусізацыя) мела неабходную для сябе падтрымку. Нярэдкімі з'яўляліся выпадкі, калі і выкладчыкі, прафесары яўрэйскага паходжання ў якасці рабочай выбіралі беларускую мову, уносячы гэтым самым свой пасільны ўклад у стварэнне беларускай нацыянальнай сістэмы адукацыі.

У яўрэяў існавалі добрыя ўмовы для паступлення на працу і вучобу ў сістэму партыйных навучальных устаноў. Яны нават мелі яўрэйскамоўнае аддзяленне пры Віцебскай партыйнай школе другой ступені. У гэтым тыпе навучальных устаноў рабочай мовай з'яўлялася руская, за выключэннем аднаго польскамоўнага аддзялення пры Мінскай партшколе першай ступені. Нацыянальны склад кантынгентаў усіх партыйных школ рэспублікі ў 1924-24 н.г. меў такія паказчыкі: сярод выкладчыкаў беларусаў — 43%, яўрэяў — 37, рускіх — 14, палякаў — 6%, сярод навучэнцаў адпаведна 45 - 32 - 12 - 6%. Адзначаная тэндэнцыя ў значнай ступені захоўвалася і пазней. Так, у 1929-30 н.г. у саўпартшколах курсантаў яўрэйскай нацыянальнасці было 30%, беларусаў — 62, рускіх — 4,5.

Было што карыснага запазычыць беларусам ад яўрэяў па частцы ліквідацыі непісьменнасці сярод дарослага насельніцтва, хаця ў апошніх узровень адукацыі быў самым высокім з усіх нацменшасцяў рэспублікі. У такія школы вельмі ахвотна паступалі яўрэі, менш за ўсё звяртаючы ўвагу на мову выкладання, што тлумачыць высокі працэнт ахопу іх вучобай. У 1924-25 н.г. яўрэі складалі 64% ад агульнага ліку навучэнцаў усіх школ для дарослых. З агульнай колькасці такіх школ у 1924-25 н.г. на яўрэйскай мове працавала 15%, польскай — 0,2, беларускай — 3%.

Стан яўрэйскай адукацыі на самім старце беларусізацыі не быў пахіснуты і ў наступныя гады. Наадварот, назіралася істотнае паляпшэнне яго, што тлумачыцца шэрагам прычын як аб'ектыўнага, так і суб'ектыўнага характару. Не сакрэт, да прыкладу, што, жывучы ў горадзе і мястэчках і, значыцца, маючы лепшую за вясковых беларускіх дзяцей тэарэтычную падрыхтоўку, яўрэйская моладзь без асаблівых цяжкасцяў вытрымлівала іспыты пры паступленні на вучобу ў прафесійна-тэхнічныя школы, тэхнікумы і інстытуты. Таму невыпадкова ў першым тыпе ўстаноў у 1929-30 н.г. яўрэяў было 38,4% ад усяго кантынгенту, у другім — 27,8, у трэцім — 27,6, пры ўдзельнай вазе гэтай нацыянальнай меншасці ў складзе насельніцтва Беларусі 8,2%. Найбольш папулярным сярод яўрэяў былі прафесіі юрыста,

*(Працяг на стар. 14—15)*

ЛіМ ЧАСАПІС

## Педагог, драматург, рэжысёр...

**Першы ў Беларусі дзіцячы тэатр лялек стварыла Вера Сурская ў Брэсце, працуючы там педагогам у абласным Палацы піянераў. Сама ж была ў ім і драматургам, і мастаком і рэжысёрам...**

**Нарадзілася В. Сурская 100 гадоў назад (памерла 19 мая 1952 года), вучылася ў мастацкай студыі І. Машкова і музычным вучылішчы Селіванавых. Была артысткай у тэатрах Сочы, Сухумі, Батумі, Тбілісі, мастаком-карыкатурыстам і літсупрацоўнікам у газетах, што выходзілі ў Тбілісі, скончыла Грузінскую акадэмію мастацтваў, працавала карэспандэнтам газеты Закаўказскай ваеннай акругі "Боец РККА".**

**У Тбілісі выдала кнігі для дзяцей "Про Мишек", "Бобкин зуб", "Будь смелым", "Я не так уж мал" і іншыя, у Мінску — "Пионерское лето", "Звездный поход", "Новый дом", з'явілася аўтарам шэрагу інсцэніровак і п'ес для дзяцей. Выступала ў галіне перакладу.**

## Па жыцці з песняй



**Жыццёвы шлях у Яніны Пятроўны Сяўко, жыхаркі Скідзеля, быў не з лёгкіх. У маленстве не стала бацькоў, а з гэтым і матулінай ласкі. Дзякуй роднаму дзядзьку і ягонай жонцы: дзяўчынку выгадавалі і вывелі ў людзі добрасумленнай і чулай да іншых.**

**Жывучы ў вёсцы Рамашкі, што ў Шчучынскім раёне, маленькая Яня наведвала вячоркі, на якіх жанчыны спявалі розныя народныя песні. У спевы ўцягвалася і Яня, і не раз яе хвалілі за добры, вельмі зычны голас. І палюбіла маленькая дзяўчынка народную песню.**

**Сёлета Яніна Пятроўна адзначае сваю 40-ю гадавіну, як пачала ўдзельнічаць у мастацкай самадзейнасці мясцовага Дома культуры. Яна актыўна наведвае фальклорную групу "Сяброўкі", дзе спяваюць пераважна жанчыны пенсійнага ўзросту. У іх выкананні гучаць беларускія народныя песні, якія вельмі падабаюцца слухачам. "Сяброўкі" неаднаразова ўдзельнічалі ў конкурсах-аглядах раёна і вобласці, выходзілі пераможцамі.**

**Перамогі ды заахвочванні спрыяюць настрою жанчын, якія з задавальненнем прыходзяць на рэпетыцыі, стараюцца разнастаіць свой рэпертуар, прапануючы слухачам усё новыя і новыя песні. Аднак найбольшае задавальненне атрымліваюць ад таго, што сустракаюцца разам, што могуць падзяліцца сваімі праблемамі дый часова забыцца пра іх, аддаючы сваю душу песні.**

**Ілья БАРЫСАЎ**

*Фота аўтара*

## З любоўю да тэатра

**95 гадоў назад нарадзіўся Міхась Модэль (памёр 26 кастрычніка 1980 года). Быў на журналісцкай і партыйнай рабоце, працаваў у навуковых і тэатральных установах Беларусі, у апараце Саюза пісьменнікаў Беларусі, у час Вялікай Айчыннай вайны — у Тамбове, Ташкенце, Андыжане. У пасляваенны час загадваў літаратурнай часткай Беларускага дзяржаўнага тэатра оперы і балета, з'яўляўся супрацоўнікам часопіса "Полымя". У 1949—1962 гадах быў літаратурным супрацоўнікам газеты "Літаратура і мастацтва". З першымі публікацыямі выступіў у 1926 годзе. Аўтар кніг "Тэатр і драматургія", "Народныя артысты БССР", брашуры "Ларыса Пампееўна Александроўская", шматлікіх публікацый у перыёдыцы.**

# Доўгі шлях да самапазнання

Паўстагоддзя працуе і творыць Пётр Аляксеевіч Данелія ў горадзе Брэсце. Мастак самабытны, шырокага творчага дыяпазону, выступае ў розных жанрах выяўленчага мастацтва: у станковай карціне, манументальным роспісе, партрэце, пейзажы, скульптуры, медальерным мастацтве і графіцы. Яго манументальныя роспісы ў дамах культуры г. Пінска, вёскі Клейнікі Брэсцкага раёна, у стаматалагічнай паліклініцы г. Брэста вызначаюцца шырокім выкарыстаннем алегорыі, метафары, сімволікі. У іх спалучаецца лірыка-эпічны і грамадзянска-публіцыстычны пачатак. Але галоўны ў яго творчасці ўсё ж пейзаж. Шчырая і глыбокая вера ў адзіную крыніцу натхнення, жывую прыроду, бясконцае праяўленне якой ён захоплена адлюстроўвае ў сваіх эцюдах і карцінах.

Цяжка адзначыць ступень захаплення Пятра Аляксеевіча Даneліі асобнымі тэматычнымі жанрамі. Ён умее знаходзіць і адкрываць прыгажосць у кожным створаным вобразе. І за якую б ён ні браўся тэму, паўсюль адметныя мастацкія рысы яго даравання — рэалізм, лірычнасць, незвычайная маляўнічая пераканаўчасць. Яго карціны "Плывуць аблокі", "Дзень", "Па пагорках", "Восеньскі звон", "Беларуская мелодыя", "Над цішынёй", "Успаміны", "Гераічны матыў", Восеньскія карункі", "Навальнічная трывога", "Любімая пара", "Подых восені", "Абуджэнне", "Дзень сыходзіць", "Палеская ўсмешка" — гэта сапраўдныя сімфоніі ў фарбах, хвалюючыя жывапісныя паэмы.

Творы Пятра Аляксеевіча заўсёды закончаныя і цэласныя. У іх гарманічна спалучаюцца зямля, зеляніна, паветра. Данелія — сапраўдны паэт-лірык, які ўмее жывапіснымі сродкамі раскрыць зачараванне прыродай і тварэнне рук чалавечых. Ён улюбёны ў родную зямлю, на якой жыве, і імкнецца перадаць у сваіх палотнах усе ўражанні, якія нараджае ў ім сучаснасць. Больш як 60 твораў мастака знаходзяцца ў музеях рэспублікі і за яе межамі. На працягу 20 гадоў (1947—67) у Брэсце Пётр



Аляксеевіч кіраваў студыяй выяўленчага мастацтва і выхаваў вядомых зараз творцаў І. Рэя, П. Свентахоўскага, М. Селешчука, У. Новака і іншых.

Знаны беларускі мастак перадаў свае майстэрства і сыну Леаніду. Леанід Данелія, успамінаючы гады вучобы ў Мінскім мастацкім вучылішчы, распавядае, што туды ён прыйшоў, ужо падрыхтаваны бацькам. І першыя заняткі не любіў наведваць, бо хацелася ўжо асвойваць больш складаную тэхніку, адточваць яе. На той час ужо з'явіліся ў продажы і бібліятэках кнігі пра імпрэсіянізм, у музеях — работы гэтай плыні. І маладым хацелася ўбачанае прапусціць праз сябе, адысці ад класіцызму, рамантызму, акадэмічнасці і разняволіцца ў жывапісе, пераблытаць усе фарбы ў адну і маляваць вобразы першага імгненнага суб'ектыўнага ўражання. Новае мастацтва зачароўвала сваёй незвычайнасцю, інтэлектуальнымі глыбінямі, вабіла ўяўленне маладога мастака.

Адмаўленне ад "мяшчанскіх сацыяльных і маральна-эстэтычных каштоўнасцей" выклікала ганенні ў вучэльні і хлапца хацелі нават выключыць з установы. Дапамаглі яго настаўнікі Леанід Шчамялёў і Альгерд Малішэўскі. Але вяртанне да акадэмізму адбылося натуральна. Шмат прачытана і ўбачана карцін старэйшых майстроў, вывучана іх манера пісьма — усё гэта дало добры плён у фарміраванні Леаніда Данеліі як мастака, скіравала яго да традыцый нацыянальнага рэалістычнага мастацтва. Паўплывала на маладога мастака і творчасць Віталя Цвіркі. Але юнак шукаў свой шлях у мастацтве, свой почырк. Ён зразумеў, што праз акадэмічнае можна знайсці філасофскае самавыражэнне. Вучоба ў тэатральна-мастацкім інстытуце замацавала светапогляд, які паступова раскрываўся ў галіне графікі прыкладнога і дэкаратыўнага мастацтва, архітэктуры, жывапісу. Валоданне мовай гэтых мастацтваў і сёння дапамагае яму выпрацаваць такую сістэму стварэння вобразаў, каб арганічна спалучыць выразныя магчымасці колеру і ліній, дэкаратыўнасць і архітэктоніку.

Колькі сябе памятае, ды і па сённяшні дзень мастак займаецца жывапісам, хоць жыццё прымушае здабываць грошы ў галіне мастацкага афармлення і праектавання. Ён з'яўляецца аўтарам праектаў і кіраўніком, мастацкім афарміцелем інтэр'ераў дома адпачынку "Белая Русь" на возеры Нарач, дзіцячага садка фабрыкі "Элема" ў Мінску, дзе ім зроблены вітражы, манументальны роспіс на тэму беларускіх казак гасцінічнага комплексу "Заказельскі" Брэсцкай вобл. (вітражы, дэкаратыўна-манументальны жывапіс, люстры). Адна з асаблівасцей характару Л. Данеліі — працаздольнасць і прафесійны падыход да ўсяго, што б ён ні рабіў. Мастак ніколі не зарабляў станковым жывапісам, каб не апусціцца да салоннасці

# І непадуладныя асіміляцыі...

(Працяг. Пачатак на стар. 13)

гандлёвага работніка, медыка. Так, у 1927 г. у БДУ з агульнай колькасці прынятых на факультэт народнай гаспадаркі і юрыспрудэнцыі яўрэі складалі 46,5%, на медыцынскі — 43,9%.

У час, калі беларусізацыя выйшла на свой самы высокі ўзровень і здавалася, што гэтым самым яна магла закрануць інтарэс той ці іншай меншасці, на практыцы ўсё было наадварот. Так, у 1929-30 н.г. яўрэі мелі 60 дашкольных устаноў, 174 школы 1-га канцэнтру і 80 сямігадовых, 35 вячэрніх школ, шэраг пунктаў па ліквідацыі непісьменнасці, 2 педтэхнікумы, аддзяленне педфака ў БДУ і аддзяленне ў палітасветтэхнікуме, І сельскагаспадарчы тэхнікум (г.Мінск, Курасоўшчына), 4 прафтэхшколы, некалькі аддзяленняў рабфака, 2 тэатры, значную колькасць харавых студый, хатчытальняў, бібліятэк. У 1929-30 н.г. яўрэйскай літаратуры выдадзена ў памеры 270 друкаваных аркушаў. Плённа працаваў калектыў яўрэйскага сектара Беларускай акадэміі навук. У 1930 г. сярод дарослага яўрэйскага насельніцтва пісьменныя складалі 70, у той час як у беларусаў гэты паказчык быў роўны 36%, у рускіх — 49, палякаў — 50%.

Усе тыпы яўрэйскіх навучальных школ працавалі тады на мове ідыш. Аднак у яе было нямала праціўнікаў сярод саміх жа яўрэяў, якія лічылі, што сапраўднай нацыянальнай мовай іх з'яўляецца старажытнаяўрэйская. У абарону яе адкрыта і рашуча выступіў у 1929 г. нехта Давід Бэрман. У прысланай ім на адрас кіраўніцтва Наркамасветы БССР дакладной запісцы "Пытанне аб яўрэйскай мове" сцвярджалася, што сучасная яўрэйская мова мае на мэце служыць толькі сродкам іх асіміляцыі, анямечвання. Паводле яго меркаванняў, кастрычніцкая рэвалюцыя 1917 г. забіла яўрэяў нацыянальна, бо "забаранілі яўрэйскую мову, а ўвялі нямецкую". Каб спыніць асіміляцыю яўрэяў, прапаноўваў "перавесці ўсе яўпедтэхнікумы на старажытнаяўрэйскую мову, стварыць яўрэйскую акадэмію навук, яўрэйскую ССР, яўрэйскую армію..."

Тыя станоўчыя зрухі, што назіраліся ў стварэнні яўрэйскай нацыянальнай адукацыі, амаль зусім непрыкметнымі заставаліся на такім важным і вельмі блізкім да яе ўчастку, як культурна-масавая праца. Датычыла гэта як гарадскіх яўрэяў, што мелі занятак на дзяржаўных і кааператыўных прадпрыемствах, так і мястэчковых, значная частка якіх працавала ў прамысловых арцелях і калгасах. У 1930 г. на яўрэйскай мове праводзілася толькі 5% усяго аб'ёму культурна-масавай працы клубаў і 3% такой жа працы саміх прадпрыемстваў. Такі нізкі ўзровень выкарыстання яўрэйскай мовы ў рабочых калектывах тлумачыцца тым, што адказныя за правядзенне нацыянальна-моўнай палітыкі, відаць, не ўлічвалі, што яшчэ і ў 1930 г. на яўрэяў даводзілася 36% агульнай колькасці рабочых БССР. Варта адзначыць, што і беларускай мове ніхто не пастараўся адвесці належнае месца ў дзейнасці культурна-масавых устаноў. Тут па-ранейшаму па-за канкурэнцыяй была руская мова. У тым жа годзе, паводле даных культаддзела Цэнтральнага савета прафсаюзаў БССР, на ёй абслугоўвалася 73% усёй культурна-масавай працы клубных устаноў і 50% такога роду мерапрыемстваў, што праводзіліся непасрэдна заводамі і фабрыкамі.

Пра нездавальняючы стан культурна-масавай работы сярод яўрэяў не раз пісаў добра вядомы ў 30-я гады журналіст Х.Дунец. Найбольш недахоп у ёй бачыўся ў ігнараванні яўрэйскай мовы падчас правядзення рознага роду гутарак, выступленняў калектываў мастацкай самадзейнасці, выдання насценных газет, папаўнення бібліятэк кніжным фондам, перыядычнымі выданнямі. У асаблівым запусценні знаходзілася культурна-выхаваўчая работа ў яўрэйскіх калгасах.

З усіх гарадоў Беларусі багаццем, змястоўнасцю яўрэйскага нацыянальнага жыцця вызначалася сталіца — горад Мінск. На працягу 20 — першай паловы 30-х гадоў тут існавала самая вялікая на Беларусі колькасць яўрэйскіх пачатковых і сярэдніх школ, функцыянавалі педагагічныя тэхнікумы і вучылішчы, яўрэйскае аддзяленне ва універсітэце, секцыя юдаістыкі ў Акадэміі навук, выходзіла штодзённая газета, штомесячны часопіс, працавалі бібліятэкі і клубы, яўрэйскія кніжныя выдавецтвы, драматычны тэатр, хор, з'явілася вялікая колькасць таленавітых яўрэйскіх пісьменнікаў.

Не мог адпужаць яўрэяў ад беларусізацыі і яе курс на вылучэнне беларусаў на кіруючыя пасады ў дзяржаўныя і адміністрацыйна-гаспадарчыя органы. А такі курс быў лагічны, бо ў іх і сапраўды вельмі мала працавала асоб карэннага насельніцтва Беларусі. Давалася ў знакі шматгадовая дэнацыяналізацыя гэтага краю расійскімі царскімі уладамі. Цяжар мінулага не так проста было пераадолець, але пэўныя крокі рабіліся ў гэтым напрамку. Прычым рабілася ўзважана, без спеху, па меры падрыхтоўкі адпаведных кадраў з ліку беларусаў. Біць з-за гэтага ў званы не было аніякіх падстаў у прадстаўнікоў нацыянальных меншасцяў, у т.л. і ў яўрэяў.

Усё гэта добра разумела яўрэйская інтэлігенцыя, працягваючы спакойна, плённа працаваць над узбагачэннем духоўнай спадчыны найперш свайго народа. Кожны чарговы год беларусізацыі заўжды быў у чымсьці багацейшы за папярэдні. Так, замест колішніх двух яўрэйскіх педагагічных тэхнікумаў пазней стала функцыянаваць тры. У 1927-28н.г. на яўрэйскай секцыі педфакультэта БДУ навучалася больш за 200 студэнтаў. З добрымі вынікамі ішоў да свайго 10-гадовага юбілею калектыў Віцебскага яўрэйскага педагагічнага тэхнікума (адзначаўся ў канцы 1931 г.). За гэты час ён падрыхтаваў 300 педагогаў.

Значна актывізаваў даследаванне розных бакоў яўрэйскага жыцця Інстытут беларускай культуры. Вызначыўшы шырокую праграму па вывучэнні гісторыі, эканомікі, прыроды і культуры роднага краю, ён ніяк не мог абысці сваёй увагай і самай шматлікай тут этнічнай групы — яўрэяў. З мэтай даследавання яе мінулага і сучаснага жыцця пры Інбелкульце ў 1925 г. ствараюцца тры яўрэйскія камісіі і дзве секцыі. Яўрэям даваліся шырокія магчымасці займаць высокія пасады ў кіруючых органах гэтага інстытута. У ліку першых правадзейных членаў ІБК значыўся ў 1925 г. вядомы вучоны-гісторык Самуіл Агурскі. У студзені таго ж года членам прэзідыума ІБК быў выбраны загадчык яўрэйскага аддзела дадзенай установы Барыс Аршанскі. У складзе прэзідыума ён застаўся і пасля праведзенай у кастрычніку 1927 г. рэарганізацыі ІБК. У першым годзе існавання Беларускай акадэміі навук (адкрыта 1 студзеня 1929 г.) гэты аддзел стаў сектарам і меў у сваім складзе "пяць камісій: лінгвістычная, тэрміналагічная, па вывучэнні гісторыі яўрэйскай літаратуры, па вывучэнні яўрэйскага фальклору, па вывучэнні яўрэйскага насельніцтва". На чацвёртым годзе існавання згаданы сектарператвараецца ў Інстытут яўрэйскай пралетарскай культуры БАН, у якім працавалі гістарычная, літаратурная, лінгвістычная, сацыяльна-эканамічная і антырэлігійная камісіі.

Яўрэйская інтэлігенцыя прыхільна паставі-



ў сваёй творчасці, пісаў і піша для душы, для мастацтва. Імкненне да манументалізму дапамагло яму цікава падысці да вырашэння мастацкага вобраза тэматычнай карціны. Так роздум аб чалавечым лёсе — у палатне "Чаканне" (1993), аб заўтрашнім дні — у карціне "Пачатак. Дарогай свабоды" (1989). Тут мастак паказаў усе свае тэхнічныя і стылявыя магчымасці, з дапамогай якіх ён імкнуўся да абагульнення, да філасофскага гучання, гратэску. Тут ён даводзіць, што свабода — паняцце адноснае, наперадзе доўгі шлях да самапазнання...

Ёсць у мастака і сімпатыі да простага чалавека. Менавіта гэта ненаігранасць, нестылізаванасць, а шчырасць надае асаблівы каларыт яго карціне "Вяртанне" (1984).

У душы мастака даўно выспяваў вобраз каханай Максіма Багдановіча. Вобраз Веранікі — гэта своеасаблівае крэда паэта, яго разуменне жаноцкасці і прыгажосці, недасягальнасці ўвасаблення. Леанід Данелія так і назваў сваю карціну "Вераніка" (1993) як аднайменны верш паэта. Цудоўная постаць дзяўчыны з вяночкам на галаве ідзе па месячнай дарожцы ўдалячынь. На пярэднім плане — засохлае дрэва, сімвал няздзейсненай мары паэта. Няяркая зеляніна наваколля, грамафон, зборнік "Вянок" уносяць моцны дэкаратыўны эфект у стрыманы, хоць і інтэнсіўны колеравы жывапіс, прымушаючы інтымна-лірычны пейзаж гучаць у рамантычна-мінорным тоне.

Ужо ў ранніх творах Леаніда Данеліі выявілася ўменне кампазіцыйна будаваць свае карціны. У шэрагу работ мастак перадаў абаяльнасць архітэктуры старога Мінска, паэзію якога вельмі адчуваў (серыя "Куточкі старога горада").

Мастак заўсёды ў пошуку, шмат працуе. Пражытае і пабачанае дае магчымасць пераасэнсоўваць і па-майстэрску выказваць на палатне свае ўяўленні. У мастака-рамантыка, а такім і з'яўляецца Леанід Данелія, цікавасць да жыцця выяўляецца перш за ўсё праз цікавасць да свайго мікракосмасу. Мастак праз усведамленне ўнутранага "Я" імкнецца пазнаць таямніцу таго няўлоўнага, зменлівага і ў той жа час вельмі дзейнага і актыўнага, што ўяўляе сабой душа чалавека і асабліва творцы.

Спадзяюся, што шырэй зможам убачыць творчасць Леаніда Данеліі на яго персанальнай выставе, якая будзе, на жаль, аж у 2001 годзе.

**Галія ФАТЫХАВА**

*На здымках:* Леанід ДАНЕЛІЯ і яго работа "Мой родны кут".

лася да тых ідэй, з якімі выступіла створаная ў лістападзе 1923 г. літаратурная арганізацыя пісьменнікаў БССР "Маладняк" (праіснаваў да лістапада 1928 г.). Пры ёй была заснавана і група яўрэйскіх маладых літаратараў. Пасля рэарганізацыі ў лістападзе 1928 г. "Маладняка" ў Беларускую асацыяцыю пралетарскіх пісьменнікаў і паэтаў гэтая група ўвайшла ў яе ў якасці секцыі і выдавала свой літаратурны альманах.

Ва ўмовах беларусізацыі не адчувалі нейкіх абмежаванняў яўрэйскія архітэктары, скульптары і мастакі. Пры патрэбе яны закладвалі свае нацыянальныя творчыя аб'яднанні. З ліку іх можна назваць "групу яўрэйскіх мастакоў", у якую ўваходзілі П.Кац, Ш.Коткіс, Г.Рэзнікаў, А.Шэхтэр, І.Эйдэльман. А вось Абрам Бразер і Юдаль Пэн найвышэй за ўсё цанілі сваю творчую незалежнасць і не ўваходзілі ні ў якія прафесійныя аб'яднанні, што нікольні не паўплывала ў горшы бок на якасць іх працы. Не парушаючы свайго крэда, Ю.Пэн і ў паслярэвалюцыйны перыяд аддаваў перавагу раскрыццю сродкамі выяўленчага мастацтва найперш жыцця мясцовых яўрэяў. Да ліку такіх твораў можна аднесці "Шавец-камсамолец" (1925), "Швачка" (1927), "Пекар" (1928). Толькі цяпер, у адрозненне ад палотнаў, створаных да 1917 г., жыццё яўрэяў падаецца ў больш вясёлкавых танах. А вось А.Бразера пасапраўднаму цікавілі і беларускія матывы: адну з сваіх літаграфічных прац ён прысвяціў выдатнаму беларускаму першадрукару і асветніку Францішку Скарыну (1926). А яшчэ раней, у 1924 г., Заір Азгур стварыў скульптурны партрэт Скарыны. Праз год Янкелем Кругерам была завершана праца па напісанні жывапіснага партрэта Скарыны. Ён жа стварыў партрэты Якуба Коласа (1923) і Янкі Купалы (1925—1927). У дадзеных выпадках ужо ёсць усе падставы гаварыць і пра ўклад яўрэяў у культурныя здабыткі народа, зямля якога стала для іх другой радзімай. Створаныя яўрэйскімі аўтарамі партрэты слынных дзеячаў беларускай культуры садзейнічалі іх папулярызацыі. Акурат пад той час пачало вяртацца з забыцця вядомае толькі нязначнай колькасці беларусаў імя нашага выдатнага асветніка сярэднявечча Ф.Скарыны.

З пераходам да беларусізацыі прыкметна ажывіўся перыядычны яўрэйскі друк. Прычым у ім вельмі шырока былі прадстаўлены і матэрыялы, якія датычылі тых ці іншых бакоў жыцця і беларускага народа. З яўрэйскамоўных часопісаў варта адзначыць адзін з самых папулярных з іх — орган краўцоў "Чырвоная Голка". Такім органам ён з'яўляўся не толькі для краўцоў Беларусі, але і Украіны.

Паказальна, што досыць рана. Ужо ў жніўні 1924 года, пры Беларускай драматычнай студыі ў Маскве ажывілася праца яўрэйскай тэатральнай секцыі, мастацкім кіраўніком якой з'яўляўся Міхаіл Рафальскі. Выпускнікі гэтай секцыі складуць асноўны касцяк створанага ў Мінску ў кастрычніку 1926 г. Беларускага дзяржаўнага яўрэйскага тэатра.

Сярод тых яўрэяў з Беларусі, што рыхтаваліся ў вопытнага педагога М.Рафальскага стаць артыстамі, была і зусім юная (16 гадоў) мінчанка Юдзіф Арончык. Яна з аднолькавым поспехам выконвала ролі як з класічнай і новай яўрэйскай драматургіі, так і з сусветнай класікі. У 1938 г. ёй прысвоілі званне заслужанай артысткі БССР.

У канцы 20-х гадоў у Беларускім дзяржаўным яўрэйскім тэатры ў Мінску ішлі п'есы "Ботвін" Воевіоркі, "Гірш Лекерт" Кушнірова, "Авечая крыніца" Лопэ-дэ-Вега, "Шэйлак" Шэкспіра, "Свята ў Касрылоўцы" Шолам-Алейхема, "На пакаянным ланцугу" Перэца, "Скапен" Мальера, "Патомства" Галоўчынера, "Гопля, мы жывём" Толера і інш. Тэатр практыкаваў гастролі ў іншыя саюзныя рэспублікі. У 1928 г. ён выступаў у Харкаве, Кіеве і Адэсе.

Калі і можна знайсці які-небудзь слабы бок у дзейнасці Беларускага дзяржаўнага яўрэйскага тэатра, дык гэта, бадай, мо толькі яго адрыў ад мясцовай, пераважна беларускай тэматыкі. Не выключана, што яму былі проста не даспадобы творы адносна маладой беларускай нацыянальнай драматургіі, каб перакладаць іх на яўрэйскую мову і ставіць на сцэне свайго тэатра. Беларуская тэматыка не ўвайшла і ў драматычныя творы, што належалі яўрэйскім аўтарам. Таму ў рэпертуары тэатра пераважалі творы немясцовых аўтараў, што не садзейнічала інтэграцыйным працэсам у сферы беларуска-яўрэйскіх культурных сувязяў, не спрыяла далучэнню яўрэяў да духоўных каштоўнасцяў карэннага насельніцтва краю.

Як бачым, літаральна за лічаныя гады выявілася, што беларусізацыя ідзе і ні ў чым не падрывае інтарэсаў яўрэйскай нацыянальнай меншасці. Наадварот, адчуўшы ў выніку такой палітыкі цвёрды грунт пад сваімі нагамі, яе інтэлігенцыя, як ніколі раней, плённа, з вялікім натхненнем працавала на розных дзялянках яўрэйскай культуры на Беларусі. Гэтаму ніхто не збіраўся перашкаджаць з боку карэннага насельніцтва. Большасць беларусаў шчыра радавалася не толькі дасягненнямі яўрэяў у адраджэнні сваёй культуры, але і ўсіх астатніх нацменшасцяў, што абралі беларускую зямлю ў якасці другой радзімы.

УГОДКІ

# Жыццёвых лістападаў золата

## ДА 95-годдзя З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ Міколы ХВЕДАРОВІЧА

"Залаты лістапад" — так назваў ён сваю кнігу паэзіі, што выйшла ў 1957 годзе. Паміж папярэднім зборнікам "Усім сэрцам" і ёю пралягло ажно дваццаць гадоў! Столькі пражыта было за гэты час і столькі жыццёвых лістападаў прайшло далёка ад родных мясцін.

А пачалося ўсё 8 жніўня 1938 года. Тады паэт разам з жонкай і маленькім сынам Артурам адпачываў у тагачасным Доме творчасці пісьменнікаў у Пухавічах. За некалькі дзён да гэтага тут жа, у Доме творчасці, арыштавалі Андрэя Александровіча. Цяпер жа прыйшла яго чарга.

Суд пачаўся 1 верасня 1939 года. Па збегу абставін адвакатам выступіў В. Карпік. Той самы В. Карпік, які да 1938 года працаваў старшынёй спецкалегіі Вярхоўнага суда БССР. Калі праводзілася ў НКУС чарговая чыстка, ён трапіў у няміласць, быў выключаны з партыі і разам з іншымі "праведнікамі" перайшоў у калегію адвакатаў. Хіба можна было разлічваць на падтрымку такога чалавека. Дый ці хто-небудзь тады да абаронцаў прыслухоўваўся?! Суд працягваўся два дні. Але справу перадалі на даследаванне (М. Хведаровічу сфабрыкавалі прыналежнасць да контррэвалюцыйнай нацыяналістычнай арганізацыі), а самога арыштаванага перавялі ў полацкую турму, потым — у барысаўскую. І зноў суд, а ў выніку атрымаў восем гадоў.

Трапіў на Кольскі паўвостраў, дзе непадалёку ад Манчагорска працаваў на лесапавале. Затым была сыктыўкарская турма, пасёлак Вожавель, які знаходзіцца ў Комі. Чаканае вызваленне прыйшло ў 1946 годзе, калі з сям'ёй крыху больш двух гадоў пражыў ва ўзбекскім гарадку Каршы. Аднак радавацца было рана. Зноў арыштавалі па тым жа самым 58-ым артыкуле і выслалі на пасяленне ў Краснаярскі край. У Мінск прыехаў толькі ў канцы 1955 года...

А нарадзіўся Мікалай Фёдаравіч Чарнушэвіч (сапраўднае прозвішча пісьменніка) 6 красавіка 1904 года ў Капылі. У час першай сусветнай вайны трапіў у прытулак для дзяцей-бежанцаў у Калузе (Расія), дзе ў маленстве сустракаўся з Цыялкоўскім. Па вяртанні на радзіму вучыўся ў Цімкавіцкім гарадскім вучылішчы, пасля прыходу немцаў батрачыў. У 15-гадовым узросце стаў адным з арганізатараў камсамольскіх ячэек на Случчыне. Прымаў актыўны ўдзел у рабоце мясцовых прадатрадаў і часцей асобага прызначэння.

Цяпер аб прадатрадах і асабліва аб часцях асобага прызначэння гучыць шмат негатыўнага. Атрымліваецца, што ў гэтыя органы ішлі адны нелюдзі. Але лепей зазірнуць у дакументальна-мастацкую аповесць самога М. Хведаровіча, выдадзеную ў 1978 годзе. Невыпадкова пісьменнік даў ёй назву — "Споведзь перад будучыняй". Успамінаючы агнявое юнацтва, аўтар сапраўды рабіў споведзь перад новымі пакаленнямі, расказваючы, як змагаліся юнакі паслярэвалюцыйных гадоў за лепшую будучыню. У аповесці можна прачытаць і пра тое, як у 1924 годзе, працуючы камісарам ваенкамата па дапрызыўной падрыхтоўцы моладзі, М. Хведаровіч рабіў крокі ў літаратуру.

З вершамі выступіў у друку ў 1925-ым. Акрылены, апантаны, прамаўляў вуснамі лірычнага героя даверліва, шчыра.

Назвы першых паэтычных зборнікаў М. Хведаровіча былі вытрыманы ў духу часу "Настроі", "Рытмы", "Баявыя песні", "Тэмпы-кантрасты"... Пад псеўданімам Себасцян Старобінскі даволі часта выступаў у перыёдыцы з пародыямі, сатырычнымі вершамі. Лепшыя з іх склалі змест кнігі "Ха". Належаў да тых пісьменнікаў, якія творчую працу спалучалі з актыўнай грамадскай дзейнасцю. Часта выязджаў на новабудоўлі, у іншыя рэспублікі. Працаваў у часопісах "Партыйны работнік", "Бальшавік Беларусі", у кабінеце маладога аўтара Саюза пісьменнікаў БССР, у часопісе "Полымя рэвалюцыі". У 1932—1933 гадах рэдагаваў часопіс "Чырвоная Беларусь".

...З другой паловы 50-х гадоў і пачалося для Мікалая Фёдаравіча вяртанне ў літаратуру. Услед за "Залатым лістападам" выходзяць кнігі: "Перазвон бароў", "Зоркі на камені", "Крынічка"... У 1965 годзе з'явілася кніга выбранага "Пасля навальніцы", у 1974-м — выбраныя творы ў двух тамах. Пісаў таксама для дзяцей, шмат увагі аддаваў перакладу. Яшчэ да арышту ў яго пераўвасабленні па-беларуску паспелі пабачыць свет паэмы А. Пушкіна "Каўказскі нявольнік", "Бахчысарайскі фантан", "Казка пра цара Салтана" і іншыя творы. Разам з Алесем Звонакам пачаў перакладаць "Віцязя ў тыгравай шкуры" Ш. Руставелі. Гэты пераклад асобнай кнігай выйшаў у 1966 годзе. А кніга выбраных твораў Ш. Пецёфі "Ліра і меч" пабачыла свет у 1971-м. Дарэчы, за прапаганду венгерскай паэзіі на беларускай мове М. Хведаровіч у 1981 годзе стаў лаўрэатам прэміі венгерскага агенцтва па літаратуры і мастацтве "Артысіуз".

Каму даводзілася сустракацца з Мікалаем Фёдаравічам, адчувалі, як прыемна, неяк адразу спакойна станавілася на душы пасля размоў з гэтым цудоўным чалавекам. Ён належаў да людзей, якія пастаянна выпучаюць энергію дабрыні. Гэтай дабрынёй прасякнута і яго кніга ўспамінаў "Памятныя сустрэчы", якая вытрымала тры выданні, і "Незабыўнае". Згадкі пра сяброў-паплечнікаў, а таксама пра старэйшых пісьменнікаў атрымаліся шчырымі, з яркімі падрабязнасцямі з іх жыцця і творчасці. Магчыма, каб іншы час, ён напісаў бы і пра пражытае на віхурных, нялёгкіх паўстанках. Але тады было не да глыбокага капання ў мінулым. Як і У. Дубоўка, як і С. Шушкевіч, як і А. Звонак, як і Я. Скрыган і іншыя, ён многае недагаворваў.

Не стала М. Хведаровіча 20 жніўня 1982 года.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**



**Саюз беларускіх пісьменнікаў выказвае глыбокае спачуванне БУГАЁВУ Дзмітрыю Якаўлевічу з прычыны напаткаўшага яго гора — смерцю брата.**

**Рэдакцыя часопіса "Полымя", Рэспубліканскі літаратурна-мастацкі фонд "Гронка" выказвае глыбокае спачуванне члену рады фонду КАРОБКІНУ Уладзіміру Андрэевічу ў сувязі з напаткаўшым яго вялікім горам — смерцю бацькі.**

КАНТАКТЫ

# Экспанаты знявечанай свабоды

Невялічкая інфармацыйная нататка "З савецкага падполля" ў адной з нямецкіх газет: пашыранае паведамленне пра выставу рускага літаратурнага андэграўнда ў "Везербургу" — музеі новага мастацтва.

У ёй — колькі слоў пра феномен самвыдата ў СССР 60—80-х гадоў, пра рукапісныя масавыя выданні. Пра дзяленне культуры на дзве: афіцыйную і падпольную, афіцыйную і неафіцыйную (чытаючы гэта, я падумаў, што нядрэнна было б нямецкаму чытачу ведаць, што гэты падзел меў асновай і розныя ўваходы ў магазіны: парадны, дзе нічога не было, і "чорны", дзе было ўсё). Брэменцы маюць магчымасць убачыць малую частку гэтых выданняў, культурны прадукт (тут якраз мне магазіны і ўспомніліся...) знявечанай свабоды. Нямецкія літаратуразнаўцы лічаць, што самвыдат быў адной з галоўных формаў пратэсту супраць абмежаванняў "сацыялістычнага рэалізму" і амерыканскага пап-арту, адной з формаў барацьбы за свабоду слова. Арганізатары выставы — Брэменскі сенат і інстытут Усходніх культур пры мясцовым універсітэце.

Калісьці ў тыя самыя 60-я гады, памятаю, прывялі мяне знаёмыя журналісты ў падвал Дома друку, дзе размяшчаліся фоталабараторыі ўсіх газет, і далі "на пяць хвілін" перадрукаваны на машынцы "Рэквіем" Ахматавай. Потым я чытаў у такіх "спісках" Мандэльштама, Твардоўскага, Шаламава, Кабакова, Прыгава... Але выстава!

Пайшоў. Не адразу знайшоў у велізарным музеі тры пакойчыкі "рускага закутка". Дапамаглі ў пошуках не стрэлкі-падказкі ("чытаю" і "размаўляю" на нямецкай мове і зараз з вялікай цяжкасцю і амаль нулявым эфектам), а знаёмыя непаўторныя гукі: ля ўвахода на рускую "падпольную" тэрыторыю вас сустракае голас "роднага і любімага" Леаніда Ільіча — гучыць фанаграма прамовы Брэжнева на з'ездзе камсамола 23 верасня 1974 года. (Так яна і гучала — бесперапынна ўсе тры месяцы, пакуль працавала выстава, ствараючы сучасную экспанатам гукавую атмасферу).

Савецкі андэграўнд у Брэмен прывёз "жывы" самвыдатчык паэт Яўгеній Сапгір, які ў тыя цяжкія часы карміўся цудоўнымі "нечаканымі" дзіцячымі вершамі і адначасова таемна пісаў "сапраўдныя" вершы. Калі ён вадзіў рускія экскурсіі, выстава ажывала. Мне не пашанцавала — Сапгіра ў той дзень не было. Хадзіў, глядзеў, чытаў, думаў — сам.



Уяўленне пра з'яву самвыдата, нягледзячы на невялікую колькасць экспанатаў, я атрымаў. Іншая справа: што гэта за ўяўленне? (І для з'явы, і для мяне добра, што я не літаратуразнаўца, а проста дастаткова вопытны чытач).

Вершы і проза, газеты і фотаальбомы — у блакнотах, на асобных аркушыках, у канторскіх кнігах — усё рукапіснае, частка машынапіс.

Булатаў... Васільеў... Скерсіс... Д. Арлоў — шмат прозвішчаў, пра якія мы і тады нічога не чулі, і зараз не ведаем.

..."Прачытаў — перадай другому!", "Увага — аўтар сярод вас!", "Адкрыць сярод глыбокай начы!".

Вагрыч Бахчаян. "Джамбул-калаж". Паэма. Масква. 1973 г. Пародыя "пры ўсёй сур'ёзнасці".

*Подобен Ленину*
*Сталин наш,*
*Петь о нём —*
*не хватает слов.*
*...Гори в Кремле, не сгорая,*
*Мы несем тебе*
*песни сердца и цветы.*

Аляксандр Брэнер. Раман "Японскі бог"... "Сядзеў у цёмнай залі, глядзеў фільм Скарсеза. Госпадзі, як захацелася ў Нью-Йорк, госпадзі, бля буду... Мыў падлогу ў вучылішчы для равінаў, а за мной сачылі, каб не пакінуў нямытым ніводнага квадратнага сантыметра... О, як я ненавіджу ўсіх гэтых брудных мудакоў, якія робяць выгляд, што яны ведаюць, што такое жыццё, што такое мастацтва. Гаўно, гаўно! Ці шукаў я Бога? Магчыма... І — знайшоў — імя яму: "Японскі бог!".

У пачатку рамана на "шнуравой" кнізе — фота аўтара з жонкай і дзіцем. Я разумею, што цытаваць тры радкі з рамана — справа несур'ёзная, але лепей "тры", чым зусім нічога. Ці хоць назваць прозвішчы... А ўжо якія яны там пісьменнікі — паэты, мы б паспрабавалі разабрацца, пачытаўшы...

Р. Лебедзеў... І. Чуйкоў... Ю. Янкелеўскі...

Брашура з назвай "Вакол нас — усё". Машынапісны зборнік Мандэльштама... Мікалай Глазкоў... Памятаю тое здзіўленне і захапленне тагачасных маладых аматараў паэзіі гэтай сінтэтычнай і незвычайнай з'явай — паэт-скульптар-мастак Мікалай Глазкоў: ні на кога не падобны!

*— Анюта, тебя я люблю,*
*Но скажи,*
*Рояль я куплю*
*На какие гроши?*

*— Ах, не прибедняйся,*
*К чему эта ложь?*
*С друзьями не шляйся,*
*Поменьше пропьешь.*

*— Друзья тоже люди,*
*Их надо любить,*
*Ведь только верблюды*
*Умеют не пить.*

*— Сосед Кугельман,*
*Как ты знаешь, не пьет.*
*Сердился Степан:*
*— Кугельман идиот!..*

І гэтак далей — няхітры, просценькі такі глазкоўскі дыялог на нашу вядомую тэму — бытавую, знаёмую, родную.

А вось і Прыгаў... Ад таленавітасці да "ідыятызмаў" — такая яго эпатуючая палітра. "Гульня" ў алфавіт: чаргаванне спалучэння з літарамі алфавіту слоў "Прыгаў-Пушкін", "Пушкін-Прыгаў". І побач цудоўныя радкі з "Седьмого гробика отринутых стихов" з наклееным на вокладку партрэтам Брэжнева. Дзесятак машынапісных прыгаўскіх зборнікаў — "Некралогі", "Маска", "Значэнне..." — белыя аркушы паперы, сшытыя чорнымі ніткамі... Пад шклом. Экспанаты.

Чатырнаццаць самаробных кніжак Ілі Кабакова, аднаго з самых вядомых самвыдатаўцаў, — "Кухонная серия".

І — сцяна Сапгіра. Тут шмат чаго, і ўсё, што ёсць, напісана ў самым розным стане душы, у розныя перыяды "эпохі развітога сацыялізму", але напісана — паэтам.

"Пробовали мы быть людьми... Давно дело было...", "Я пыльный том седого графомана, но лишь открой картонный переплет, И утренней прохладой пахнет, И колокол услышишь из тумана..."

*— То соды нет,*
*то колбасы и сыра,*
*То шапок нет, —*
*куда я ни зайду,*
*Но я встречал*
*и большую беду:*
*Нет близких,*
*нет здоровья,*
*нет квартиры.*
*Нет радости,*
*нет совести, нет мира,*
*Нет уваженья*
*к своему труду,*
*Нет на деревне*
*теплого сортира,*
*Нет урожая*
*в будущем году,*
*Но есть консервы —*
*рыбные тефтели,*
*Расплывчатость*
*и фантастичность цели,*
*Есть подлость,*
*скука и балет,*
*Леса и степи,*
*стройки и ракеты,*
*Есть даже люди*
*в захолустье где-то,*
*И видит бог...*
*Хоть бога тоже нет.*

Яго ж санеты: страшнаваты "Вянок", "хуліганскі" "Прыап", філасафічна-здзеклівае "Цела" (Санет на кашулі) — ..."Дарю себя, пожалуйста, примерьте, Начните от рожденья и до смерти, Пожалуй, скиньте, если надоест. Я многим тесно, а иным просторно, Но вчуже видеть, просто смехотворно, Как это решето спит, любит, ест".

Безумоўна, многія пачыналі пісаць у знак пратэсту, многія — таму што не маглі не пісаць, і паколькі "самавыяўляліся" ў эпоху знявечаных нораваў, то сам сабой атрымліваўся пратэст і — самвыдат.

Усевалад Някрасаў... Ігар Холін... Мікалай Катралёў... Ірына Піваварава...

Рукапісная газета "Левиофан", выдавец — Міхаіл Гробман. 1975 г., N 1. Артыкулы: "Мадрыгал Кручаных", "Моды ў краіне", "Малака і мёду", "Практыка магічнага сімвалізму", "Быццё", "Некралогі", заўвагі, паведамленні... Нармальная насценная газета, але —, змест...

Сядзеў чалавек ноччу, які-небудзь савецкі ўрач-настаўнік-МНС — можа, сям'я ў яго была і дзеці, сядзеў з рызыкай "сесці", быць звольненым, прапасці, сядзеў — і пісаў вось гэта... Стаю і думаю: "Навошта? Што яму трэба было? Што з ім сталася?" Магчыма, адной з мэт Гробмана і была вось гэтая: каб я стаяў перад газетай, перад вершамі гэтымі вось так і задаваў сабе гэтыя пытанні і думаў пра тое, што і як сам напішу? Многага я на выставе не зразумеў, але не прыняў толькі аднаго: парнаграфіі слова, "голага" натуралізму... Гэта ўжо не пратэст, а фізіялагічная істэрыка, — самвыдатаўцы ж у асноўным былі людзьмі мужнімі.

І. Макарэвіч... А. Альберт... М. Штэрнберг... М. Сталкоўская...

Калі ўспрымаць гэту выставу, правільней тое, што яна экспануе, як дзеянне ва ўмовах безвыходнасці, выключыўшы з яго элемент пратэсту, то як мастацтва, як літаратура — не шмат што прыцягнула б увагу: ад дзесяткаў імёнаў, магчыма, застаўся б дзесятак. Але, як мы ведаем, нават жалеза "чыстага" няма. І таму — гонар і хвала тым, хто ва ўмовах несвабоды не толькі жыў, але і дзейнічаў, хаця і не быў Пушкіным-Прыгавым, Прыгавым-Пушкіным.

Выстава — гэта ўпарадкаванне, сістэматыка, спроба асэнсаваць з'яву ў часе — у яго сацыяльным, палітычным, маральным кантэксце, у "эмоцыях веку", нарэшце.

І добра, што гэта ёсць, нават калі перад гэтым спыняешся ў недаўменні, але часам — усё ж і ў здзіўленні.

**Навум ЦЫПІС**

*г. Брэмен*

*На здымку*: адзін з экспанатаў выставы — кашуля з вершам Я. Сапгіра.

Марцін КОЎЗКІ

# Доля праўды

Ёсць на эстрадзе слова "чос", з шаноўнай публікі вычэсваюць "рублікі". Ходзім на розныя "культурныя мерапрыемствы", а для некага гэта найперш прадпрыемствы. Дэкады, агляды, базары, фанфары, "сама Ала", сам Філя"... Досыць нам ужо галаву надурылі. Якім бы ты флагам ні трос, "чос" ён і ёсць "чос".

•

Аб'явы пра выставу сучаснага плаката наклеены крыва і нізкавата? Мо схоплена сутнасць самой з'явы, бо хто іх бачыць, прадметы аб'явы? Яно і зараз на паказ не плакаты ж заклікаюць нас.

•

Быў жывым і грэшным паэт. Тады з яго зрабілі партрэт. Тады ікону. Праўда, пасля ўжо скону. Цяпер даволі паспешна даводзяць, што быў ён грэшны. Няма тут нічога смешнага, няма і куды падзецца. Ніякай супярэчлівасці, звычайнасці літаратураедства.

•

Не адварочвайся ад людзей, нават калі яны табе надакучылі. Можаш сутыкнуцца тварам у твар з такімі ж, як ты, мучанікамі. Што ты тады скажаш людзям, чаго ты ўсё круцішся.

•

Голая праўда, мадэльерам яна нецікавая. Размаітасць прыкрытага — вось у чым моды слава. Тут адно не сыходзяцца аналітыкі: ці гэта палітыкі пераймаюць мадэльераў, ці мадэльеры — палітыкаў.

•

Па колькасці помнікаў Леніну Беларусь ці не самая населеная. Ды вакол тых манументаў дасюль мірсцяцца цені. Гэта ж Беларусь па "праціўніках" Леніна была ці не самая расстрэльная.

•

"Савецкае" не гучыць як "ідэйнае" болей. "За Саветамі" кажуць спакойна ў Польшчы. Можа, і ў нас калі-небудзь "савецкае" стане гучаць як "пераадоленае". Тады і страшнае "антысавецкае" не будзе здавацца такім крамольным.

•

Ставяць у краіне беларусаў доследы па пераўтварэнні беларусаў у небеларусаў, першыя фіксуюць дасягненні: немаўля цярэбіць маме блузку, цыцу просіць пасмактаць па-руску.

•

— Артыст народны рэкламуе чай, — прыходзяць тэатралкі ў адчай. Хаця — што скажаш, годнасць — гэта годнасць, ды кошт жыцця з "народнымі" не згодны.

•

Можна вызваць узбурэнне ў народзе, спыніўшы трансляцыю хоць на тыдзень, цяжка нават прадказаць зыходы. Ды, дзякуй Богу, санта-барбардыроўка доўжыцца і, кажуць, працягнецца наступнае тысячагоддзе.

•

Начальнік першага аддзела другога ўпраўлення. Другога, першага... Для вас гэта не мае значэння, неістотным здаецца і нам. А недзе наверсе яго даклады, можа, чытае "сам". А той "сам" у нейкага "сама" таксама толькі ў "намах".


ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА
ЛіМ
ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ

ЗАСНАВАЛЬНІКІ

**Саюз беларускіх пісьменнікаў; рэдакцыя газеты "Літаратура і мастацтва"**

**ВЫХОДЗІЦЬ З 1932 ГОДА**

**Галоўны рэдактар Алесь ПІСЬМЯНКОЎ**

**РЭДАКЦЫЙНАЯ РАДА:**
**Святлана БЕРАСЦЕНЬ,**
**Павел ВЕРАБ'ЁЎ** — *намеснік галоўнага рэдактара,*
**Мікола ПІЛЬ,**
**Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ,**
**Жана ЛАШКЕВІЧ,**
**Алесь МАРЦІНОВІЧ,**
**Барыс ПЯТРОВІЧ** — *першы намеснік галоўнага рэдактара,*
**Людміла РУБЛЕЎСКАЯ,**
**Віктар ШНІП** — *адказны сакратар*

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
220005, Мінск, вул. Захарава, 19

**ТЭЛЕФОНЫ:**
прыёмная рэдакцыі — 284-8461
намеснікі галоўнага рэдактара — 284-8525, 284-7985
**АДДЗЕЛЫ:**
публіцыстыкі — 284-8204
пісьмаў і грамадскай думкі — 284-7985
літаратурнага жыцця — 284-8462
крытыкі і бібліяграфіі — 284-7985
паэзіі і прозы — 284-8204
музыкі — 284-8153
тэатра, кіно і тэлебачання — 284-8153
выяўленчага мастацтва, аховы помнікаў — 284-8462
навін — 284-8462
мастацкага афармлення — 284-8204
фотакарэспандэнт — 284-8462
бухгалтэрыя — 284-7965

*Пры перадруку просьба спасылацца на "ЛіМ".*
*Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.*
*Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з меркаваннямі і думкамі аўтараў публікацый.*

**Набор і вёрстка камп'ютэрнага цэнтра тыднёвіка "ЛіМ"**

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах

Друкарня "Беларускі Дом друку" (г. Мінск, пр. Ф. Скарыны, 77)

Індэкс 63856.
Наклад 3795
Нумар падпісаны ў друк 15.4.1999 г. у 17.30.
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 715
Заказ 1785Г

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12